АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

# ПОМНІКІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ



ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА"
МІНСК 1975

Укладанне,
уступныя артыкулы і
каментарыі
кандыдата філалагічных навук
А. Ф. КОРШУНАВА

Рэдактар
доктар філалагічных навук
Ю. С. Пшыркоў

Рэцэнзенты:
кандыдат гістарычных навук С. А. Падокшын,
кандыдат філалагічных навук В. А. Чамярыцкі

П $\frac{70303-099}{М316-75}$ 64—75

# УВОДЗІНЫ

Сярэдневяковая культура Беларусі надзвычай багата помнікамі царкоўна-рэлігійнай і свецкай пісьменнасці. Але, на жаль, яны яшчэ далёка не ўсе выяўлены і слаба вывучаны. Размешчаная ў розных архівах і бібліятэках СССР, а часам і замежных, гэта культурная спадчына беларускага народа практычна застаецца пакуль што маладаступнай нават для таго, хто спецыяльна займаецца вывучэннем гісторыі нацыянальнай культуры, ужо не кажучы пра радавога чытача. А без непасрэднага знаёмства са зместам твораў старажытнай пісьменнасці не можа быць і сапраўднай навукі.

Вось чаму, калі мы хочам ведаць, як і чым жылі нашы продкі, што іх тады хвалявала, які быў іх разумовы і грамадска-палітычны кругагляд, што яны пакінулі сваім нашчадкам і чым канкрэтна ўзбагацілі ўласную культуру, нарэшце, што ўяўляла сабою гэта культура і які характар яна насіла, неабходна наладзіць публікацыю саміх тэкстаў. Неадкладнае вырашэнне гэтай праблемы вымагаецца тым, што многія з помнікаў з'яўляюцца унікальнымі рэчамі, паколькі застаюцца яшчэ ў рукапісах. А колькі іх з прычыны розных гістарычных акалічнасцей ужо беззваротна згублена! Такі незайздросны лёс напаткаў не толькі рукапісныя, але нават і друкаваныя творы. Пра іх існаванне мы ведаем толькі па тых назвах, якія сустракаюцца ва ўспамінах саміх аўтараў, у творах іх ідэйных праціўнікаў ці часам у бібліяграфічных даведніках дарэвалюцыйных бібліёграфаў.

Абумоўленая практычнай неабходнасцю ведаў пра далёкае мінулае Беларусі, яе эканамічнае, палітычнае і культурнае жыццё, пра яе сувязі і ўзаемадзеянні з іншымі краінамі еўрапейскага свету таго часу, публікацыя лепшых здабыткаў духоўнай культуры эпохі сярэдневякоўя зараз набывае надзвычай важнае не толькі пазна-

вальна-выхаваўчае, але і дзяржаўна-палітычнае і культурнае значэнне.

Выконваючы камунікатыўную функцыю, помнікі пісьменнасці разам з тым на ўсім працягу гісторыі не пераставалі быць моцным сродкам ідэалагічнага ўздзеяння на народ. У яго ідэйна-класавай барацьбе супраць ворагаў — а ў іх ніколі не было недахопу — яны служылі народным масам вострай і трапнай зброяй. Іменна таму найбольш яркія палемічна завостраныя творы ўжо тады, як правіла, бязлітасна знішчаліся. Толькі некаторыя з іх цудам уцалелі і захаваліся да нашых дзён нярэдка ў адзінкавых экземплярах («Фрынас» Мялеція Сматрыцкага і некаторыя іншыя). Выкліканыя патрэбамі жыцця тагачаснага грамадства, яны не згубілі сваіх каштоўнасцей і для нас. А таму нашым свяшчэнным абавязкам перад народам і яго нацыянальнай культурай з'яўляецца захаванне іх для нашчадкаў. Задача заключаецца ў тым, каб, пакуль яшчэ не позна, бо і папера мае пэўны тэрмін жыцця, актывізаваць выяўленне і публікацыю пісьмовых помнікаў нацыянальнай культуры.

Нельга сказаць, што помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці не прыцягвалі да сябе належнай увагі ў дарэвалюцыйныя часы. Ужо з сярэдзіны мінулага стагоддзя да духоўнай спадчыны Беларусі была праяўлена павышаная цікавасць з боку рускай і польскай інтэлігенцыі. Асабліва вялікую работу па выяўленню кніг старажытнага друку прарабілі бібліёграфы, працы якіх не згубілі сваёй каштоўнасці і да сённяшняга дня, а па выяўленню помнікаў царкоўна-рэлігійнай пісьменнасці—прадстаўнікі царкоўнай інтэлігенцыі. У выніку іх напружаных архіўных пошукаў было выяўлена багата цікавых гістарычных дакументаў і даўно забытых як рукапісных, так і друкаваных твораў старажытнай пісьменнасці. Значная частка гэтых помнікаў была апублікавана імі ў навуковых даследаваннях, тэматычных зборніках і ў спецыяльных выданнях Віленскай, Пецярбургскай і Кіеўскай археаграфічных камісій.

Аднак пры ўсёй значнасці праробленай дарэвалюцыйнымі даследчыкамі працы па адшуканню і публікацыі помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці нас не можа сёння задаволіць тлумачэнне гэтых твораў, калі яны разглядаліся як з'явы перыферыйнай рускай або польскай нацыянальнай культуры. Адмаўляючы ім у на-

цыянальнай самабытнасці, дарэвалюцыйныя даследчыкі разам з тым знарок, асабліва ў дачыненні да твораў царкоўна-рэлігійнай пісьменнасці, імкнуліся пазбягаць асвятлення вострых пытанняў тагачаснай ідэйна-класавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы народа супраць духоўных і свецкіх феадалаў. Тым самым яны збядняли грамадска-палітычны сэнс і значэнне гэтых твораў і абмяжоўвалі іх сацыяльнае гучанне рамкамі толькі чыста рэлігійнай барацьбы. А за гэтай барацьбой стаялі пэўныя класы са сваімі акрэсленымі і ярка выражанымі саслоўнымі інтарэсамі, якія далёка не заўсёды супадалі з кроўнымі інтарэсамі простага люду, імем якога яны прыкрываліся. Апрача таго, дарэвалюцыйныя даследаванні былі абцяжараны грузам вялікадзяржаўнага рускага шавінізму і польскага нацыяналізму.

Аддаючы належнае праробленӑй да рэвалюцыі працы па выяўленню і захаванню помнікаў духоўнай культуры беларускага народа, мы разам з тым павінны сказаць, што яна засталася незавершанай і таму патрабуе далейшага працягу. Неабходнасць выдання помнікаў старажытнай пісьменнасці зараз вымагаецца вострай патрэбай больш глыбокага і грунтоўнага асвятлення гісторыі развіцця грамадскіх навук таго часу. Публікацыі ж тэкстаў палемічнай літаратуры і некаторых іншых жанраў і відаў сярэдневяковай пісьменнасці за даўнасцю часу самі ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

Такім чынам, праблема навуковага выдання помнікаў старажытнай культуры даўно наспела і чакае практычнага вырашэння. Публікацыі ж, ды і то частковыя, якія былі зроблены за апошнія 15 год у навуковых даследаваннях, «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (1959) і «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (1961), а таксама ў кнізе «З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі» (на рус. мове, 1962), далёка не вырашаюць гэтай праблемы ў яе поўным аб'ёме. Зроблена яшчэ мала ў параўнанні з тым, што трэба зрабіць і што ўжо робяць нашы суседзі — рускія, украінскія і польскія медыявісты.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў навуковых адносінах наша культурная спадчына — яшчэ некранутая цаліна. Для сістэматычнага і плённага вывучэння, як і для публікацыі помнікаў, спатрэбяцца значны час і намаганні шырокага кола даследчыкаў па ўсіх галінах на-

вук гуманітарнага профілю, бо пытанні літаратуры, гісторыі, юрыспрудэнцыі, філасофіі і асабліва грамадска-палітычнай і сацыялагічнай думкі ў помніках тагачаснай пісьменнасці цесна ўзаемазвязаны паміж сабою. Яны ўяўляюць адзіны непарыўны ідэйны комплекс. А гэта значыць, што аўтаномія той ці іншай канкрэтна ўзятай галіны з пералічаных навук па тых часах мела толькі адносны характар.

Зразумела, што пры такіх акалічнасцях падзел і класіфікацыя помнікаў сярэдневяковай пісьменнасці па іх профілю ў значнай ступені абцяжарваюцца. Але гэта не азначае, што падзел наогул нельга ажыццявіць так, каб ён быў прымальным і не дапускаў адвольнасці ў аднясенні твораў пісьменнасці да той ці іншай галіны навукі. Пазбегнуць жа такой адвольнасці, відаць, можна толькі тады, калі паслядоўна і цвёрда прытрымлівацца жанравай структуры і ідэйна-тэматычнага падабенства твораў старажытнай пісьменнасці.

Са сказанага вынікае, што выданне і перавыданне твораў сярэдневяковай пісьменнасці зручней за ўсё ажыццяўляць па жанравай прыкмеце. Тым больш што пачатак такому прынцыпу быў пакладзены публікацыяй «Прадмоў і пасляслоўяў» Ф. Скарыны (1969).

Думаецца, на чаргу павінна стаць задача збору і выдання шматлікіх прадмоў і пасляслоўяў іншых вядомых і невядомых аўтараў XVI—XVIII стст., якія пісалі ў гэтым жанры і друкавалі свае творы ў самых разнастайных па функцыянальнаму прызначэнню кнігах, што выходзілі тады ў свет на розных мовах. Сабраныя ў адзіны звод, яны далі б поўнае ўяўленне аб характары развіцця гэтага жанру тагачаснай пісьменнасці, аб яго месцы, ролі і значэнні ў грамадска-палітычным і культурным жыцці свайго часу, аб яго спецыфіцы і той трансфармацыі, якой ён падвяргаўся на працягу свайго бытавання. Гэта надзвычай важна, бо як своеасаблівы і спецыфічны жанр кніжнай пісьменнасці ён існуе яшчэ і зараз. А закладзеная ў ім жывая пераемнасць традыцый забяспечыць яму неўміручасць і ў будучым.

Варта было б сабраць і выдаць асобнай кніжкай і такі не менш важны для часоў Рэфармацыі і Контррэфармацыі пласт помнікаў кніжнай культуры, як празаічныя прысвячэнні, без якіх тады рэдка калі абыходзіліся выданні кніг вострапалемічнага зместу. Адрасаваліся яны

таму або іншаму магнату, на матэрыяльную ці палітычную падтрымку якога аўтары і выдаўцы гэтых кніг разлічвалі ў ажыццяўленні сваіх ідэйна-палітычных мэт. Напісаныя ў публіцыстычным плане, гэтыя прысвячэнні неслі адбітак бурна пульсуючай грамадскай думкі з яе досыць складанай расстаноўкай саслоўна-класавых сіл.

У часы Рэфармацыі і Контррэфармацыі надзвычай вялікае значэнне надавалася творам аратарскага мастацтва як важнаму сродку агітацыі ў напружанай і вострай ідэалагічнай барацьбе. Прасякнутыя палітычнымі матывамі, гэтыя творы вылучаліся досыць высокім узроўнем мастацкага майстэрства. У царкоўна-рэлігійнай пісьменнасці яны былі прадстаўлены шматлікімі казаннямі, словамі, павучаннямі і іншымі жанравымі разнавіднасцямі, а ў свецкай пісьменнасці — сеймавымі прамовамі і літаратурнымі містыфікацыямі накшталт «Прамовы Івана Мялешкі» або «Прамовы К. К. Астрожскага». Сярод выдатных майстроў царкоўнага красамоўства асабліва вылучаліся Ст. Зізаній, Л. Карповіч, М. Сматрыцкі, І. Пацей. Аднак творы гэтага віду літаратурнай творчасці яшчэ поўнасцю не выяўлены і таксама чакаюць публікацыі і навуковага даследавання.

Значнай з'явай у культурным жыцці сярэдневяковай Беларусі было зараджэнне і развіццё паэтычнай творчасці на лацінскай, царкоўнаславянскай, беларускай і польскай, а крыху пазней і на рускай мовах. І калі пра паэзію таго часу на царкоўнаславянскай і беларускай мовах у нас ёсць, хоць і далёкае ад паўнаты, уяўленне па публікацыях, зробленых у дарэвалюцыйных выданнях і паслярэвалюцыйных літаратурных хрэстаматыях, дык пра паэзію на польскай і асабліва на лацінскай мовах мы ведаем зусім мала. А між тым на гэтых мовах існавала шмат цікавых твораў, сярод якіх былі і досыць значныя як па памеру, так і па мастацкіх вартасцях. У некаторых з іх («Песня пра зубра» М. Гусоўскага, «Пруская вайна» Яна з Вісліцы, «Дэкэтэрас акроама» А. Рымшы) ярка і пераканальна адлюстравана тэма гістарычнага жыцця беларускага народа, яго ратных подзвігаў у барацьбе супраць знешніх ворагаў і — што надзвычай важна — вялікая любоў да радзімы, гонар за яе дзяржаўных дзеячоў, замілаванне роднай прыродай. Разнамоўная і разнажанравая друкаваная і рукапісная паэтычная спадчына як царкоўна-рэлігійнага, так і свецкага зместу яшчэ не стала прад-

метам належнай увагі. А што яна варта такой увагі, у гэтым можна не сумнявацца, і пацвярджэннем з'яўляецца тая цікавасць, якая была праяўлена ў апошнія гады да «Песні пра зубра» М. Гусоўскага. Яе тэкст быў апублікаваны спачатку ў рускім, потым у беларускім перакладзе з лацінскай мовы, а ў 1973 г. беларускі часопісны варыянт перакладу выдадзены асобнай кніжкай для масавага чытача. І хоць гэтай публікацыі яшчэ бракуе навуковай дасканаласці, тым не менш яна зрабіла сваю карысную справу, бо паказала, якімі скарбамі паэзіі можа ганарыцца наша літаратурная спадчына. Нам вядомы яшчэ далёка не ўсе імёны тых, хто тры стагоддзі таму назад пракладваў шляхі для развіцця паэзіі. І нават творы тых, каго мы ўжо ведаем як паэтаў, у большасці выпадкаў нам невядомы. Іх яшчэ трэба шукаць. А гэта нялёгкая справа. Яна патрабуе і часу, і вялікіх намаганняў.

Пачынаючы з часоў Контррэфармацыі, калі выключная ўвага надавалася развіццю школьнай адукацыі і асвеце, досыць значнае месца пачала займаць драматургія. Яна была прадстаўлена ў асноўным школьнымі драмамі маралітэ, што часцей за ўсё ўяўлялі сабою інсцэніроўкі асобных біблейскіх сюжэтаў і матываў, і незалежнымі ад зместу школьных драм камедыйнымі сцэнкамі з жыцця і побыту сацыяльных нізоў народа, так званымі інтэрмедыямі, або інтэрлюдыямі. На жаль, тэксты і гэтага роду творчасці яшчэ далёка не ўсе выяўлены, а многія з іх, відаць, і назаўсёды згублены. Дзякуючы намаганням дарэвалюцыйных даследчыкаў школьнага тэатра мы ведаем, што ўяўляў сабою рэпертуар таго або іншага школьнага тэатра на тэрыторыі Беларусі. Але пададзены ў іх даследаваннях пералік назваў пастановак у існаваўшых тады школьных тэатрах мала што ці амаль нічога не дае. Вось чаму варта было б паспрабаваць адшукаць тэксты і гэтага роду літаратурнай творчасці, асабліва ў архівах езуіцкіх і уніяцкіх школ. А разам з тым неабходна сабраць і перавыдаць творы, знойдзеныя даследчыкамі ў дарэвалюцыйны час.

Некранутай цалінай з'яўляецца і перакладная літаратура XVI—XVII стст., аб якой мы маем яшчэ досыць цьмянае ўяўленне. Тое ж самае можна сказаць і пра арыгінальную свецкую літаратуру таго часу. Неабходна ўдзяліць увагу і творам гістарыяграфічнага жанру, асабліва хранографам, мясцовым летапісам і інш.

Прапанаваны намі жанравы прынцып выдання помнікаў старажытнай пісьменнасці прадугледжвае публікацыю як асобных найбольш буйных твораў таго часу, так і збораў твораў тых пісьменнікаў, чый уклад у развіццё літаратуры свайго часу вызначаўся значнай колькасцю твораў, напрыклад Лявонція Карповіча, Мялеція Сматрыцкага, Сімяона Полацкага, Сымона Буднага, Міколы Гусоўскага і некаторых іншых.

Разумеецца, пры падрыхтоўцы да друку помнікаў пісьменнасці нельга абмяжоўвацца толькі ўзнаўленнем іх тэкстаў, таму што для сучаснага чытача яны могуць застацца незразумелымі і нецікавымі і не данесці сваёй пазнавальнай і эстэтычнай вартасці. Вось чаму публікацыя кожнага старажытнага помніка абавязкова павінна суправаджацца навукова-папулярнай прадмовай, якая ўводзіла б чытача ў разуменне той эпохі, а разам з тым раскрывала б характар самога твора і яго ролю ў тагачасным грамадска-палітычным і культурным жыцці. Сам жа тэкст публікуемага твора неабходна забяспечыць па магчымасці шырокім і грунтоўным прадметна-гістарычным каментарыем, дзякуючы якому помнік зацікавіў бы чытача і стаў бы для яго зразумелым.

Каментарый павінен пачынацца сціслай палеаграфічнай даведкай, у якой трэба адзначыць час, месца і прычыны з'яўлення твора, прасачыць гісторыю яго бытавання і распаўсюджання. А пры наяўнасці некалькіх спісаў, калі маем справу з рукапісным помнікам, неабходна ўстанавіць суадносіны іх паміж сабою і вызначыць самы ранні тэкст. Адначасова з гэтым трэба адзначыць месца і стан яго захавання ў сучасны момант, паказаць найбольш характэрныя для дадзенага твора асаблівасці мовы .

У адпаведнасці з правіламі, выпрацаванымі Археаграфічнай камісіяй для публікацыі старажытнай спадчыны, графічныя змены тэксту помніка, разбіўка яго на абзацы і сказы, пропускі слоў у сказе, апіскі, удакладненні і тлумачэнні асобных месц у радках тэксту, расстаноўка знакаў прыпынку і інш.— усё гэта павінна быць агаворана ў кожным канкрэтным выпадку.

Прадметна-гістарычны каментарый павінен змяшчаць у сабе тлумачэнні незразумелых і старых тэрмінаў, маласядомых, але важных для таго часу грамадскіх і царкоўна-палітычных падзей ці намёкаў на іх, даваць расшыф-

роўку дат, пададзеных па царкоўнаму календару, змяшчаць звесткі аб гістарычных асобах і характарыстыку іх дзейнасці, тлумачэнні міфічных імён, рэлігійных свят, геаграфічных месц. Адным словам, у прадметна-гістарычным каментарыі павінна быць растлумачана ўсё, што перашкаджае дакладна і ўсебакова зразумець змест і характар публікуемага твора.

Паколькі мова старажытных твораў значна адрозніваецца ад сучаснай літаратурнай мовы лексікай, у складзе якой досыць часта можна сустрэць нічым не абумоўленыя запазычанні з іншых моў, трэба вынесці ў слоўнік і растлумачыць усе незразумелыя ці цяжкія для разумення словы.

Варта не забываць і пра тое, што ў часы сярэдневякоўя помнікі як царкоўна-рэлігійнай, так і чыста свецкай пісьменнасці часта пісаліся на розных, у тым ліку і на мёртвых (лацінскай і грэчаскай) мовах. Не складалі выключэння і творы пісьменнасці тагачаснай Беларусі. Яны таксама ствараліся не толькі на царкоўнаславянскай і старабеларускай, але і на польскай, лацінскай і некаторых іншых мовах. У арсенале беларускай пісьменнасці таго часу іншамоўныя творы складаюць досыць значную частку. Думаецца, што публікацыю такіх тэкстаў трэба рабіць у двух паралельна змешчаных варыянтах — у арыгінале і перакладзе на сучасную беларускую мову. Натуральна, такі метад выдання ў пэўнай ступені ўскладніць працу, павялічыць памер публікацыі, тым не менш гэта адзіны і бездакорна правільны ў навуковых адносінах шлях. Ідучы па ім, мы захаваем і сам арыгінал тэксту публікуемага помніка і данясём яго змест да неспрактыкаванага ў старабеларускай мове радавога чытача, не парушаючы пры гэтым самога малюнка развіцця тагачаснай пісьменнасці.

Пералічаныя тут меркаванні адносна прынцыпу выдання помнікаў старажытнай пісьменнасці прымаліся намі ў разлік пры падрыхтоўцы да друку гэтай кнігі.

## «ЛІСТЫ» Ф. С. КМІТЫ-ЧАРНАБЫЛЬСКАГА І «БАРКУЛАБАЎСКАЯ ХРОНІКА» — ЖЫВЫЯ СВЕДКІ ГІСТОРЫІ

Апошняя трэць XVI ст. у дзяржаўна-палітычным і грамадскім жыцці беларускага народа была надзвычай багатай падзеямі вялікай важнасці, якія наклалі адбітак на характар развіцця грамадскай думкі і яе выразніцы — тагачаснай пісьменнасці. У гэты час у сувязі з бурным ростам таварнай вытворчасці і выхадам яе прадукцыі на шырокі еўрапейскі рынак пачало фарміравацца і прэтэндаваць на сваю ролю і месца ў грамадскім жыцці так званае трэцяе саслоўе. Канцэнтруючы ў сваіх руках моцныя эканамічныя рычагі, яно выходзіла з-пад кантролю духоўных і свецкіх феадалаў і не без уплыву ідэй заходнееўрапейскага Адраджэння з яго культам свабоднага чалавека праводзіла ў жыццё новыя ідэалагічныя і сацыялагічныя канцэпцыі.

Выхад трэцяга саслоўя на палітычную арэну барацьбы выклікаў крызіс феадальнай сістэмы, які яшчэ больш абвастрыў і да таго вострыя саслоўна-класавыя антаганістычныя супярэчнасці. Як ніколі раней, к гэтаму часу асаблівага напалу дасягнуў антаганізм паміж духоўнымі і свецкімі феадаламі. І прычынай гэтага быў рэфармацыйны рух, у час якога магнаты ў саюзе са шляхтай і ідэолагамі трэцяга саслоўя нанеслі досыць адчувальны ўдар па царкоўнай ідэалогіі і яе манапольнаму панаванню ў разумовым, палітычным і эканамічным жыцці.

Барацьба рэфарматараў супраць засілля царквы і яе выключных правоў на адукацыю і веды на самай справе была скіравана супраць царкоўнага землеўладання і цэнтралізатарскай палітыкі каралеўскай улады. Рэлігійна-палітычная барацьба рэфарматараў за абмежаванне эканамічнай і палітычнай магутнасці царквы, за стварэнне больш таннага рэлігійнага рытуалу садзейнічала развіццю кніжнай справы і несла з сабою пэўнае ажыўленне грамадскай думкі.

Рэзка крытыкуючы хрысціянскую царкву, яе дагматы, абраднасць і паразітызм духавенства, адмаўляючы царкве ў манапольным праве на інтэрпрэтацыю тэкстаў свяшчэннага пісання, рэфарматары расхіствалі царкоўны светапогляд і ўносілі ў яго элемент рацыяналізму. Тым самым яны пракладвалі шляхі для секулярызацыі грамадска-палітычнай думкі і вальнадумства, што ў значнай ступені садзейнічала паступоваму вызваленню літаратуры ад уплыву хрысціянскай ідэалогіі і царкоўнаславянскай кніжнай традыцыі. У сваёй літаратурнай практыцы яны імкнуліся сеяць зерні практычнага, здаровага падыходу да жыцця, выступалі носьбітамі гуманістычных ідэй, будзілі чалавека ў самім чалавеку і яго пачуццё самаўсведамлення ўласнай годнасці. І ў гэтым заключаецца іх безумоўная заслуга ў гісторыі свайго народа.

Ідэі Рэфармацыі ва ўмовах тагачаснага жыцця як нельга лепей адпавядалі эканамічным і ваенна-палітычным інтарэсам шляхецкага саслоўя, а таму яно ахвотна ўзяло іх на сваё ідэалагічнае ўзбраенне і да пэўнай пары з'яўлялася актыўным правадніком іх у жыццё. У барацьбе за эканамічныя выгады і палітычныя прэрагатывы ў дзяржаўным жыцці яно свядома блакіравалася з магнатамі супраць афіцыйнай царквы і тым самым незалежна ад уласнага жадання садзейнічала яшчэ большаму ўмацаванню іх палітычнай пазіцыі. Абапіраючыся на сваю эканамічную магутнасць, магнаты станавіліся некаранаванымі каралямі. Яны пераставалі лічыцца з уладай самаго караля і інтарэсамі шляхецкага саслоўя, якое цалкам залежала ад іх у эканамічных і дзяржаўна-палітычных адносінах, і фактычна паставілі пад свой кантроль усю дзейнасць шляхты, што па сутнасці несла з сабой абмежаванне яе вольнасцей. Натуральна, што такі паварот спраў не мог задаволіць шляхту, якая даражыла сваімі свабодамі і ставіла іх вышэй дзяржаўных інтарэсаў. А таму, калі ў канцы 60-х гадоў XVI ст. кіруючыя колы Польшчы, карыстаючыся знешнепалітычнымі цяжкасцямі Вялікага княства Літоўскага і сваім уплывам на бязвольнага караля Сігізмунда Аўгуста, вырашылі пакончыць з дзяржаўнай самастойнасцю Вялікага княства Літоўскага і аб'яднаць яго з Польшчай на выгадных для сябе ўмовах у адзіную дзяржаву — Рэч Паспалітую, шляхта не праявіла асаблівага жадання змагацца разам з магнатамі за сваю дзяржаўную незалежнасць на Люблінскім сейме

1569 г. Яе саслоўна-класавым інтарэсам больш імпанаваў саюз з польскай шляхецкай дэмакратыяй. У ім яна бачыла выхад з-пад апекі мясцовай арыстакратыі, бо, паводле ўмоў Люблінскай уніі, ёй у новым дзяржаўным утварэнні юрыдычна гарантаваліся роўныя з польскімі панамі і мясцовай арыстакратыяй палітычныя правы. У пагоне за гэтымі прывілеямі яна аслабіла антыпольскую апазіцыю на Люблінскім сейме, які паклаў пачатак існаванню Рэчы Паспалітай, і тым самым дазволіла польскім феадалам параўнальна лёгка растаптаць дзяржаўны суверэнітэт Вялікага княства Літоўскага і адкрыць дарогу для яго паланізацыі ў палітычным і культурным жыцці.

Утварэнне Рэчы Паспалітай, як паказала практыка далейшага жыцця, не прытупіла існаваўшых саслоўна-класавых супярэчнасцей. Пакончыўшы з былой дзяржаўнай самастойнасцю Вялікага княства Літоўскага, польскія феадалы імкнуліся ўстанавіць і замацаваць сваё палітычнае панаванне на яго тэрыторыях. Актыўным сродкам для дасягнення гэтай мэты яны абралі палітыку акаталічвання, рэалізацыю якой перадалі ў рукі ваяўніча настроенага ордэна езуітаў.

Закліканыя ў Польшчу незадоўга перад Люблінскай уніяй для барацьбы з рэлігійным вальнадумствам езуіты, абапіраючыся на падтрымку дзяржаўнага апарата, разгарнулі ў Рэчы Паспалітай актыўную дзейнасць, накіраваную на ідэалагічную апрацоўку шырокіх народных мас у духу каталіцызму. Яны верай і праўдай служылі сваім апекунам. Карыстаючыся разнастайнымі сродкамі ўздзеяння, езуіты вельмі хутка зламалі станавы хрыбет Рэфармацыі і пазбавілі яе сацыяльнай апоры сярод мясцовых магнатаў, бо значную ўплывовую частку іх яны здолелі схіліць да каталіцкага веравызнання.

Далучэнне феадальных вярхоў Вялікага княства Літоўскага, а ўслед за імі і пераважнай большасці шляхецкага саслоўя да каталіцкага веравызнання аўтаматычна пацягнула за сабою іх паланізацыю, у выніку чаго яны станавіліся чужародным элементам у сваім нацыянальным асяроддзі. Намагаючыся ні ў чым не адстаць ад сваіх польскіх братоў па класу, мясцовыя феадалы і шляхта сталі наследаваць польска-шляхецкім парадкам, норавам і звычаям як у грамадска-палітычным, так і ў прыватным жыцці. Неўтаймаваная пагоня за роскашшу патрабавала вялікіх сродкаў, якія выкалачваліся з насель-

ніцтва шляхам узмацнення яго эксплуатацыі. А гэта выклікала шматлікія сялянскія бунты, якія ў канцы стагоддзя сталі перарастаць у паўстанні.

Іменна ў гэты перыяд у гарадах абвастраецца барацьба сацыяльных нізоў супраць магнатаў, шляхты і самавольства ваявод. Адной з галоўных і найбольш характэрных форм барацьбы простага люду становіцца масавы казацка-сялянскі і нацыянальна-вызваленчы рух. Наколькі ён быў небяспечны для шляхецкай Рэчы Паспалітай і якімі жорсткімі сродкамі яна імкнулася яго паралізаваць і задушыць, сведчаць шматлікія сеймавыя пастановы аб беглых сялянах.

Нарастанне нацыянальна-вызваленчага руху асабліва ўзмацнілася ў канцы XVI ст., калі намаганнямі езуітаў была падрыхтавана і здзейснена так званая Брэсцкая царкоўная унія 1596 г., якая ўнесла ў асяроддзе беларускага і ўкраінскага народаў яшчэ і рэлігійны раскол. Своеасаблівасць і спецыфічнасць гэтага руху ва ўмовах тагачаснай рэчаіснасці заключалася ў тым, што ён аб'яднаў у сабе два аспекты палітычнай барацьбы — сацыяльны, г. зн. антыфеадальны, з нацыянальна-патрыятычным і быў далёка неаднародным у сваім саслоўна-класавым абліччы. А гэта ў сваю чаргу абумовіла яго непаслядоўнасць і супярэчнасць. Ды і што магло быць агульнага ў сацыяльных нізоў з прадстаўнікамі маёмасных класаў, для якіх нацыянальна-патрыятычная ідэя, прыкрытая сцягам барацьбы за рэлігійную незалежнасць ад польска-каталіцкага дыктату, служыла толькі сродкам абароны іх уласных саслоўна-класавых інтарэсаў ад пасягання як з боку экспансіяністцкі настроеных польскіх феадалаў, што задавалі тон у дзяржаўна-палітычным жыцці, так і з боку падуладнага, бязлітасна эксплуатуемага імі бяспраўнага мясцовага насельніцтва. Апынуўшыся ў цісках з двух бакоў, яны вымушаны былі лавіраваць паміж сваімі і чужымі, шукаючы для сябе лепшай выгады, а пад якім сцягам — гэта для іх не мела асаблівага значэння. І не выпадкова, калі даведзеныя да адчаю сацыяльныя нізы падымаліся на змаганне супраць невыноснага прыгнёту, каб узброенай рукою аблегчыць свой лёс, пануючыя класы забывалі нязгоды паміж сабой і аб'яднанымі сіламі распраўляліся са сваімі непаслухмянымі адзінаверцамі. Так было заўсёды на ўсім працягу гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы народаў усіх краін і кантына-

нентаў. І як не ўспомніць у гэтай сувязі трапна сказаныя У. І. Леніным прароцкія словы адносна рэакцыі пануючых класаў. У сваім артыкуле «Загаворы рэакцыі і пагрозы пагромшчыкаў» (1906) ён пісаў: «Гісторыя вучыць, што пануючыя класы заўсёды ахвяроўвалі ўсім, абсалютна ўсім: рэлігіяй, свабодай, радзімай, калі справа ішла аб падаўленні рэвалюцыйнага руху прыгнечаных класаў» [1]. І хоць гэтыя словы былі сказаны ў дачыненні да гістарычнай сітуацыі пачатку XX ст., яны цалкам стасуюцца да разглядаемага намі перыяду грамадскага жыцця Беларусі.

Палітычная экспансія польскіх феадалаў, якая прывяла да стварэння Рэчы Паспалітай, разбудзіла і прывяла ў рух усе слаі грамадства Вялікага княства Літоўскага. Яна нікога не пакінула раўнадушным і задаволеным. І можна сказаць, што іменна яна паслужыла штуршком для абуджэння патрыятычных настрояў нават у асяроддзі службовай шляхты, якая, мабыць, больш за ўсіх была зацікаўлена ў гэтым новым дзяржаўным утварэнні, бо дзякуючы яму яна выходзіла на першы план у палітычным жыцці. Аднак яе ілюзіі ў хуткім часе прыйшлі ў супярэчнасць з практыкай дзяржаўна-палітычнага жыцця. Надзеленая больш шырокімі палітычнымі правамі, але абдзеленая ў эканамічных адносінах, яна шукала выйсця ў ваенных справах, на якіх марыла палепшыць свой дабрабыт. А калі і тут у яе здараліся асечкі, яна бунтавала, аб'яўляла канфедэрацыі і ішла напралом, станавілася прыхільніцай самых разнастайных ваенных знешнепалітычных авантур і па першаму закліку станавілася ў рады інтэрвентаў незалежна ад таго, кім і ў імя чаго тая або іншая інтэрвенцыя ажыццяўлялася. Разбой і нажыва кідалі яе на поле бітваў, кіравалі ёю ў ваенных паходах у Малдавію, Ліфляндыю і асабліва ў Рускую дзяржаву, калі тая ў пачатку XVII ст. перажывала смутныя часы ў сувязі з барацьбой за царскі трон.

Але самыя цяжкія выпрабаванні ў новым дзяржаўным утварэнні выпалі на долю сацыяльных нізоў беларускага грамадства. Пазбаўленыя элементарных правоў яшчэ ў часы самастойнага існавання Вялікага княства Літоўскага, яны, апрача пагаршэння і без таго іх цяжкага сацыяльна-эканамічнага становішча, нічога іншага не атрыма-

---

[1] В. И. Ленин. Полн. собр. соч., т. 13, стар. 302—303.

лі ў Рэчы Паспалітай. А ў хуткім часе на іх плечы абрушыўся яшчэ і не менш балючы, прынесены чужынцамі нацыянальна-рэлігійны прыгнёт. Цяжар сацыяльнага, эканамічнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту яны адчувалі не толькі з боку польскіх улад і магнатаў, але ў роўнай ступені і ад мясцовых феадалаў, якія не менш жорстка эксплуатавалі падуладнае ім насельніцтва і праяўлялі выключную нецярпімасць да яго барацьбы за свае грамадзянскія правы.

Узмацненне феадальнага прыгнёту і нацыянальна-рэлігійнага ўціску абвастрала класавыя супярэчнасці, даводзіла іх да такога напалу, за якім пачыналіся шматлікія сялянскія бунты ў розных формах іх праяўлення. Стваралася рэвалюцыйная сітуацыя, якая ў рэшце рэшт вылілася ў канцы стагоддзя ў паўстанні Крыштафора Касінскага і Севярына Налівайкі. Апошняе з іх было настолькі моцным, што закранула і тэрыторыю Беларусі. І хоць яго размах тут быў не такі, як на Украіне, тым не менш яно з'явілася моцным папярэджаннем мясцовым феадалам. Гэты досыць напружаны час грамадзянскай гісторыі беларускага народа знайшоў яркае адлюстраванне ў дзелавой перапісцы аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага, якая адносіцца да першых гадоў існавання Рэчы Паспалітай, і ў панарамнай «Баркулабаўскай хроніцы» (1546—1608).

Розныя па жанру, стылю і функцыянальнаму прызначэнню, гэтыя творы пісаліся па свежых слядах дзяржаўных і грамадска-палітычных падзей на тэрыторыі Беларусі ва ўмовах Рэчы Паспалітай. Іх аўтары, розныя па сацыяльнаму становішчу, светапогляду і палітычнай арыентацыі, з'яўляюцца жывымі сведкамі гісторыі яе станаўлення і развіцця. І хоць аўтараў гэтых твораў аддзялялі і час, і іх сацыяльнае паходжанне, і тое месца, якое яны займалі ў грамадскім жыцці, яны праявілі выключную ўвагу да лёсу сваёй радзімы і асабістую заклапочанасць яе гаротным становішчам з пазіцый сваіх саслоўна-класавых інтарэсаў. Яны былі патрыётамі роднага краю, але глыбіня іх патрыятызму вызначалася рознымі вымярэннямі, што само па сабе зразумела.

Філон Сямёнавіч Кміта-Чарнабыльскі (1530—1587), як аб гэтым сведчаць факты яго біяграфіі [2], паходзіў з

[2] Гл.: Źrzódła do dziejów polskich, t. 2. Wilno, 1844, стар. 307—343.

заможнай сям'і. Яго бацька быў камандуючым кіеўскімі і чаркаскімі войскамі на Украіне. Яму належала некалькі даволі значных маёнткаў у тагачасным Вінніцкім павеце. Гэта быў надзвычай адважны і храбры воін, якога за палкаводчы талент і поспехі ў барацьбе супраць татар не без падстаў пазней параўноўвалі са славутым карфагенскім Ганібалам. Ваенныя поспехі бацькі аказалі пэўны ўплыў на фарміраванне сына. Філон унаследаваў яго здольнасці, а ўмовы пагранічнага жыцця загартавалі яго і прадвызначылі далейшы шлях. Рамантыка ваенных баталій, у якіх вельмі хутка можна было праявіць свае арганізатарскія і стратэгічныя здольнасці, назаўсёды звязала Філона Кміту з войскам. Рад выдатна праведзеных ім ваенных аперацый па разгрому шматразова пераўзыходзячых сіл праціўніка забяспечыў яму не толькі гучнае імя і папулярнасць, але і паспяховае прасоўванне па службовай лесвіцы. У 1562 г. ён ужо меў чын ротмістра і быў прызначаны каралём Сігізмундам Аўгустам на пасаду адміністратара пагранічнага з Маскоўскай дзяржавай замка Остэр на Чарнігаўшчыне. А ў 1567 г. за асаблівыя заслугі перад Вялікім княствам Літоўскім у справах пагранічнай службы Філон Кміта атрымаў пасаду старасты ў Оршы і пераехаў туды на сталае месцажыхарства. Там ён пражыў да самай смерці, несучы сваю службу, звязаную з усімі нягодамі пагранічнага жыцця і матэрыяльнымі выдаткамі. Ваенная загартоўка і ваяўнічы дух і тут браў у яго верх над адміністратарам, а таму пры кожным зручным выпадку Філон Кміта прымаў актыўны ўдзел у ажыццяўленні захопніцкай палітыкі свайго ўрада і неаднаразова са зброяй у руках безаглядна кідаўся на бой з Рускай дзяржавай, прагнучы лёгкай нажывы і гучнай славы ў імя ўласных інтарэсаў. Яго намаганні ў гэтым плане не засталіся дарэмнымі. У 1579 г. за свае паслугі каралю і Рэчы Паспалітай прывілейнай граматай Стэфана Баторыя ён быў узведзены ў ранг сенатара з намінальным тытулам смаленскага ваяводы. Гэта была высокая і ганаровая ўзнагарода для служылых людзей, якія не вылучаліся знатнасцю паходжання, і давала права яе носьбіту быць членам каралеўскай рады. Але не падмацаваная тымі матэрыяльнымі выгадамі, якімі карысталіся іншыя ваяводы са сваіх службовых пасад, такая набілітацыя ставіла свайго наміната ў нераўнапраўнае становішча сярод іншых сенатараў і вымушала яго быць цал-

кам залежным ад ласкі і волі манарха. Ф. С. Кміта-Чарнабыльскі дасягнуў сваёй службай высокага ранга, але так і не дачакаўся таго часу, калі яго намінальнае ваяводства стане рэальнасцю і прынясе яму адпаведныя тытулу матэрыяльныя выгады.

Службовая перапіска Кміты-Чарнабыльскага з членамі каралеўскай рады Вялікага княства Літоўскага ахоплівае невялікі, але надзвычай важны для гістарычнага лёсу толькі што створанай Рэчы Паспалітай адрэзак часу, калі яна пасля смерці бяздзетнага караля Сігізмунда Аўгуста апынулася ў паласе зацяжнога бескаралеўя.

Смерць апошняга па мужчынскай лініі нашчадка дынастыі Ягелонаў абарвала ў сярэдзіне 1572 г. тое звяно, якое звязвала Вялікае княства Літоўскае з Польшчай. Бескаралеўе давала княству магчымасць калі не цалкам развязаць сабе рукі ад дзяржаўнай уніі са сваёй дыктатарскай саюзніцай, то ва ўсякім выпадку вытаргаваць у яе тое-сёе для ўласных інтарэсаў. Кіруючыя колы княства Літоўскага не прамінулі выкарыстаць зручны для сябе момант і ледзь было не ажыццявілі смяротны прыгавор Рэчы Паспалітай, калі найбольш уплывовая частка магнатаў княства, незадаволеная эканамічнымі і палітычнымі вынікамі Люблінскай уніі 1569 г., пачала арыентавацца на Маскву і весці з ёю сакрэтныя напаўафіцыйныя перагаворы адносна магчымага вылучэння кандыдатуры або самаго цара, або яго сына Фёдара на вакантны каралеўскі трон. Іменна ў гэты досыць напружаны час частка сенатараў была кроўна зацікаўлена ў атрыманні дакладнай інфармацыі аб усім тым, што рабілася ў Маскве, каб скласці ўяўленне аб ваенна-стратэгічных планах і намерах Івана Грознага ў галіне знешняй палітыкі, і ў прыватнасці ў дачыненні да Рэчы Паспалітай. Арганізаваць збор і рэгулярную перасылку ў Вільню агентурных даных паны сенатары ўсклалі на аршанскага старасту Філона Кміту-Чарнабыльскага. Вось тыя палітычныя прадпасылкі, якія абумовілі службовую перапіску Кміты-Чарнабыльскага з членамі каралеўскай рады Вялікага княства Літоўскага ў часы зацяжнога бескаралеўя.

«Лісты» Кміты-Чарнабыльскага ўяўляюць сабою сакрэтныя службовыя данясенні аб пагранічным жыцці і аб ваенных справах і намерах рускага цара Івана Грознага. Яны змяшчаюць у сабе багаты і цікавы матэрыял як для характарыстыкі самой асобы аўтара і яго светапогляду,

так і для разумення тых грамадска-палітычных настрояў, што панавалі ў Вялікім княстве Літоўскім у гэты час дзяржаўнага жыцця. «Лісты» адкрываюць занавес і ўводзяць у атмасферу той закуліснай барацьбы, якая вялася паміж прадстаўнікамі кіруючай вярхушкі, паказваюць яе сацыяльную і палітычную падаплёку, выкрываюць яе эгаістычны характар і несумяшчальную з патрыятычнымі настроямі сутнасць, няма ведама для каго выгадную.

Выконваючы волю сваіх гаспадароў, Кміта-Чарнабыльскі не проста паведамляе ім пра тыя ці іншыя факты эканамічнага, палітычнага і дзяржаўнага жыцця Маскоўскай Русі або Рэчы Паспалітай, а дае ім уласную і досыць трапную ацэнку. Пры гэтым ён праяўляе сваю выключную дасведчанасць, цвярозы розум і палітычную празорлівасць. Найбольш яркія ў гэтых адносінах лісты да Яўстафія Валовіча, кашталяна трокскага і падканцлера Вялікага княства Літоўскага, якія пададзены ў нашай публікацыі пад № 13 і 19.

Названыя лісты выходзяць за рамкі службовых данясенняў і набываюць характар вострапубліцыстычных артыкулаў, прасякнутых пафасам бязлітаснага выкрыцця закулісных махінацый кіруючай вярхушкі Вялікага княства Літоўскага і яе капітуляцыі перад відавочным дыктатам ганарлівай і нахабнай польскай феадальнай знаці. Іменна тут Кміта-Чарнабыльскі з усёй паўнатой і вычарпальнасцю выклаў свае погляды, сваё разуменне дзяржаўных спраў, грамадска-палітычныя настроі свайго асяроддзя і тым самым раскрыў незвычайны дар дзяржаўнага дзеяча, перакананага палітыка і патрыёта, занепакоенага лёсам роднага краю ў самы крытычны час яго грамадскага жыцця. Разам з тым — што для нас таксама немалаважна—ён праявіў сябе бліскучым публіцыстам, надзеленым гарачым сэрцам, высокім усведамленнем уласнай годнасці і пачуццём палітычнай перакананасці ў сваіх меркаваннях, якія вылучаюцца вастрынёй думкі і вобразнай перадачай яе шляхам шырокага выкарыстання жывога народнага прастамоўя.

Як сведчаць тэксты ўсіх яго лістоў, Кміта-Чарнабыльскі шчыра і самаахвярна служыў сваім панам сенатарам і сумленна выконваў ускладзеныя на яго абавязкі, ніколі не скардзячыся на сваю службу, якая была яму па душы. І толькі адзінае, што турбавала і непакоіла яго,— гэта матэрыяльныя цяжкасці, пра якія ён напамінаў

амаль у кожным сваім лісце панам сенатарам, просячы ў іх дапамогі і паратунку як для сябе асабіста, так і на справы, звязаныя з выкананнем дзяржаўнай службы. А яна патрабавала значных затрат не толькі на ўмацаванне і бягучы рамонт самога пагранічнага замка-крэпасці, але і на сустрэчы, пачастункі і провады дзяржаўных паслоў і ганцоў як з Масквы, так і ў Маскву, на стварэнне агентурай сеці і на падарункі яе функцыянерам за іх сакрэтную інфармацыю, на забеспячэнне пасыльных з неадкладнымі данясеннямі ў Вільню, Кракаў і назад і на многае іншае.

Пастаянная патрэба ў матэрыяльным забеспячэнні, якое, мяркуючы па лістах Кміты-Чарнабыльскага, было далёкім ад належнага ўзроўню, вымушала яго слёзна прасіць сваіх гаспадароў быць літасцівымі і спагадлівымі да яго службовых патрэб, скардзіцца на свой незайздросны лёс старасты-жабрака, напамінаць ім, што яны забыліся пра свае абяцанні, а часам і пускаць слязу, праз якую прарываўся крык немачы і адчаю. Але нягледзячы на енкі і запэўніванні паноў сенатараў у сваёй рабскай самаадданасці, Кміта-Чарнабыльскі ніколі не пераступаў мяжы, па-за якой пачынаўся сапраўдны раб. І таму пры ўсім разуменні сваёй залежнасці ад вышэйстаячага начальства ён, добра ўсведамляючы сваю ролю і месца ў грамадска-палітычным жыцці, лічыў неабходным напамінаць, што ў яго ёсць уласны гонар, якім ён даражыць і з якім трэба лічыцца начальству, «бо прийдет час, коли будет надобе Илии Муравленина; прийдет час, коли будет служб наших потреба!»

Кміта-Чарнабыльскі быў тыповым прадстаўніком шляхецкага саслоўя, якое, нягледзячы на эканамічную залежнасць ад магнатаў, у пытаннях дзяржаўна-палітычнага жыцця імкнулася быць раўнапраўным іх партнёрам і таму так упарта абараняла свой юрыдычна-прававы імунітэт, які забяспечваў яму неабмежаваную свабоду дзеянняў. Шляхціц мог адступіцца ад ўсяго, але толькі не ад свайго права на свабоду, хоць яна яму часам практычна мала чаго давала. Аднак ужо адно ўсведамленне таго, што ён можа свабодна карыстацца сваім правам і дзейнічаць так, як яму выгадна ў дадзены момант, кружыла шляхціцу галаву і нярэдка штурхала яго на такія ўчынкі, за якія потым прыходзілася мець справу з судом. Штосьці падобнае адбылося і з Кмітай-Чарнабыльскім у час

першага бескаралеўя, пасля якога ён ледзь не апынуўся на лаве падсудных. Судовая справа супраць яго задумвалася ўдзельнікамі Рудніцкага з'езда, і толькі дзякуючы кароткачасоваму знаходжанню на каралеўскім троне Рэчы Паспалітай Генрыха Валуа яна не атрымала далейшага ходу, а ў часы другога бескаралеўя згубіла сваю вастрыню.

У чым канкрэтна заключалася дзейнасць Кміты-Чарнабыльскага ў той час, што яна пацягнула за сабою інкрымінацыю яму ледзь не ў здрадзе дзяржаўным інтарэсам Рэчы Паспалітай, сказаць зараз цяжка. Няма такога адказу і ў самім тэксце ліста пад № 13, які з'явіўся па сутнасці яго самаапраўданнем і разам з тым гнеўным бічаваннем у адрас усіх тых, хто меў пэўнае дачыненне да такога абвінавачвання. Ды гэта, у рэшце рэшт, не так ужо і важна. Важна другое. А іменна, што ў гэтым лісце ўпершыню выявіліся грамадска-палітычная пазіцыя аўтара, яго сімпатыі і антыпатыі, яго настроі і меркаванні, якія ён потым развіў і паглыбіў у лісце за № 19. Варта падкрэсліць і яшчэ адзін момант. Спакой і ўраўнаважанасць, характэрныя для іншых лістоў, тут заступаюць месца страснасці характару. А ён у яго бурны, пульсуючы і пераліваецца ўсімі адценнямі пачуццяў узрушанага і выведзенага з раўнавагі чалавека, надзеленага прыродным розумам, народнай мудрасцю, вострым на слоўца языком, а ў дадатак да гэтага яшчэ і літаратурна начытанага. Адным словам, перад намі паўстае жывы вобраз самога аўтара «Лістоў».

Сумленна выконваючы ўскладзеныя на яго абавязкі, Кміта-Чарнабыльскі сачыў літаральна за кожным крокам рускага цара і таму ў сваіх данясеннях у Вільню адводзіў яму галоўнае месца. Але ні ў адным з іх Кміта-Чарнабыльскі не праяўляў ні сімпатый, ні антыпатый да Івана Грознага. Займаючы такую аб'ектывісцкую пазіцыю, ён пісаў аб Іване Грозным толькі ў станоўчым плане, схіляўся перад яго дзяржаўнай мудрасцю і дыпламатычнай спрытнасцю, прыкладаў якой прыводзіў досыць многа. У адных выпадках гэта толькі маленькія і не вельмі яркія, хоць і істотныя, штрыхі, у другіх — напрыклад, у лісце, што ідзе пад № 7 у нашай публікацыі,— пераканаўчае сведчанне, пададзенае ў забаўнай форме літаратурнай містыфікацыі, магчыма нават самім ім прыдуманай, але выдадзенай за дакладнае паведамленне, як Іван

Грозны прымаў у Братошыне пасла крымскага хана. Саноўчая характарыстыка рускага цара, яшчэ больш разгорнутая ў лісце за № 19, была не выпадковай. Яна несла пэўную сэнсавую нагрузку і заключала ў сабе значны палітычны падтэкст. Гэта быў своеасаблівы ход, удала выбраны тактычны прыём для скрытай палемікі з той часткай сенатараў, якая імкнулася абраць каралём Рэчы Паспалітай толькі прадстаўніка іншаземнай, ды яшчэ і значнай манархіі. Вось чаму Кміта-Чарнабыльскі як бы падрабліваецца пад іх меркаванні і знарок ідэалізуе Грознага, нават называе яго празарлівым біблейскім прарокам Авакумам, каб з вышыні гэтай ідэалізацыі зрабіць Грознага рупарам сваіх уласных ідэй. І ён дасягае сваёй мэты, калі вуснамі, з яго пункту гледжання, разважлівага і разумнага рускага цара стварае аб'ектыўна справядлівы, непрыглядны і нават змрочны малюнак грамадскага жыцця Рэчы Паспалітай, у якой ужо зашмат развялося ўдзельных каралёў і пануюць дзікія польскія звычаі і парадкі, пры якіх людзі не могуць абысціся без таго, калі «кого кто не пекне через ногу».

Характэрна, што сваё адмоўнае стаўленне да негатыўных рыс грамадскага жыцця Рэчы Паспалітай, якія не рабілі гонару за межамі, Кміта-Чарнабыльскі выяўляў праз шырокае выкарыстанне прыёму быццам бы досыць распаўсюджаных у Маскве вельмі «непрыемных чутак» з выпадку ўцёкаў на радзіму з каралеўскага трона нядаўняга караля Генрыха Валуа, які як быццам не пажадаў «таковою неволею обовязать» сябе ў дзяржаве, дзе мусіш «кролем быть, а ниц не меть», дзе пануюць анархія і дзікія шляхецкія парадкі.

Удала карыстаючыся абраным прыёмам, Кміта-Чарнабыльскі не абмяжоўваецца толькі пераказам «непрыемных чутак», а дае ім і ўласную ацэнку. А з яе вынікае, што ён пры ўсёй ідэалізацыі Грознага адмоўна ставіўся да ідэі перагавораў з Масквой і ў часы другога бескаралеўя прыкладаў усе намаганні, каб перакапаць Яўстафія Валовіча ў марнасці працягу «ігры» з Грозным. Бо калі ўжо і цэсарскі сын лічыць за лепшы гонар быць каралём «на малом горшечку з покоем здоровя своего, нижли на великом з враждою», дык іменна таму, заяўляе і падкрэслівае Кміта-Чарнабыльскі, «на сторону московского в той мере не треба ся огледати: естли первей не хотел, не надеемся, абы и тепер хотел».

Пераконваючы падканцлера Валовіча ў слушнасці сваіх меркаванняў, Кміта-Чарнабыльскі прытрымліваўся думкі тых слаёў служылай шляхты, для якіх было далёка не абыякавым, хто будзе кіраваць дзяржавай. І ён ад імя гэтай шляхты і ад сябе асабіста даводзіў Валовічу, што яны хацелі б бачыць на каралеўскім троне Рэчы Паспалітай не чужынца, якога б знатнага паходжання той ні быў, а прадстаўніка сваёй мясцовай алігархіі, які кіраваўся б прынцыпам добразычлівасці і павагі да абедзвюх частак Рэчы Паспалітай. З гэтага пункту погляду яму, як і яго аднадумцам, уяўляўся аднолькава непажаданым на каралеўскі трон прадстаўнік як польскай, так і літоўскай арыстакратыі, бо і той і другі былі для яго таксама чужынцамі. І таму ён цалкам пагаджаецца з тымі, хто казаў: «Не дай бог ляху быть (каралём дзяржавы.— *А. К.*) — вырежет Литву, а Русь поготову!» Польскія арыстакраты, зазначае Кміта-Чарнабыльскі, ужо «давно резать почали литвина», а літоўская феадальная знаць, нягледзячы на гэта, змірылася з тым і стала падобнай статку авечак, якія «где их больше берет волк, там оне дальше за ним идуть». У сувязі з гэтым нельга дапускаць таго, каб для абрання на каралеўскі трон вылучаўся хто-небудзь з ліку літоўскіх сенатараў, бо ён «больш будет жичливший народу польскому, нижли своему».

Кміту-Чарнабыльскага, які стаяў на пазіцыях мясцовага патрыятызму, не задавальняў дзяржаўны саюз Вялікага княства Літоўскага з панскай Польшчай. І ён адкрыта заяўляў аб сваёй нянавісці да польскіх палітычных парадкаў, якія ўкараняліся ў княстве Літоўскім насуперак гістарычным традыцыям. Балюча перажываючы, па яго сцвярджэнню, ганебную, нават рабскую капітуляцыю дзяржаўных дзеячоў Вялікага княства Літоўскага перад відавочным дыктатам польскай феадальнай вярхушкі, Кміта-Чарнабыльскі не без гневу і абурэння пісаў Валовічу, якога ён разлічваў зрабіць сваім аднадумцам: «Ова просто есмо, як рыба в омуте: слепи, не ведоми! Не ведаем, куды в сю есмо диру влезли! Только яко ваша милость рачиш писати духа пресвятого словы «Узнать нам вечность свою, а брыдкость греху: пыхи нашое вызнать...» Где есть слыхано? Дитя еще невеста родит, а с того дитяти мает быти внук — дай тому имене, аспектативу! Сыну дай, брату дай, слузе

дай! Дай, дай, дай! А на обход Речи Посполитое што? А все разобралши чому быть? Только до убоства престися!? Да вже и лупют! Ото, государю пане, от таковых • бед люди топятся! Ото с таковых нендз давятся! Ото с того в неволю даются!» І таму не выпадкова людзі так настроены, што нават згодны бачыць сваім каралём хоць самаго «дъябла с пекла, толькі абы крывды людей божих мстил, а в порядок привел, яко мовит дух божий на поганы: «Постави, господи, законадавца над нами, да розумеют языцы, яко человецы суть!»

Перапіска Кміты-Чарнабыльскага з панамі сенатарамі Вялікага княства Літоўскага, апрача таго што яна змяшчае ў сабе багата цікавай гістарычнай інфармацыі, уяўляе не меншую цікавасць і з боку формы. Адлюстроўваючы падзеі і факты грамадска-палітычнага жыцця пэўнага адрэзка гісторыі, даючы гэтым падзеям і фактам сваё тлумачэнне, Філон Кміта-Чарнабыльскі сваімі «Лістамі» стаяў ля вытокаў мемуарнага жанру.

Варта падкрэсліць, што Кміта-Чарнабыльскі не абмяжоўваўся сухой падачай звестак. Яго не скоўвала форма дзелавой справаздачы. Наадварот, ён знарок і досыць часта выходзіў за яе рамкі, імкнуўся надаць сваім «Лістам» форму дынамічнага, эмацыянальна афарбаванага апавядання. Свае дзелавыя данясенні Кміта-Чарнабыльскі ажыўляў самымі разнастайнымі сродкамі паэтычнай стылістыкі. Так, у прыватнасці, ён з вялікім майстэрствам выкарыстоўваў яркую фальклорна-бытавую фразеалогію, каларытную і ёмістую народную лексіку, удала падабраныя эпітэты, трапныя параўнанні, мастацкую дэталь, гумар і сатыру. Але асаблівую цягу ён праявіў да надзвычай вобразных і вострых па свайму характару прыказак і прымавак, якімі часам сыпаў як з рогу дастатку і якія надавалі яго доказам, думкам не толькі пераканальнасць, дакладнасць, тое або іншае эмацыянальнае адценне, а нават і пэўную мастацкую маляўнічасць: «Коли топили, топор давали, а выплавши ни топорища. Солгавши спаслися: бо без напасти б от него не быть»; «А теж и тогды тая баба на двое ворожила. Был бы паном, был а не был. Ино от него бог избавил»; «Яко доробило лихо, прорежутся и зубы»; «Ожегшися на молоце, велено на воду дуть»; «И каши не хочу,

и по воду не иду»; «Люди на кашы переели кашу, а я з голоду здох на сторожы» і інш.

Натуральна, што тыя лісты Кміты-Чарнабыльскага, якія ўключалі вобразную апавядальнасць, апісанні рэальнага быту, жывое народнае прастамоўе і, у прыватнасці, фальклорна-бытавую фразеалогію і лексіку, выходзілі за рамкі дакументальна-дзелавой пісьменнасці і набліжаліся да літаратурнай творчасці. Напісаныя ў эпічным стылі, яны падаюць сродкамі фальклорнай стылістыкі яркія бытавыя замалёўкі, раскрываюць і паказваюць характар чалавека, яго асабістыя перажыванні і адносіны да навакольнай рэчаіснасці. І ў гэтым заключаецца іх літаратурная вартасць. А гэта служыць пераканальным сведчаннем таго, як дзякуючы ўзрастаючаму мастацкаму майстэрству дзелавая пісьменнасць набывала спецыфічныя рысы славеснага мастацтва і канкрэтны чалавек з яго зямнымі клопатамі, з яго псіхалогіяй, інтарэсамі, паняццямі, марамі і настроямі няўхільна станавіўся аб'ектам увагі мастацкай творчасці.

«Лісты» Кміты-Чарнабыльскага — надзвычай прыкметная з'ява ў развіцці старажытнай беларускай пісьменнасці ад яе сінкрэтызму да самастойнай формы мастацтва. Яны пракладвалі шляхі для ўзбагачэння жанравай структуры тагачаснай мастацкай пісьменнасці і як спецыфічная форма яе праяўлення трывала ўвайшлі ў практыку самога прыгожага пісьменства. Сведчаннем гэтага з'яўляецца рад пазнейшых твораў, у прыватнасці «Ліст да Абуховіча» і інш.

Кміта-Чарнабыльскі не ставіў мэтай даць шырокі малюнак грамадскага жыцця ва ўсіх сферах яго праяўлення. І таму яго «Лісты» пры ўсёй цікавасці сваіх паведамленняў і нават мастацкай арнаментальнасці іх выкладання былі абмежаваны вузкімі рамкамі зададзенай тэмы, абумоўленай як часам, так і дыпламатычнымі захадамі яго дзяржаўных гаспадароў. У параўнанні з «Баркулабаўскай хронікай» яны даюць хоць і цікавую, але надзвычай мізэрную частку гістарычных звестак. Маючы на ўвазе тое багацце фактычнага матэрыялу, які змяшчае «Баркулабаўская хроніка», і той значна шырэйшы адрэзак гістарычнага часу, які яна ахоплівае, «Лісты» Кміты-Чарнабыльскага ўяўляюцца нам своеасаблівай палітычнай прэлюдыяй да яе.

«Баркулабаўская хроніка» — надзвычай цікавы помнік беларускай старажытнай пісьменнасці як з боку прынцыпу адбору і характару падачы заключанага ў ім гісторыка-пазнавальнага фактычнага матэрыялу, так і з боку яго мастацкага афармлення. І ў гістарычных, і ў літаратурных адносінах гэты помнік не мае роўнага сабе ва ўсёй старажытнай пісьменнасці славянскіх народаў. Іменна таму, мабыць, да яго досыць часта праяўлялі павышаны інтарэс прадстаўнікі і гістарычнай і філалагічнай навук, асабліва ў пасляваенны час, калі пачалося больш грунтоўнае вывучэнне культурнай спадчыны беларускага народа.

«Баркулабаўская хроніка» — твор ананімны і шматслойны. Нават беглае азнаямленне з ім паказвае, што мы маем справу з кампазіцыйна рыхлай камбінацыяй самых разнастайных па свайму паходжанню і стылю кампанентаў. Тут досыць выразна вылучаюцца чатыры групы пададзеных звестак. Першая — гэта ўласныя назіранні аўтара апошніх запісаў над жыццём сяла Баркулабава і яго ваколіц. Другая — запісы, лісты і пераказы іншых асоб. Трэцяя — афіцыйныя дзяржаўныя і прыватныя дакументы эпохі. Чацвёртая — легенды і паданні фальклорнага паходжання. Увесь гэты разнастайны матэрыял невядома хто, калі і з якой нагоды механічна скампанаваў у адзін твор і надаў яму выгляд летапіснага помніка.

І сапраўды, па знешніх, чыста фармальных адзнаках гэты помнік захоўвае і працягвае старую летапісную традыцыю. У ім, як і ў класічным летапісу, кожны запіс аднесены да пэўнага года, дата якога павінна была адпавядаць кожнай паведамляемай з'яве, падзее, факту або выпадку, важнаму і цікаваму перш за ўсё для самага аўтара запісаў, а потым ужо для нас, жадаючых добра ведаць мінулае жыццё свайго народа.

Прытрымліваючыся чыста фармальных адзнак, «Баркулабаўскую хроніку», відаць, можна, але не без істотных агаворак, разглядаць як помнік летапіснай літаратуры. У той жа час яна ў многіх сваіх месцах нагадвае і дзённік, і ўспаміны пра нядаўні час, і сямейную хроніку, і нават дамашнія запіскі. Карацей кажучы, гэта досыць расплыўчаты і аморфны ў жанравых адносінах твор. І гэта надзвычай паказальны факт таго, што ўжо дзесьці ў самым канцы XVI ст. адбываўся працэс

паступовага разбурэння формы дзяржаўнага летапісання і зараджэння ў рамках мясцовай па свайму характару хронікі адметна і якасна новай для таго часу літаратурнай з'явы, якую зараз прынята называць мемуарамі.

Пры наяўнасці толькі аднаго спіса «Баркулабаўскай хронікі» цяжка сказаць, што сабою ўяўляла яе першая частка да таго часу, пакуль яна існавала самастойна і не была падключана ў якасці пралога да тых запісаў, у якіх зусім іншы і таксама невядомы нам аўтар пакінуў свае жывыя ўражанні аб мясцовым жыцці канца XVI і першых гадоў XVII ст.

Недаследаванасць усяго помніка ў цэлым пакідае і рад іншых нявысветленых пытанняў, якія так ці інакш звязаны з гісторыяй узнікнення гэтага спіса самой хронікі і паміж сабою. Напрыклад, цікава было б ведаць, з якіх летапісных крыніц, кім, у якім памеры, па чыёй ініцыятыве і для чаго былі зроблены выпіскі тых першапачатковых звестак, якімі адкрываецца тэкст помніка? У якіх адносінах яны знаходзіліся з тымі звесткамі, што адкрываюць апавяданне пра мясцовае жыццё Баркулабава і яго ваколіц пачынаючы з 1564 г.? З якой канкрэтна даты пачыналася сама мясцовая хроніка, хто быў яе аўтарам і да якога часу ён давёў свае запісы? Дзе дакладна праходзіць мяжа паміж тэкстам мясцовай хронікі і запісамі, што несумненна з'яўляюцца мемуарамі іншай асобы? Кім і калі зроблена кантамінацыя ўсіх састаўных частак «Баркулабаўскай хронікі»? Каму належыць апошняе слова ў гэтай справе і якую практычна ролю ён выконваў — рэдактара, кампілятара ці проста перапісчыка зробленага кімсьці раней да яго названага тэксту? Хто рабіў уключанае ў тэкст помніка паведамленне пра шляхецкі рокаш 1606 г. і хто з'яўляецца аўтарам апісання Брэсцкага сінода, на якім адбылася царкоўная унія 1596 г.? І нарэшце, з чым мы зараз маем справу — з тэкстам арыгінала помніка ці толькі з яго пазнейшай копіяй?

З усяго гэтага досыць шырокага кола нявысветленых пытанняў, якія паўстаюць пры аналізе тэксту «Баркулабаўскай хронікі» і на якія дакладна немагчыма адказаць, бо пры ўсёй слушнасці довадаў пераважная большасць адказаў на іх будзе мець гіпатэтычны характар, бясспрэчны адказ можна даць толькі на пытанне аб аўтарстве помніка і на пытанне, што сабою ўяўляе

існуючы рукапіс хронікі — арыгінал ці яго пазнейшую копію.

Пастаноўка абодвух гэтых пытанняў і спроба іх вырашэння ўпершыню была зроблена яшчэ ў 1887 г. П. А. Кулішам ва ўступным артыкуле да апублікаванага ім тады тэксту хронікі. У якасці верагоднай кандыдатуры на яе аўтарства П. А. Куліш назваў баркулабаўскага свяшчэнніка Фёдара Піліпавіча Магілеўца, пра якога ў тэксце хронікі двойчы зазначана, што ён у 1586 г. пры князе Багдане Саламярэцкім атрымаў у в. Вендараж царкоўны прыход, які раней належаў свяшчэнніку Баркулабаўскай парафіі Аляксею Гаўрылавічу Мсціслаўцу.

Думку П. А. Куліша падтрымаў і развіў далей М. В. Доўнар-Запольскі ў сваім цікавым, спецыяльна прысвечаным «Баркулабаўскай хроніцы» даследаванні [3]. Пагаджаючыся са сваім папярэднікам, М. В. Доўнар-Запольскі выказаў разам з тым і такое меркаванне, што ў напісанні гэтай мясцовай хронікі апрача Фёдара Магілеўца прымаў удзел і Аляксей Мсціславец. Імя апошняга ў хроніцы ўпамінаецца толькі адзін раз у самым пачатку звязнага тэксту, які ў рукапісу пачынаецца з кінаварнага загалоўка «Баркалабов» і, што надзвычай цікава, толькі ў форме ўспаміну аб ім, змешчаным у запісу, які датуецца 1586 г., але ўстаўленым у храналагічную рамку 1568 г. Прымаючы ў разлік гэту заўвагу храніста, можна меркаваць, што ў 1586 г. Аляксея Мсціслаўца ўжо не было ў жывых, як і самога заснавальніка баркулабаўскага замка і некаторых навакольных з ім вёсак Баркулаба Іванавіча Корсака, памёршага ў 1579 г., з якім ён быў блізка звязаны па роду службы.

Меркаванні М. В. Доўнар-Запольскага не беспадстаўныя, хоць і не бясспрэчныя ва ўсіх адносінах. З імі можна пагадзіцца толькі часткова. І сапраўды, ствараць хроніку мясцовага жыцця з такім замілаваннем, з такой пільнай увагай да кожнага, здавалася б, самага дробязнага факта, які меў месца ў той або іншы год, з такім выключным веданнем усіх тонкасцей сялянскага быту, тады больш смутнага, чым радаснага, мог толькі

---

[3] Гл.: М. В. Довнар-Запольский. Баркулабовская летопись. Киев, 1908.

чалавек, які па свайму сацыяльнаму становішчу досыць блізка стаяў да сялянскіх мас і якому было добра вядома іх паўсядзённае жыццё, а яно мала чым адрознівалася ад яго ўласнага. Па-другое, каб брацца за пяро, ён павінен быў быць пісьменным і мець свабодны ад гаспадарчых работ час. У простага селяніна, занятага земляробчай працай, свабоднага часу не было, да таго ж сялянства тады, хіба толькі за рэдкім выключэннем, з'яўлялася забітай, цёмнай масай, якой было не да пісьменнасці і тым больш не да навукі. Самым пісьменным чалавекам на сяле тады быў свяшчэннік, і ў выпадку неабходнасці напісаць якую паперу селянін звяртаўся да яго паслуг. Гаспадарка ў свяшчэнніка не адымала шмат часу, і ён быў больш-менш свабодным ад надзённых клопатаў чалавекам. Вось чаму ёсць усе падставы лічыць, што ў выбары кандыдатаў на аўтарства «Баркулабаўскай хронікі» М. В. Доўнар-Запольскі не памыляўся.

Прызнаючы слушнасць довадаў, якія прыводзіць гэты даследчык, мы не адмаўляем дачыненне названых ім асоб да напісання асобных месц хронікі і асабліва Фёдара Магілеўца. Але як у такім выпадку дакладна вызначыць, што было зроблена кожным з іх паасобку? Дзе шукаць у тэксце хронікі той стык, які размяжоўвае працу аднаго ад другога? Чым, якімі крытэрыямі мы павінны кіравацца пры падзеле тэксту ў дадзеным выпадку, калі нам невядомы даты жыцця ні Аляксея Мсціслаўца, ні Фёдара Магілеўца?

Мы дапускаем, што ў сваёй творчай працы Фёдар Магілевец абапіраўся на вопыт стварэння мясцовай хронікі Аляксея Мсціслаўца. Але і ў такім выпадку цікава было б высветліць, што і як ён асабіста выкарыстаў з працы свайго папярэдніка і дакуль сам давёў уласныя запісы. У запісах за 1598 г. яго імя ўпамінаецца яшчэ як жывой асобы.

Пачынаючы з запісаў, занатаваных 1583 г., летапісныя паведамленні чым далей, тым больш падаюць звестак рознага плана як мясцовага, так і дзяржаўнага жыцця, а тэкст паведамленняў мяняе свой характар і стыль. Калі да гэтага часу тэкст хронікі быў прывязаны да асобы Баркулаба Корсака і яго сям'і, то з 1583 г. цэнтрам увагі аўтара на доўгі час (аж да канца стагоддзя) становіцца асоба Багдана Саламярэцкага, які даводзіўся зяцем Б. І. Корсаку. І гэта акалічнасць пад-

мацоўвае думку, што пададзеныя звесткі маглі належаць толькі асобе, якая блізка стаяла да Б. Саламярэцкага і добра ведала яго прыватнае жыццё, а такой асобай быў яго духоўнік Фёдар Піліпавіч Магілевец.

Варта адзначыць і такі момант, што, пачынаючы з 1583 г., аўтарскія запісы пазбаўляюцца сцісласці і павярхоўнасці, уласцівай запісам за папярэднія гады. Мова іх мяняе свой характар, яна перастае быць сухой, спакойнай, амаль што падобнай на пратакольны запіс дзелавога дакумента. Яна становіцца жывой і шматфарбнай. Тут ужо выразна пачынае праяўляцца аўтарскі пачатак, які надае ёй эмацыянальнае гучанне і своеасаблівы індывідуальны каларыт. Мова вызначаецца філіграннасцю, чысцінёй і багаццем выяўленчых сродкаў. Яна па-народнаму простая і ў той жа час досыць паэтычная. Ёй не ўласцівы лексічныя запазычанні з іншых моў і грувасткія сінтаксічныя канструкцыі, на якія хварэла ў тыя часы царкоўна-рэлігійная пісьменнасць. Сагрэтая цеплынёй аўтарскіх пачуццяў мова большасці запісаў другой часткі хронікі прасякнута сардэчнай усхваляванасцю, і таму яна як жывы адбітак аўтарскіх настрояў захапляе і кранае чытача непасрэднай шчырасцю перажыванняў.

Але побач з гэтым у запісах другой часткі пагадовых паведамленняў «Баркулабаўскай хронікі» назіраюцца сумбурная кампазіцыя, страшэнная блытаніна гістарычных дат, храналагічная непаслядоўнасць выкладання, недакладнасць і вольнае абыходжанне з імёнамі епіскапаў, цароў, з падзеямі і фактамі грамадскага жыцця і шэраг іншых агрэхаў. Гэта паказвае, што тут мы маем справу з відавочным і яўным разбурэннем самого летапіснага жанру.

І справа не ў тым, што гэта частка хронікі, пачынаючы з запісаў за 1583 г. і да запісаў за 1601 г., грашыць непаслядоўнасцю сваёй храналогіі, пераскокамі з адной даты на другую, забегамі наперад і вяртаннем назад. Для падмацавання сказанага падаем пералік яе запісаў у тым парадку, як яны ідуць па рукапісу: 1583, 1585, 1583, 1599, 1585, 1586, 1583, 1586, 1587, 1588, 1587, 1588, 1589, 1590, 1592, 1596, 1592, 1594, 1595, 1596, 1597, 1596, 1598, 1599, 1600, 1606, 1600.

Такую непаслядоўнасць у запісах можна знайсці і ў класічных летапісных творах, калі паведамленні аднаго

года перабіваліся паведамленнямі другога года і тым самым парушалася логіка храналагічнага выкладання матэрыялаў. Але там не знойдзем таго, каб летапісец так пераблытаў сучасныя яму падзеі, імёны і факты, як гэта зроблена ў «Баркулабаўскай хроніцы» за пералічаныя гады. І гэта акалічнасць наводзіць на думку, што калі і лічыць аўтарам запісаў за пералічаныя гады Фёдара Магілеўца, усё роўна далёка не ўсё з гэтых запісаў належыць яго пяру.

Цікава, што запісы за першыя гады XVII ст., якімі завяршаецца тэкст рукапісу «Баркулабаўскай хронікі», вытрыманы ў строгай храналагічнай паслядоўнасці. І хоць гэтыя запісы яшчэ захавалі ўсе знешнія атрыбуты летапісных запісаў з іх трафарэтным зачынам («Року...» або «Того ж року...») і храналагічна звязаны з папярэднімі паведамленнямі хронікі, яны нават пры ўсім сваім іншым падабенстве да запісаў за апошнія гады XVI ст. ужо досыць значна адрозніваюцца ад іх. Па характару апавядання, па малюнку і свежасці фарбаў, па надзвычай яркіх дэталях яны ўяўляюць сабою жывыя, эмацыянальна насычаныя ўспаміны аб толькі што перажытым часе, пра які іх аўтар імкнецца падзяліцца як мага паўней, бо падзеі яшчэ не сцёрліся з яго памяці. Пад яго пяром яны выліваюцца ў форму разгорнутага апавядання пра жахлівыя галодныя гады, калі людзі мерлі, як мухі, і трупы іх досыць часта не паспявалі закопваць у зямлю; калі яны, знясіленыя голадам, пакідалі родныя месцы, сям'ю, дзяцей і паасобку ці цэлымі ватагамі, ледзь цягнучы ногі, імкнуліся прабрацца на поўдзень у надзеі на выратаванне і ў пошуках хоць лыжкі заціркі. Але не кожнаму з іх спадарожнічала ўдача. Разам з тым аўтар мемуараў удзяляе значную ўвагу і падзеям грамадска-палітычнага жыцця. Так, у прыватнасці, ён досыць падрабязна апісвае, як і з чаго пачалася інтэрвенцыя ў Расію, хто яе ўзначальваў, якую яна прынесла шкоду мясцоваму насельніцтву і насельніцтву Расіі. І ў гэтай завяршаючай частцы сваіх успамінаў аўтар не застаецца абыякавым да таго, аб чым вядзецца гутарка ў яго запісах. Ён акрэслена і ярка выяўляе свае сімпатыі і антыпатыі.

Прымаючы пад увагу свежасць успамінаў, можна не сумнявацца, што аўтар іх не дажыў да канца польскай інтэрвенцыі ў Расію і што ўжо ў 1609 г. яго не было ў

жывых. Каму ж належаць гэтыя нататкі за апошнія 8 год «Баркулабаўскай хронікі»? Калі да канца прытрымлівацца меркавання М. В. Доўнар-Запольскага і лічыць аўтарам таго ж самага Фёдара Піліпавіча Магілеўца, тады шмат што не вяжацца з логікай. Ф. П. Магілевец мог дажыць да 1609 г. Яму тады было б прыкладна каля 50 ці крыху больш год. У карысць яго кандыдатуры на аўтарства сведчыць таксама і блізкасць мовы апошніх запісаў да мовы папярэдніх, якія ахопліваюць перыяд з 1583 па 1601 г. У іх нават адзін і той жа круг аўтарскіх інтарэсаў, асабліва ў галіне земляробчага календара і некаторых іншых аспектах. Але тады не зразумела, чаму адна і тая ж асоба так пераблытала ўсё ў запісах падзей канца XVI ст.? Чаму, пішучы свае ўспаміны хай сабе нават і ў 1609 г., яна пачала іх з канца, а не з пачатку і чаму не здолела надаць ім стройную паслядоўнасць і храналагічна ўвязаць з папярэднім тэкстам апісанне ходу Брэсцкага царкоўнага сабора 1590 г.? Паведамленне пра гэты сабор несумненна належыць пяру Фёдара Магілеўца, але ў рукапісу яно папярэднічае тэксту «Баркулабаўскай хронікі» і кампазіцыйна не звязана з ім. Па мове і стылю апісанне царкоўнага сабора значна адрозніваецца ад запісаў другой часткі «Баркулабаўскай хронікі», хоць яно і належыць духоўнай асобе. Улічваючы ўсё гэта, можна выказаць меркаванне, што апрача Фёдара Магілеўца ў напісанні другой часткі хронікі прымаў удзел яшчэ і хтосьці з мясцовых жыхароў, чалавек, вельмі блізкі па поглядах і жыццёвых інтарэсах да Ф. П. Магілеўца. Не выключана, што гэта асоба таксама была духоўнага сану. Іменна яна ажыццявіла канчатковую, хоць і не зусім дакладную кантамінацыю тэксту хронікі, падключаючы да яе свае ўласныя запісы. Нарэшце, што яна надала ёй той выгляд, у якім хроніка дайшла да нашага часу па рукапісу Сінадальнага фонда № 790. А гэта значыць, што невядомая зараз асоба выступала не толькі ў якасці апошняга ўкладальніка тэксту «Баркулабаўскай хронікі» і аднаго з яе сааўтараў, але нават і ў ролі рэдактара ўсёй другой часткі твора, у напісанні якой прымаў удзел і Фёдар Магілевец. І магчыма, ёй, а не апошняму належыць і тая недаравальная блытаніна гістарычных імён, дат, падзей і фактаў за перыяд ад 1583 да 1601 г., таму што для яе яны былі ўжо далёкімі па часе.

Вось чаму, разглядаючы «Баркулабаўскую хроніку» як суцэльны твор у тым выглядзе, які яна набыла пад пяром апошняга аўтара, мы лічым яе ананімным творам і не пагаджаемся з меркаваннем М. В. Доўнар-Запольскага, што яна была завершана Фёдарам Магілеўцам, бо для такога сцверджання няма дастатковых і бясспрэчных падстаў. «Баркулабаўская хроніка» з'яўляецца справай рук не аднаго, а некалькіх аўтараў, у ліку якіх быў і Фёдар Магілевец, але вызначыць дакладна памер напісанага ім досыць цяжка. А такіх сааўтараў па меншай меры было тры, праца якіх пазней была аб'яднана ў адзін звод.

Прымаючы пад увагу, што пасля асноўнага тэксту хронікі, які завяршаецца кароткай характарыстыкай 1608 г., у рукапісу пачынаецца напісаны іншай рукой невялікі тэкст пра ваенны паход караля Уладзіслава пад Смаленск у 1633 г., стварэнне звязнага тэксту хронікі можна датаваць часам дзесьці паміж 1609 і 1630 гг. А разам з тым можна цалкам пагадзіцца з меркаваннем П. А. Куліша, што той тэкст «Баркулабаўскай хронікі», які дайшоў да нас, з'яўляецца не арыгіналам, а толькі пазнейшай копіяй яго. Падставай для таго служаць як пакінутыя свабодныя месцы ў некалькі радкоў тэксту ў разліку на яго пазнейшае дапаўненне, так і сама рыхласць кампазіцыі гэтай хронікі.

Мяркуючы па характары адбору і асвятлення пададзенага ў мемуарнай частцы «Баркулабаўскай хронікі» матэрыялу, аўтар іх запісаў быў таленавітым чалавекам з асяроддзя той непрывілеяванай часткі грамадства, якое сваёй мазольнай працай стварала матэрыяльныя каштоўнасці. Як выхадцу з сялянскага асяроддзя, яму было надзвычай блізка і дарага вясковае жыццё. Аб ім ён імкнуўся расказаць як мага паўней, нічога не прапускаючы і без ідэалізацыі. Адсюль у цэнтры яго ўвагі простыя людзі сяла, іх цяжкая праца, эканамічнае становішча, паўсядзённая залежнасць сялянскага жыцця ад капрызаў прыроды, земляробчы каляндар і цэны на сельскагаспадарчыя прадукты, смутак, гора і радасці земляробаў, іх імкненні і мары. Вось чаму вёска ў яго выпісана з такой паўнатой і веданнем канкрэтнага жыцця, з эканамічнымі выкладкамі, з такой маляўнічай і скрупулёзнай падрабязнасцю, якая здзіўляе сваёй дакладнасцю. За тую пільную ўвагу да жыцця і побыту,

да працоўных подзвігаў безыменных жыхароў сяла і іх незайздроснага лёсу аўтара гэтых успамінаў можна назваць песняром сялянскай тэмы ў беларускай старажытнай пісьменнасці. Нічога падобнага мы не сустракаем ні ў адным іншым творы таго часу. Эмацыянальна насычаныя, поўныя драматызму малюнкі пакут на жніве ў халодную зімовую сцюжу, апісанне хлеба, спечанага з нявыспеўшых зярнят, пакут абяссіленых і голадам і холадам няшчасных людзей, якія надрыўна лямантуюць і вымольваюць кавалак хлеба або лыжку «варивца сырога» для свайго галоднага дзіцяці і тут жа паміраюць на чужыне каля плоту, калі ўжо няма сіл рухацца далей, ашаламляльны. Сяляне так выпісаны, што паўстаюць як жывыя, і чытач быццам бы сам усё гэта бачыць і чуе ўласнымі вачыма і вушамі, але ні ў чым не можа дапамагчы, каб палегчыць гора гэтых пакутнікаў.

Пільная ўвага да гаспадарчага боку жыцця сялянства, да земляробчага календара, да капрызаў прыроды абумовіла характар запісаў успамінаў. Яны вельмі часта выпачынаюцца з досыць трапна заўважаных і дакладна выпісаных непаўторных па свайму каларыту пейзажнабытавых замалёвак сельскага жыцця, якія пад пяром мемуарыста часам набываюць нават гукавое адценне і адпаведную эмацыянальную афарбоўку.

Канцэнтруючы ўвагу галоўным чынам на бытавых момантах і фактах сялянскага жыцця, мемуарыст часта дае дакладнае ўяўленне аб настроях і пачуццях свайго сучасніка, яго паводзінах у быту, яго веры ў цудадзейную сілу розных нябесных прыкмет і адносінах да некаторых з'яў грамадскага жыцця. У асобных выпадках, напрыклад у запісу пра дабравольнае хрышчэнне ў 1599 г. баркулабаўскай маладой яўрэйкі, мемуарыст нават спрабуе пранікнуць у псіхалогію канкрэтнага чалавека і тым самым вытлумачыць яго паводзіны ў пэўных абставінах. Тады яго апавяданне набывае характар псіхалагічнай навелы.

У «Баркулабаўскай хроніцы» досыць значнае месца адводзіцца падзеям грамадска-палітычнага і царкоўнага жыцця. Так, у прыватнасці, у яе запісах гаворыцца аб казаках, брэсцкіх царкоўных саборах 1590 і 1596 гг., аб першым і другім самазванцах, аб Сандамірскім шляхецкім рокашы 1606 г., паднятым кракаўскім ваяводам Мікалаем Зэбжыдоўскім, аб паяўленні Севярына Налі-

вайкі ў Магілёве. Закранаюцца каляндарная рэформа 1582 г., выбары караля Сігізмунда III Вазы, узнікненне брацкага руху, выкліканага каталіцкай Контррэфармацыяй, і некаторыя іншыя падзеі таго часу. Але не ўсе з гэтых падзей былі дакладна зразуметы аўтарамі. Не ва ўсіх іх яны ўлаўлівалі логіку і сутнасць. Як людзі, далёкія ад дзяржаўных спраў, яны часта глядзелі на гэтыя падзеі вачыма правінцыялаў. Значныя падзеі закраналіся імі толькі ў той сувязі, у якой яны ўплывалі на мясцовае жыццё, толькі ў той ступені, у якой яны закраналі інтарэсы іх родных месц.

Але важна падкрэсліць, што ва ўсіх выпадках, калі гутарка вялася пра ваенныя дзеянні, аўтары запісаў праяўлялі ярка выражаную адмоўную рэакцыю. Усе ваенныя паходы, незалежна ад іх характару і накіраванасці, разглядаюцца імі толькі з пункту погляду таго, якую шкоду прыносілі яны гаспадарчаму жыццю ў тых месцах, дзе праходзілі. Палітыка ў такіх выпадках іх не цікавіла. Вось чаму казакі ў іх запісах не карыстаюцца сімпатыяй нават і тады, калі пад кіраўніцтвам Налівайкі яны выступалі супраць дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай, якая біла па нацыянальных інтарэсах беларускага і ўкраінскага народаў. Казакі для іх ва ўсіх выпадках — гэта толькі марадзёры, якія нічым не адрозніваюцца ад салдат дзяржаўнага войска Рэчы Паспалітай. Аналагічная з'ява наглядаецца і тады, калі мемуарыст вядзе гутарку пра самазванцаў. Аўтар і тут на баку тых, хто станавіўся ахвярай ваенных сутыкненняў і губляў нажытае сваёй мазольнай працай. І таму не выпадкова яго апавяданне пра развязаную Самазванцам вайну прасякнута шчырым спачуваннем рускаму народу, нягледзячы на тое, што ў час узнятага В. Шуйскім бунта супраць Лжэдзімітрыя I паўстанцы досыць жорстка распраўляліся з яго суайчыннікамі, якія заслужылі такога абыходжання тым, што «з руских церквей великое насмеванье чинили, попов московских уруговали, з них ся насмевали». Надзвычай ярка і акрэслена адмоўнае стаўленне мемуарыст выказаў да Лжэдзімітрыя II. Ён ніколькі не сумняваецца, што гэта авантурыст, які паявіўся ў 1607 г. на Магілёўшчыне і пачаў выдаваць сябе за цара маскоўскага. Прасочваючы далейшы шлях гэтага «мнимого царя московского» і выкрываючы тых, хто патураў яму, мемуарыст інакш і не назы-

вае яго, як толькі зняважлівай клічкай «Дмітраш». І далей досыць пераканальна паказвае, што вайна, пачатая ім у мэтах заваявання царскага трона ў Маскве, з самага яе пачатку была справаю рук знатных паноў Рэчы Паспалітай, якія дапамагалі яму спустошаць рускую зямлю. Усіх гэтых паноў ён пералічвае паіменна. Разам з тым ён асуджае і купцоў за тое, што яны ў пагоні за лёгкай нажывай забяспечвалі інтэрвентаў гарэлкаю, чым «великую шкоду Москве делали». А нам, зазначае ён, жаўнеры інтэрвентаў у тым краю Магілёўскім «великую шкоду починили у статку, а наболшей у конях».

Жывыя сведкі гістарычных падзей свайго часу аўтары «Баркулабаўскай хронікі» ў большасці выпадкаў былі некампетэнтнымі ў пытаннях палітыкі і таму трактавалі іх наіўна і прамалінейна. Такой наіўнай прамалінейнасцю вызначаецца тлумачэнне арганізацыі ў гарадах і мястэчках Вялікага княства Літоўскага царкоўных брацтваў, якія змагаліся супраць каталіцкага наступлення, увядзення новага грыгарыянскага календара, Сандамірскага шляхецкага рокаша 1606 г. і інш. Не закранаючы сутнасці і прычын, якімі былі абумоўлены гэтыя з'явы, яны імкнуліся толькі падкрэсліць тыя страты, якія выклікалі «великое замешание промежи панами и промеж людми духовными, также и людми простыми» і суправаджаліся мноствам горкіх слёз, спрэчак, дакораў, рабункамі, спусташэннямі і забойствамі. А ва ўсіх гэтых стратах яны схільны былі бачыць не што іншае, як адзнаку «пристья антихристова», як праяву звычайнага зла, несумяшчальнага з разумовымі нормамі грамадскага жыцця. І вінаваты ў гэтым не хтосьці з канкрэтных асоб, а толькі д'ябал, бо гэта яго штучкі. І не выпадкова, што іх дакоры ў гэтых выпадках носяць абстрактны, бязадрасны характар.

«Баркулабаўская хроніка» стваралася ў той час, калі інтэнсіўна развівалася рэлігійна-палемічная публіцыстыка, выкліканая падрыхтоўкай і правядзеннем у жыццё ідэі царкоўнай уніі. Працэс падрыхтоўкі і ажыццяўленне гэтай уніі на Брэсцкім мясцовым царкоўным саборы 1596 г. знайшоў адлюстраванне і на старонках «Баркулабаўскай хронікі». І хоць яму ўдзелена дастаткова ўвагі і досыць падрабязна апісаны ход сабора, тым не менш ён не атрымаў тут належнай ацэнкі. Аўтару за-

пісаў пра гэтыя падзеі, які жыў у глухой правінцыі і глядзеў на грамадскае жыццё вачыма правінцыяла, былі абсалютна не ясны палітычная падаплёка самой ідэі царкоўнай уніі і самі тонкасці тых дагматычных спрэчак па пытаннях сімвала веравызнання, якімі азнаменаваўся царкоўна-рэлігійны раскол у асяроддзі праваслаўнага духавенства. І таму аўтар знарок не закранае гэтых цяжкіх для яго разумення пытанняў сімвала веравызнання і царкоўнай абраднасці. Ён толькі падкрэслівае сваю спрадвечную прыхільнасць да праваслаўя, якое дасталася яму ў спадчыну ад бацькоў, дзядоў і прадзедаў, і тым самым абумоўлівае асабістую варожасць да каталіцызму. Як прыхільнік веры продкаў, ён стаяў на баку праваслаўных у іх барацьбе з рэлігійным прыгнётам, навязаным каталіцкай царквой, ганьбіў уніяцкіх епіскапаў, абвінавачваў іх у кар'ерызме і здрадзе праваслаўнай царкве, кляйміў за ўвядзенне новага календара. Але разам з тым ён не праявіў асаблівай зацікаўленасці да царкоўных спраў, якімі тады жыла тагачасная грамадская думка. І толькі, відаць, таму, што аўтар запісаў не прымаў асабістага ўдзелу ў рэлігійна-палітычнай барацьбе таго часу, мова яго запісаў, прызначаных для міран, як і мова ўсёй «Баркулабаўскай хронікі», характарызуецца выключнай чысцінёй народнай гаворкі. У ёй няма штучнай кніжнай рыторыкі, характэрнай для помнікаў палемічнай публіцыстыкі. Яна не абцяжарана механічнымі запазычаннямі лексікі з грэчаскай, польскай, лацінскай і царкоўнаславянскай моў. Яна простая, лёгкая, па-народнаму трапная і сакавітая, вострая і лаканічная, надзвычай эмацыянальная і філігранная ў стылявых адценнях. У ёй пераважае фальклорна-бытавая лексіка, якая вызначае стыль усёй хронікі і паказвае, якія невычарпальныя магчымасці таіліся ў жывой народнай мове для развіцця тагачаснага прыгожага пісьменства.

Аўтары «Баркулабаўскай хронікі» былі досыць гуманнымі людзьмі, шчырымі патрыётамі і песнярамі роднага краю. Іх цікавіла ўсё, што адбывалася на шырокіх абшарах Рэчы Паспалітай. І ў гэтых адносінах «Баркулабаўскую хроніку» можна назваць панарамным творам эпохі. У сваіх запісах яе аўтары досыць выразна выявілі сваё бачанне свету, свае сімпатыі і антыпатыі, погляды і, што надзвычай важна, мастацкія здольнасці:

уменне адабраць і апісаць найбольш яркія драматычныя падзеі грамадскага жыцця, уменне сродкамі фальклорнай стылістыкі перадаць тое, што яны ўбачылі самі або пачулі ад іншых асоб, і перадаць выразна, лаканічна і маляўніча. Усе здарэнні і падзеі як агульна палітычнага, дзяржаўнага, так і мясцовага жыцця імі разглядаюцца з рэалістычных пазіцый і падмацоўваюцца эканамічнымі выкладкамі.

«Баркулабаўская хроніка» — надзвычай цікавы твор. У ім змешчаны багаты матэрыял і для гісторыкаў, і для эканамістаў, і для лінгвістаў, і для літаратуразнаўцаў, і для земляробаў, і нават для сіноптыкаў. І ў гэтым заключаецца своеасаблівасць «Баркулабаўскай хронікі» як унікальнага помніка старажытнай пісьменнасці канца XVI — пачатку XVII ст.

*Реестр списань, которые есьми листы через посланьцы мои, даючи ведать о князю великом и о новинах, о которых мне шпеги мои з земли его неприятельское московское ведати давали по смерти его королевской милости, славное, святое памяти зешлого пана нашего, до их милости панов рад Великого княжества Литовского посылал, почавшы от року 1573, месяца декабря 6 дня, и тепер до его королевской милости, пана нашого пришлого, и до их милости панов рад также, даючи ведать о справе князя великого московского и о новинах, отсюль з Орши писал и посланьцов моих посылал, то ест в року 1574.*

## Лист 1

### ДО ОСТАФЕЯ ВОЛЛОВИЧА[1], КАШТЕЛЯНА[2] ТРОЦКОГО

Ясневельможный милостивы пане троцки, пане а пане мой милостивый!

Новины, годные ведомости вашей панскей милости, пану моему милостивому, з сего краю даю ведати.

Дали ми справу шпеги мои, иж князь велики московски[3], собравши войска немалые, просто тенул до Казани[4], хотечи дати ратунук[5], бо, де, черемиса[6] луговая от него ся откинувши, дороги землею и водены свои до тых царств его засегнула и до Казани не пропускают, шкоду великую чынят, и тых, де, часов войска его осьми тысеч наголову поразили. Также, де, нагайцы[7] и иншие орды от него се откинули и Казань, де, запевне облегли.

Яко ж тых часов, декабря пятого дня, в суботу, у вилию святого Николая[8], вышол полоненник з Москвы на имя Иванец, подданы его милости пана старосты жомоитского[9], з Шклова[10], которы был у везеню в татар

московских, за Москвою сто миль[11], у Мещерску[12]. Тот, будучи в мене на Орши[13], дал ми таковую ж справу, во всем зложаючися (со.—*А. К.*) шпегами моими,— вышол есьми з Мещерска перед Филиповыми запусты[14], а шол на Олександрову Слободу[15], а з Олександровы Слободы на Москву, з Москвы до Смоленска[16] и з Смоленска аж тут до Орши,— и о князю великом поведил, же, де, сам князь великий и з своими ест у Олександрове Слободе, (з войски великими собрался, с которими мает ити до Казани. Татарове, де, нагайцы, черемиса луговая и иншие орды татарские от него се откинули и Казань обогнали, и сам, де, князь великий особою своею там на ратунок тягнет; и запевне, де, з Олександровы Слободы вытягнет на день святого Николая[17].

А непреспечности панства государя нашего жадное не поведает. И поведал, иж людей военных, почавши з Москвы аж до Смоленска, по тым городам нигде нет и простое черни мало: всех, де, з ним до Казани выгнано. А иншых, идучи по дорозе, много ж людей, тягнучи на войну до Олександровы Слободы, потыкал; для чого з ласки божой покою от того неприятеля на тот час великого сподиваем.

Яко ж тот же полоненник поведает, иж слышал в Смоленску, же од князя великого до воевод смоленских наказ пришол, абы в границах спокойне ся заховали и берегли покою накрепцей, и купцом тых панств абы обид жадных не чинили, и ласкаве ся зо вшелякою вольностью до них заховали, и товары, де, дорогие — злотоглавы, аксамиты и иншие дорогие речи—до казны своее росказал брать и платить поценно. А от своих, де, купцов вси товары московские росказал отбирать, то ест сукна, кожухи вшелякие и борании шлыки[18]. Того, де, не ведати, для чого? Одно ся домышляют, якобы мел хотеть дары давать татаром.

Ваша милость, пан мой (милостивый), о всем том рачи ведеть.

А прото ж прошу покорне пана своего милостивого, абым мог за милостивым призволением вашей милости панов рад[19] для пильных долеглостей моих з сего краю староства[20] моего до его кролевской милости, пана нам пришлого, зъехать а за милостивыми причинами вашей панской милости, опатрением которым государским, упадлость мою поратовать так, як того з самое милости-

вое жичливости вашей милости, государя моего, рада и наука мне ест, и яко заслужоное в скарбе, так и селка тые под Овручем [21], которыем вже з милостивого розсудку вашей милости панов рад и правом перевел, жебых вже всего того скутком дойти мог. Яко ж милостивый государю пане троцкий [22], в надею милостивые ласки вашей милости, государя моего, при сем листе моем посылаю ку вашей панской милости мамрап.

Вашей милости, государю моему, ведеть яко о таковых новинах, так и около того зъеханя моего писати до их милости панов рад корунных [23]. Ваша милость, мой милостивый государь, ведле милостивого а найбольшого баченя вашей милости панского, рач росказать з милостивое ласки своее до их мости тот листок от мене, слуги вашей милости, писару вашей панской милости справить. А я за таковую милостивую ласку вашей милости, пана государя моего, пана бога просечи за щасливое панование вашей милости, вечне службами моими заслуговать повинен буду. С тем, жычечи вашей панскей вельможности, моему милостивому пану, в ласце божей при добром здровю (фортунного панования.— *А. К.*).

Писан у в Орши, месяца декабря 5 дня, року 1573.

[24] Тым же обычаем и до всех их мости панов рад листы, которых, де, мало знаю; же есьми того Мартина (пытали.— *А. К.*) [24], естли бы князь великий не мел которого умыслу противного панствам короля его милости, пана нашого? Поведел, иж, де, того не слыхать, только, де, тот [25] на Москве говорит, што з Литвою [26] мир выйдет, и велено, де, городы осмотрывать.

Ваша милость, мой милостивый пан, о всем том рачи ведать. С тым жичечи вашой панской милости в ласце божой при добром здоровью [27].

Писан в Орши, декабря 7[28], року 1573.

Тым же обычаем и до всех их мости панов рад листы писаны [29].

## Лист 2

### ДО ПАНОВ РАД ВЕЛИКОГО КНЯЖЕСТВА ЛИТОВСКОГО

Освецоные а ясневельможные литовские панове рада Великого княжества Литовского, панове, панове мои милостивые!

Новин з краю тутошнего не мелом чого вашей милости на тот час писать. Однако з земли неприятельское слышать, иж, де, воеводы великого князя московского, которые на Астрахани[1] были и Астрахань (боронили.— *А. К.*), не могучи выдер(жа)ти моцы татар нагайских и черемиское, от которых чрез два годы в облежению были и про недостатек живности, порохов и куль, и се юж бронити неприятелю своему чим не мели и помочи и ратунку от господара своего мети не могли, з Астрахани утекли и бронною рукою аж до Казани увошли; то пак, де, татаре и черемиса Астрахань осели и в моц свою взяли. А Казань се, де, боронит моцно. Одно, де, того же — живности не доставает и дров не мают, чим се греть. Будоване в замку внутр всю, де, попалили.

А тако, которое войско князь великий вперед до Казани выслал,— яком о том первей до вашей панской милости (писал.— *А. К.*),— о тых войсках еще ничего не слыхать, але певно себе тушеть, иж, де, Казани дойдут и поратуют, бо, де, и другие войска, с которыми до Инфлянт[2] ся мели вернути, там же послал. С кролем, де, швейским[3] якобы неякое дочесное перемирие взял. И тых, де, часов ест сам на Москве и ехати мел до Новагороду[4]. Ваша милость, панове мои милостивые, о том ведати рачте.

А штом был первей сего до вашые панские милости писал, жедаючи с покорою моею, абым на корунацею его кор(олевской) милости, нашого милостивого пана[5], и в потребах замку того и во власных долеглостях моих ехати мог, ино иж вашей милости радам государским тое зъехание мое под тым часем се не видело, и пильне росказуючи писать ваша милость, панове мои милостивые, до мене, слуги ваших милости найменшого, рачили, абы с того староства моего[6] не ездил и послуг господарских и ваших милости пилен был.

А так я того росказания ваших милости, панов моих милостивых, не ослухиваючисе, тут есьми на Орши зостал. Только покорным и унижоным челобитием моим вашей милости, паном моим милостивым, челом бью и прошу, або яко найнижшы слуга государский и ваших милости, панов наших милостивых, як о заслужоное мое, так и опатрение на том замку через милостивые причины вашей панской милости у государя его милости препомнен не был. Что всё на милостивое бачене, причи-

ну и милосердие вашей панской милости поручивши, себе з найпокорнейшими и найнижшими службами моими милостивой ласце вашей панской милости поручам, с покорою просечи, абым опущон не был.

А о то теж моих милостивых государей с покорою прошу, абы неласки вашей милости не несло; упатрилшы час и обваровавши врад свой яко потреба, жебых мог до Чорнобыля? [7], именечка своего, на час короткий барзо малый (зъехати.— *А. К.*), бо ми се там великие кривды и утиски от сусед моих деют, в котором есьми вже то осьми год за службами государскими и вашей милости панов рад не бывал и боюся, абы остатка не розшарпано.

Писан у в Орши, месяца генваря 23 [8], року 1574.

## Лист 3

### ДО ПАНОВ РАД ВЕЛИКОГО КНЯЖЕСТВА ЛИТОВСКОГО

Освецоные ясневельможные милостивые панове рада Великого княжества Литовского, панове, панове мои милостивые!

Новин с краю тутошнего не мялэм чого вашей панской вельможности на тот час писать. Одно то з земли неприятельское слыхать, иж, де, князь великий московский сам и з сынми своими [1] тых часов з Москвы выехал до Олександровы Слободы. А ве, де, о приеханю его к(о)р(олевской) м(и)л(ости) [2], пана нашого милостивого, до Кракова [3] чует.

Войска, которые был роспустил, тым зась поготову росказал быть. А с татары нагайскими и черемисею перемирье взял и жалование, де, або поменки великие им дал; якобы около тых царств постановлене з ними великое взял; Казань одержал и на Астрахань своих же, де, воевод инших послати мел.

Послы его, которые до вашей милости панов рад, панов моих милостивых Короны польское и Великого княжества Литовского (посланы.— *А. К.*), также и гонец, тые и тепер лежат в Смоленску. Одно ж се ничто таковогo тых часов о месопустех [4] поброило. Нашедшы в месте Смоленьском на дом гостинный, хотечи брати

маетности купецкие, некоторых купцов здешних панств е(го), к(о)р(олевской) м(илости) поранили и позабияли.

З их теж стороны от купцов наших также и з наших там же до князя великого купцов колько особы для скарг ехало, и вже, де, одного с тых послов до Олександровы Слободы на подводах помчали. И што с тым будет, того не вемы.

Тое теж слыхать, иж опатрность великую яко в Смоленьску, так и по инших всех городех украины[5] вшелякими потребами чинет. Ваша милость, панове мои милостивые, о всем том ведать рачте.

А яком первей сего до вашей панской милости, панов моих милостивых, жедаючи, с покорою моего писания, абым на корунацию его к(о)р(олевской) м(илости), нашого милостивого пана, в потребах замку того государского, староства моего — Оршы и во власных долеглостях моих ехати мог. Ино иж вашей милости, радам государским, тое зъехание мое под оным часом се не видело с причин тых, яко для непрезпечности от неприятеля, так иж теж е(го) к(о)р(олевская) м(и)л(ость), государ наш милостивый, до паньств корунных еще был не прибыл.

А иж вжо тепер в нас, слуг государских и вашей панской вельможности, слух таковый по всей украине ест, иж з ласки божой е(го) к(о)р(олевская) м(и)л(ость), наш пан милостивый, щасливе приехавши до тых панств своих государских, ест вжо и коронован и, щасливе на столицы своей крулевской заседши, нам пановати рачит, што дай, пане боже, абы вечне з благославенством божиим нам, верным подданым е(го) к(о)р(олевской) м(и)л(ости), сам и с потомством своим государским в справедливости божей яко пан хрестиянский фортунне кролёвал, нас бронил, миловал и шановал.

И прото ж, яко перве, и тепер покорне прошу и чолом бью, жебых в тых во всех потребах так замку того, яко и своих власных, за милостивыми причинами вашей панской милости, панов моих милостивых, за дозволенем государским до двору е(го) к(о)р(олевской) м(и)л(ости) ехати мог, поки еще тот час малый от неприятеля во в покою трва, наймнейшого служебника вашей панской вельможности прычин ласкавых зъеханю моему отсюль не мог меть.

Покорне прошу, для милосердия божого, рачте на недостаток мой вейзреть, милостиве ся до е(го) к(о)р(олевской) м(и)л(ости) з мест своих панских причинить, заслужоное мое, которое жебы ми с скарбу е(го) к(о)р(олевской) м(и)л(ости) было заплачено. Так и около опатрения того замку Оршы, который вжо так опалый,же жаден ратунок и оброна з него быть не может, а недостатков всих полон: ни мая ани жывности, ани стрельбы пристойне ведле своее обороны в час потребы, с чого и чим неприятелю отпирать. Што всё самому милостивому баченю вашей панскей вельможности поручывшы, себе з найпокорнейшими и унижоными службами моими милостивой ласце вашой панской милости поручам с покорою, просечи, абым непрепомнен и опущон не был. А который почот козаков петдесят за преповеданием и росказанием вашей панской вельможности, якось скоро по смерти его к(о)р(олевской) м(и)л(ости) фалебной, светое памети зешлого нашого милостивого пана [6], пры том замку аж до тогом часу ховал и тепер ховам, на который жадна заплата от того часу мене, слуги, не дошла. Мам ли тот почот, еще больш того, пры том замку государском меть?

А то на всё з ласки вашой панской милости неомешканое науки потребуе.

Писан у в Орши, месяца марца 1 дня (року 1574.— *А. К.*).

## Лист 4

### ДО ОСТАФЕЯ ВОЛЛОВИЧА, КАШТЕЛЯНА ТРОЦКОГО[1]

Ясневельможный милостивый государю пане троцкий, пане, пане мой милостивый!

Новины, годные ведомости вашей панской милости, пана моего милостивого, з сего краю в особливом листе моем по достатку выписавшы до всех вобец их мости панов рад Великого княжества Литовского, моих милостивых панов, через того посланца моего выслал.

Только покорне чолом бью пану моему милостивому, абы тот посланец мой, которому и в инших потребах и долеглостях моих устне росказал перед вашею милостию, моим милостивым паном, преповедеть и преложить

яко о тот замок государской, так и во власной речи моей, покорне и ниско чолом бью пану моему милостивому о неомешканую отправу, абым достатечную о всё тое от вашей милости, панов рад, мел и власные потребки мои одержал.

А зособно коло того, иж овде во всих тых украинах слыхать, же е(го) к(о)р(олевская) м(и)л(ость), не хотечи длужей терпеть неприятелю и на далей перемирия откладать, але заразом почал з ним чинить.

Ото ж юж неприятель, чуючися, в том способляет и готует так, жебы теж его к(о)р(олевской) м(и)л(ости) и вашмостым паном нашым опатровать в сей час, звлаща з украины ту потреба. И обротит ли ся его к(о)р(олевская) м(и)л(ость) до Смоленска? То юж перша, же у в Оршы станя так в замку, яко в месте ве дворе, часов зимных меть не буде, бо всё згнило, ни к чему приехать; есть теж, пить ничего. Чого всего сам ваша милость, мой милостивый пан, сведом быти рачыш. На то за часу потреба опатрения. А иншые всё, словне, яком вышей писал, не труднечи в(ашу) м(и)л(ость), государя моего милостиваго, писанием шыроким перед вашею милостию, моим милостивым паном, росказалом приложить.

Проше о милостивое и ласковое того посланьца моего выслухание, а особливе о милостивую оборону от овручан, о Чорнобыль. Што первей мовили, жебых я под ним упросил, а тепер, то отменилши, написали, «же им то король взял, яко властную отчызну их». А на прывилью их власном стоит: «замок наш государский». Отчызны и вечности на нем жадное не мели — в шафунку и в ревизии государской был. А теж вже через десятый год о то зешломy государю [2] не вспоминали, бо хотя ж ме и позывали, ино вже тая вся справа за ласкою вашей панской милости мене от пана стольника дошла пры иных. С справы тое никого не стало, а уния [3] вси таковые фримарки и данины утвердила.

Государю! Борони мя, слугу, так теж покорне прошу о прычыну мандату государского с канцелярыи корунное о Кобылиньцы и Левковцы, жебых вже з ними конец прынял, коло чого справу достатечную тот выросток мой Лосятинский вашей милости, пану моему милостивому, дасть. А я все тые милостивые ласки вашей милости вечне з жонечкою моею и детками заслуговать буду.

С тым жычечи в(ашей) м(и)л(ости), моему милостивому пану добродею, в ласце божей при добром здровью во всем фортунного сполом з ей м(и)л(остию) панею малжонкою и з милым потомством в(ашей) м(и)л(ости) в долго незамерный век пованя. Себе и службы мои милостивой ласце в(ашей) м(и)л(ости) залецам, покорне просечи, абым опущон не был.

Писан у в Орши, месяца марца 1, року 1574.

## Лист 5

### ДО ПАНОВ РАД ВЕЛИКОГО КНЯЖЕСТВА ЛИТОВСКОГО[1]

Освецоные а ясневельможные, милостивые панове рада Великого княжества Литовского, панове а панове, панове милостивые!

По высланю до вашей панской милости отсюль з Оршы того хлопца моего Лосятинского сегодня, у во второк, марца второго, прислал до мене з заграничья шпег мой на имя Кузьма Труба посланьца своего, даючи знать, иж на днех теперешних блиско прошлых люду московского немалые, де, войска до Смоленска прибыли, а людей пограничных из сел от границ приставщики выгоняют до Смоленска и острог[2], де, новый моцный в Смоленску почали робить. А ве (для.— *А. К.*) даня певнейшее лепшое ведомости тот Труба сам еще на рубежу позостал.

А я, слуга вашей панской милости, маючи таковую ведомость, того ж часу и тое годины другого есьми шпега, Олексея Надавца, там же еще до границ выслал, абы што певного и неомыльного, выведалшися, мне знать давали.

Потом, скоро по отправе тых шпегов, того ж дня, у второк, марца второго ж, другий шпег мой з другое строны, з рубежа ж смоленского, на имя Юрко Желожковец дал знать тыми ж словы, иж, де, з Смоленска приставщики смоленские — не ведати, што тому за причина — людей всих з сел з заграничья до Смоленска выгоняют. И поведал, иж ся того запевне выведал, же на тых часех, запевне, князя великого московского з сыном его меншим[3] до Якимова Починку[4] сподевают, и люду, де,

военного немало до Смоленска прибыло. А сына, де, старшого[5] князь великий посадил на царстве на Новегороде Великом.

В(аши) м(и)л(ости), панове мои милостивые, о всем том рачте ведать. А я, слуга в(аших) м(и)л(остей), што слышу, то пишу и пильность коло того овде великую чиню и штосякольвек потом поновит не омешкам вашей панской вельможности давать знать (буду.— *А. К.*). Только, для пана бога, о тое прошу: отколь на таковые посылки маю на страву брать и шпегом давать? Гды ж есьми и до перших утрат моих за обытницою государя его милости зешлого[6] и в(аших) м(и)л(остей) панов рад еще не пришол.

Для пана бога, милостивые панове, рачте, ваша панская милость, о том дбать, абы про який недостаток мой, не маючи где чого взять, таковых справ до двору не омешкал, а до якое неласки его королевской милости и в(аших) м(илостей) панов рад чего не уронил.

А особливе покорне прошу: рачте, ваша панская милость, выписати и науку дати, гды ж з ласки божей государя маем, и неприятель о том ве, яковым тытулом[7] маю до воеводы смоленского писати? Бо з Смоленска овде до Орши от воеводы посланники его приеждjают частые, жадаючи буде якие причины около долгов, або яких скарг, а больш, абы о государю и о всяком повоженю с причин тых ведати могли. На што все мне от в(аших) п(анских) м(и)л(остей) неомешканое науки потреба. С тыми жычечи в(ашей) п(анской) вельможности, паном моим милостивым, в ласце божей при добром здоровю фортунного панованя, себе з найпокорнейшими и унижоными службами моими милостивой ласце в(ашим) п(анским) м(илостям) пильне залецам и покорне прошу, абым опущон не был.

Писан у в Орши, месяца марца 2 дня, року 1574.

## Лист 6

### ДО ВАЛЕРЬЯНА ПРОТАСЕВИЧА[1], БИСКУПА[2] ВИЛЕНСКОГО[3]

Велебный в Кристусе, а ясневельможный милостивый княже бискупе виленский, пане а пане и государю мой милостивый!

[7] *Выслучча* (зараз Васлуй) — румынскі горад на р. Бырлад. У свой час тут знаходзілася рэзідэнцыя малдаўскага гаспадара Стэфана Вялікага (1435—1504).

[8] *«...шол на Белгород»* — г. зн. Белгарад-Дністроўскі (былы Акерман), які ў XV—XVII стст. быў сталіцай заснаванай тут нагайскімі татарамі Белгародскай Арды.

[9] *Ачакаў* — партовы горад на Чорным моры, узнік у 1492 г. на месцы зруйнаванай у 80-х гадах XV ст. Крымскім ханствам крэпасці Дашыў, пабудаванай літоўскімі феадаламі ў 30-х гадах таго стагоддзя. Калі татары заснавалі тут свой горад-крэпасць, яны назвалі яго Кара-Кармен (чорная крэпасць), а туркі, якім ён дастаўся ў хуткім часе, перайменавалі яго ў Ачакаў. З гэтага апорнага пункта татара-турэцкія агрэсары рабілі разбойніцкія набегі на Украіну, Расію і Польшчу.

[10] *Перакоп* (зараз Чырвонаперакопск) — горад на Чангарскім перашыйку, які злучае Крымскі паўвостраў з мацерыком. Сваю назву атрымаў ад рова, які тут пракапалі ў старажытнасці крымскія татары, каб абцяжарыць праціўніку доступ да свае крэпасці Ферх-Кермен, пабудаванай ханам Менглі Гірэем у XV ст. У турак яна называлася Ор-Капі, а ў рускіх і палякаў — Перакоп.

[11] *Пуціўль* — старажытны рускі горад на р. Сейм (левы прыток Дзясны). Уваходзіў у склад Чарнігаўскага княства. У другой палавіне XIII ст. быў цэнтрам удзельнага Пуціўльскага княства. Апеты ў «Слове аб палку Ігаравым». Каля 1356 г. захоплен Вял. кн. Літоўскім. У 1500 г. увайшоў у склад Расіі.

[12] *«...по светом Юлии».* — г. зн. пасля царкоўна-каталіцкага свята ў гонар папы рымскага Юлія І (337—352). Яго дата — 12 красавіка.

[13] *Барысаў* — беларускі горад на р. Беразіне. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім адносіцца да 1127 г. З канца XIII ст. апынуўся над уладай Вял. кн. Літоўскага, з 1542 г. знаходзіўся ў складзе Віленскага ваяводства. У 1563 г. стаў цэнтрам староства, якое было ўладаннем спачатку кн. Агінскіх, потым Радзівілаў.

[14] *«...кром детей а голов белых»* — г. зн. апрача дзяцей і жанчын. Па польскаму звычаю «белымі галовамі» звычайна называлі жанчын незалежна ад іх сямейнага становішча.

[15] *Чаркасы* — старажытны ўкраінскі горад на р. Днепр. Узнік у другой палавіне XV ст. з казацкіх пасяленняў, якія ствараліся для барацьбы супраць татарска-турэцкай агрэсіі. У пачатку XVI ст. горад стаў цэнтрам староства. У 1536 г. тут адбылося паўстанне супраць літоўскіх феадалаў. Пасля 1569 г. Чаркасы трапілі пад уладу Рэчы Паспалітай. Яго насельніцтва прымала ўдзел у паўстаннях Касінскага (1591—1593), Паўлюка (1637) і ў нацыянальна-вызваленчай вайне Багдана Хмяльніцкага (1648—1654). Да 1648 г. Чаркасы былі галоўным казацкім горадам, рэзідэнцыяй украінскіх гетманаў, якую Б. Хмяльніцкі перанёс у Чыгірын.

[16] Маецца на ўвазе Іаан III Ваза.

**Ліст 16**

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі Ліст пададзены пад № 12 і датуецца там 20 чэрвеня.

[2] *«Федор Елизарев, сын Елчанинов»* — кур'ер Грознага ў Рэч Паспалітую ў 1574 г. з дыпламатычным даручэннем віншаваць Генрыха Валуа з абраннем яго на польскі каралеўскі трон.

[3] Высветліць персанальна кожнага з названых тут чатырох папярэднікаў Кміты-Чарнабыльскага на пасадзе аршанскага старасты не ўяўляецца магчымым, за выключэннем кн. Адзінцэвіча Андрэя Сямёнавіча. Пра апошняга вядома, што ён ужо ў 1566 г. быў маршалкам караля і з'яўляўся старастам аршанскім. Па каралеўскаму прывілею, ротмістр Кміта-Чарнабыльскі атрымаў пост пагранічнага старасты аршанскага толькі 1 чэрвеня 1567 г., відаць, пасля смерці кн. А. С. Адзінцэвіча.

[4] *Расасна* — паводле Геаграфічна-статыстычнага слоўніка Расійскай імперыі (т. IV, СПб, 1873), складзенага П. Сямёнавым, мястэчка ў Горацкім павеце Магілёўскай губ. на р. Расосенцы (левы прыток Дняпра). Зараз рэчка працякае па тэрыторыі Дубровенскага р-на Віцебскай вобл. Ці захаваўся гэты населены пункт да нашых дзён, нам невядома.

[5] *Любавічы* — населены пункт на р. Беразіне, які зараз адносіцца да Руднянскага р-на Смаленскай вобл.

[6] *Бабіна* (зараз Бабінавічы) — населены пункт пры зліцці рр. Верхіты і Чэрніцы ў Лёзенскім р-не, які ўжо ў XVIII ст. быў павятовым горадам.

[7] *Заозерцы* — высветліць месцазнаходжанне гэтага населенага пункта не ўдалося.

[8] *Дзевіна* — невядома, дзе знаходзіцца зараз гэты населены пункт і ці існуе ён наогул.

[9] *Пашына* — існаванне і месцазнаходжанне гэтага населенага пункта невядома. Магчыма, што ў арыгінале Ліста было напісана «Паршына», але пры друкаванні прапушчана літара «р». Пад назвай «Паршына» існуе зараз населены пункт у Горацкім р-не Магілёўскай вобл.

[10] *Баева* — зараз цэнтр сельсавета ў Дубровенскім р-не Віцебскай вобл.

[11] *Палоннае* — мабыць, населены пункт Горацкага р-на, які зараз называецца Палёнкай.

[12] Падскарбіем у гэты час быў Лаўрын Война.

[13] *Грош* — старадаўняя разменная манета многіх еўрапейскіх краін. У Расіі да грашовай рэформы 1838 г. яго каштоўнасць вызначалася ў 2 кап., а пасля яе грош стаў паўкапейкай. У Польшчы і зараз існуе грош, які складае адну сотую частку злотага.

[14] *Капа* — старадаўняя лічба, роўная 6 дзесяткам.

[15] Слугамі путнымі ў Рэчы Паспалітай называліся людзі, якія пастаянна раз'язджалі па даручэнню гаспадара.

[16] Падольскімі спадчыннымі маёнткамі Кміты-Чарнабыльскага былі Лецяна, Палцэвічы і Калашы ў Вінніцкім павеце і жылы двор у самой Вінніцы, якія ў 1566 г. ён здаў каралю ўзамен на Чарнабыль, Кубеліна і Аляўкоўцы.

[17] Маецца на ўвазе кароль Сігізмунд II Аўгуст.

[18] Маецца на ўвазе Генрых Валуа.

[19] *«А для тое справы з тыми позваными поддаными на двор е(го) м(илости) государский умоцованого своего от себе посылам».* — Размова ідзе пра каралеўскі задворны асэсарскі суд, які з'яўляўся вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй, і «вырак» (прыгавор) яго не падлягаў абскарджанню, паколькі рабіўся ад імя караля. Пазней гэту функцыю ўзялі на сябе трыбуналы.

[20] Кароным канцлерам у гэты час быў *Валянцін Дэнбінскі* (?—1585), які ўключыўся ў грамадскую дзейнасць у часы рокаша

1537 г., вядомага пад назвай «петушынай вайны». Там ён выступіў красамоўным абаронцам правоў і прывілей шляхты. З 1548 да 1550 г. займаў пасаду кароннага рэферэндарыя. Потым быў кашталянам бецкім, кашталянам сандэцкім і бургграбіем кракаўскім. У 1562 г. стаў падскарбіем каронным, а з 17.IX 1564 да 9.V 1576 г. з'яўляўся канцлерам каронным, потым пасля Іераніма Млоцкага да канца жыцця — кашталянам кракаўскім. У гісторыі нацыянальнай культуры за В. Дэнбінскім замацавалася клічка «польскі Нестар».

## Ліст 17

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.

[2] Маецца на ўвазе Мікалай Юр'евіч Радзівіл.

[3] Маецца на ўвазе кашталян віленскі. У 1574 г. ім быў Ян Іеранімавіч Хадкевіч.

[4] *Мажайск* — старажытны рускі горад. Першыя летапісныя звесткі аб ім адносяцца да 1231 г. У свой час быў цэнтрам павета ў Смаленскім княстве. У 1541 г. Іван Грозны пабудаваў тут крэпасць для абароны ад Вял. кн. Літоўскага.

[5] *Старыца* — старажытны рускі горад на Волзе (цяпер Калінінскай вобл.), заснаваны ў 1297 г. кн. Міхаілам Яраславічам Цвярскім. Быў аплотам баярска-княжаскай рэакцыі, накіраванай супраць рэформ Грознага. У XVI ст. цэнтр аднаго з апошніх удзельных княстваў на Русі. За гісторыю свайго існавання Старыца неаднаразова разбуралася ў выніку княжаскіх міжусобіц і набегаў літоўскіх князёў. У час вайны з каралём Стэфанам Баторыем Іван Грозны часта бываў тут з 1579 па 1581 г.

[6] *Возны* (польск.) — афіцыйны судовы чыноўнік у Рэчы Паспалітай, у абавязак якога ўваходзіла ўручэнне павестак на суд і аб'яўленне судовых дэкрэтаў.

## Ліст 18

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзены пад № 13, але таксама без указання назвы месяца. У падрадковай заўвазе да гэтага месца зроблена агаворка, што ў тым рукапісу, па якім камісія давала сваю публікацыю, «у гэтым месцы вырваны адзін або некалькі лістоў».

[2] *Б. Завадскі* і *Мацвей Пратасовіч* — сакратары караля Генрыха Валуа. Іншых звестак пра іх адшукаць не ўдалося.

[3] *Мярэя* — левы прыток Дняпра, працякае па тэрыторыі сучасных Магілёўскай і Віцебскай абласцей.

[4] *Лосьма* (відаць, Лосьвінка) — левы прыток Дняпра, працякае па тэрыторыі сучаснай Смаленскай вобл.

[5] *Калывань* (зараз Талін) — горад на беразе Фінскага заліва. Заснаваны ў 1219 г. дацкім каралём Вальдэмарам II (1170—1241). З 1551 да 1701 г. знаходзіўся пад уладай Швецыі.

## Ліст 19

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзены пад № 14.

[2] *Сухадольскі* — кур'ер Яўстафія Валовіча да Кміты-Чарнабыльскага.

[3] Размова ідзе пра паспешлівы і тайны ад'езд з Кракава караля Генрыха Валуа.

[4] Маецца на ўвазе М. Ю. Радзівіл.

[5] *Авакум* — прадбачлівы і мудры біблейскі прарок часоў вавілонскага цара Навуханданосара (604—562 да н. э.). Словамі «московский, тот прозорливый Аввакум» Кміта-Чарнабыльскі адзначае высокія якасці Івана Грознага як дзяржаўнага дзеяча свайго часу.

[6] *«...и на цесарского сына указал».*— Маецца на ўвазе эрцгерцаг Эрнест, сын аўстрыйскага імператара Максіміьяна II Габсбурга (1527—1576), на якога арыентавалася разам з многімі польскімі сенатарамі і частка літоўскіх сенатараў на чале з канцлерам М. Ю. Радзівілам.

[7] Іван Грозны.

[8] *Ляхі* — старажытная этнічная назва палякаў, якая спачатку датычылася жыхароў Малой Польшчы, сталіцай якой была Варшава. Пазней стала абразлівай мянушкай сярод беларусаў, украінцаў і рускіх у дачыненні да палякаў наогул.

[9] *Капернаум* — старажытны яўрэйскі горад на беразе Генісарэцкага возера, заснаваны ў апошнім стагоддзі да н. э. Па сведчанню старажытнага гісторыка Іосіфа Флавія, горад быў багатым і працвітаючым дзякуючы свайму размяшчэнню на ажыўленым гандлёвым шляху з Дамаска ў Ерусалім, а адтуль у Газу і Егіпет, а таксама сувязям з прыморскімі гарадамі Цірам, Сідонам і інш. У часы войнаў з рымлянамі Капернаум, як і рад іншых гарадоў Іудзеі, быў дашчэнту разбураны і больш не аднаўляўся. Біблія называе гэты горад пастаяннай рэзідэнцыяй Ісуса Хрыста. У Лісце Кміты-Чарнабыльскага назва горада ўжыта ў пераносным сэнсе, як паэтычная метафара.

[10] Маецца на ўвазе Лаўрын Война.

[11] *«Бо прийдет час, коли будет надобе Илии Муравленина и Соловья Будимировича».*— Кміта-Чарнабыльскі параўноўвае сваю дзяржаўную службу з дзейнасцю народнапаэтычных былінных асілкаў Ільі Мурамца і Салаўя Разбойніка. Метафарычнае выкарыстанне гэтых яркіх фальклорных вобразаў сведчыць, што Кміта-Чарнабыльскі добра ведаў былінны эпас свайго часу і разумеў сілу яго паэтычнага ўздзеяння на тагачаснага чытача і слухача.

[12] Кміта-Чарнабыльскі мае на ўвазе дачку караля Сігізмунда I Старога Ганну Ягелонку (1523—1596), якая пасля смерці свайго брата, караля Сігізмунда II Аўгуста, прэтэндавала на Вял. кн. Літоўскае і ў снежні 1575 г. стараннямі белзскага і тэнчынскага ваяводы Яна Замойскага (1541—1605) была аб'яўлена польскай каралевай.

[13] *Марцін Стравінскі* (?—1594) — цівун і гараднічы трокскі, маршалак караля, з 14 мая 1590 г. кашталян мінскі, з 1592 г. кашталян віцебскі.

[14] *Сеймік* — лакальны шляхецкі з'езд у Рэчы Паспалітай.

[15] Маецца на ўвазе кароль Сігізмунд II Аўгуст.

[16] Размова ідзе пра біблейскага прарока Іерамію, якога хрысціянская царква ўзвяла ў ранг святых і прыпісала яму аўтарства 2-х кніг Бібліі — «Плач Іераміі» і «Кнігу прароцтваў Іераміі».

## Ліст 20

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзены пад № 15.

[2] Маюцца на ўвазе Завадскі і Пратасовіч.

[3] *Дарагабужжа* — старажытны рускі горад, вядомы з 1300 г. З 1404 па 1499 г. знаходзіўся пад уладай Вял. кн. Літоўскага. Па Андросаўскаму мірнаму дагавору 1667 г. канчаткова адышоў да Расіі.

[4] Маецца на ўвазе Фёдар Елізаравіч Елчанінаў.

[5] Маецца на ўвазе Сігізмунд II Аўгуст.

[6] *«...писар польный»* — саноўнік вайсковага ўрада і чыноўнік самага вышэйшага разраду ў Рэчы Паспалітай. З польных пісараў таго часу нам вядома толькі прозвішча ўжвенцкага цівуна Войцэха Стаброўскага, які з 1574 па 1579 г. быў пісарам польным інфляндскім. Памёр каля 1610 г. Магчыма, што пра яго і вядзе тут гутарку Кміта-Чарнабыльскі.

## Ліст 21

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзены пад № 16.

[2] Размова ідзе пра Багдана IV Лапуснеанула (9.V 1555—1572), які ў сакавіку 1568 г. быў адзінагалосна абраны вярхоўным правіцелем («гаспадаром») Малдавіі пасля смерці свайго бацькі і самастойна пачаў кіраваць дзяржавай з 1570 г. З прычыны польскай арыентацыі яго палітыкі турэцкі султан адхіліў Багдана ад улады і на яго месца прызначыў Івана Армяніна. Той з наёмнымі туркамі і фесалійцамі рушыўся ў Малдавію, прыбыў у Ясы і ўрачыста ўступіў на княжаскі трон. Багдан звярнуўся за дапамогаю да караля Сігізмунда II Аўгуста, які дазволіў яму набраць у Рэчы Паспалітай 3000 войска пад камандаю гетмана Мялецкага. У канцы 1571 г. паміж гэтымі войскамі адбылася бітва над р. Прут. Падтрыманы 6000 турак Іван атрымаў перамогу. Багдан уцёк у Вену, потым жыў у Парыжы, Капенгагене, памёр у Маскве.

[3] *Лагафет* — сакратар дзяржаўнай канцылярыі ў сярэдневяковай Малдавіі, які ў адсутнасць гаспадара кіраваў яго баярскай радай (саветам). У абавязак лагафета ўваходзіла быць уладаром дзяржаўнай пячаткі, весці дыпламатычную перапіску, прымаць іншаземных паслоў і весці з імі ад імя гаспадара перагаворы. Лагафетам Малдавіі ў гэты час быў Іван Майсеевіч Магіла.

[4] Маецца на ўвазе Ф. Е. Елчанінаў.

[5] Маюцца на ўвазе Завадскі і Пратасовіч.

[6] У адрозненне ад Вял. кн. Літоўскага Каронай у той час называлася ўласна польская частка аб'яднанай дзяржавы Рэчы Паспалітай.

[7] Маецца на ўвазе *Карл IX Валуа* (1550—1574) — французскі кароль (з 1560 г.). У час яго кіравання 24.VIII 1572 г. адбылося масавае знішчэнне пратэстантаў (гугенотаў) католікамі, вядомае ў гісторыі пад назваю Варфаламееўскай ночы.

[8] Маецца на ўвазе *Екацярына Медзічы* (1519—1589), якая ў 1533 г. стала жонкаю французскага караля Генрыха III Валуа. Яна іграла значную ролю ў палітыцы Францыі ў час праўлення яе сыноў: Францыска III (1544—1560), які быў каралём з 1559 г. і асабліва Карла IX, калі яна ў саюзе з важаком каталіцкай партыі Генры-

Хам Гізам дамаглася сынавай згоды на знішчэнне гугенотаў у ноч пад св. Варфаламея (г. зн. 24.VIII 1572 г.).

[9] *Вязьма* — старажытны рускі горад на аднайменнай рацэ ў сучаснай Смаленскай вобл. Упершыню ў летапісу ўпамінаецца пад 1239 г. як цэнтр удзельнага княства. Пад уладаю Вял. кн. Літоўскага знаходзілся з 1403 па 1494 г. і з 1611 па 1634 г. У тыя часы Вязьма мела вялікае гандлёвае і ваенна-стратэгічнае значэнне.

[10] Маецца на ўвазе 1 верасня.

[11] *Пакроў* — рэлігійнае свята, якое адзначаецца 1 (14) кастрычніка. Уведзена царквою ў першай палавіне X ст. у Канстанцінопалі ў сувязі з перамогай, атрыманай у гэты дзень Візантыяй над сарацынамі.

[12] Тут пад словам «немцы» Кміта-Чарнабыльскі разумее насельніцтва Лівоніі, дзе жылі тады не толькі немцы, але і шведы, датчане, эстонцы, латышы і нават літоўцы, г. зн. усе народы, якія размаўлялі не па-славянску.

## Ліст 22

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзен пад № 17 і датуецца 29 жніўня.

[2] Ні тэкст ліста смаленскага ваяводы, пра які тут ідзе размова, ні адказ на яго Кміты-Чарнабыльскага нідзе і нікім не друкаваліся. Па сведчанню Археаграфічнай камісіі ў тым рукапісу, па якім яна давала сваю публікацыю перапіскі Кміты-Чарнабыльскага, іх не аказалася.

## Ліст 23

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.

[2] *«В небо взятие панны Марии»* — каталіцкая назва рэлігійнага свята, вядомага ў прабаслаўнай царкве як «успение преподобной богородицы», якое адзначаецца хрысціянскай царквой 15 (28) жніўня.

[3] Маецца на ўвазе Сігізмунд II Аўгуст.

## Ліст 24

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.

## Ліст 25

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.

## Ліст 26

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзены пад № 19 і датуецца 20 верасня.

[2] Маюцца на ўвазе Завадскі і Пратасовіч.

[3] *Багдан Мамоніч.* — Высветліць, у якім сваяцтве ён быў з уладальнікамі віленскай камерцыйнай друкарні Лукашом і Кузьмой Мамонічамі, не прадстаўляецца магчымым.

[4] Маецца на ўвазе Генрых Валуа.
[5] Маецца на ўвазе царэвіч Фёдар Іванавіч, сын Івана Грознага.
[6] Размова ідзе пра якуюсьці завераную канцылярскай пячаткаю і дасланую Івану Грознаму грамату ад сенатараў Вял. кн. Літоўскага, змест якой тут не раскрываецца.

## Ліст 27

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.
[2] *Менск* — старая назва Мінска. Упершыню ўпамінаецца ў летапісу як абарончая крэпасць Полацкага княства. З 1104 г. ужо вядомы як цэнтр удзельнага княства. У першай чвэрці XIV ст. апынуўся ў складзе Вял. кн. Літоўскага, у сярэдзіне XVI ст. цэнтр Мінскага ваяводства.

## Ліст 28

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст не друкаваўся.

## Ліст 29

[1] У выданні Археаграфічнай камісіі гэты Ліст пададзен пад № 20. Ён быў апошнім у яе публікацыі.

## Ліст 30

[1] *Станіслаў Мікалаевіч Пац* (?—1588) — сын падляшскага ваяводы, з мая 1552 г. падстолій, з 16.III 1566 г. ваявода віцебскі.
[2] *Рыцарства* — у Рэчы Паспалітай ваеннае саслоўе, якое мела адметную форму адзення і зброі і камплектавалася з прадстаўнікоў мясцовай шляхты і наёмнага войска з іншаземцаў.
[3] *Маркава* — населены пункт былога Віцебскага ваяводства. Месцазнаходжанне яго высветліць не ўдалося.
[4] Размова ідзе пра выпрацоўку трэцяй рэдакцыі Статута Літоўскага (1588).
[5] *Прывілей* — афіцыйны дакумент, у якім агаворвалася тое або іншае дадатковае права, дараванае каралём пэўнай асобе з якой-небудзь нагоды.
[6] *Канвакацыя* (польск.) — скліканне сейма ў перыяд бескаралеўя з мэтай абрання новага караля.
[7] У гэтым месцы тэкст Ліста абрываецца. Выдаўцы першай публікацыі далі да гэтага месца свой каментарый, у якім адзначалі, што копія Ліста, знятая з арыгінала, аказалася дэфектнай. Па іх сцверджанню, арыгінал Ліста захоўваўся ў бібліятэцы кн. Сапегаў у Дзерачыне. Але яны нічога не сказалі аб тым, ці захавалася гэта бібліятэка да іх часу і чаму яны не выкарысталі сам арыгінал, а задаволіліся толькі копіяй з яго, знятай у свой час якімсьці Жыготам Анацэвічам. Той аддаў яе Іосіфу Крашэўскаму і Рамуальду Падбярэзскаму, а апошнія перадалі гэту копію выдаўцам гэтага зборніка.

## Дадатак

[1] Тэкст прывілейнай граматы друкуецца па «Актам, относящимся к истории Западной России», т. III (СПб, 1848, № 115, стар. 249). Другая публікацыя гэтага Прывілея ў «Описании рукописного отдела Виленской публичной библиотеки», т. III (Вільна, 1898, стар. 87).

[2] *Стэфан Баторый* (22.IX 1533—12.XII 1586) — ваявода сямігродскі (1571—1575). У снежні 1575 г. быў абраны (28 красавіка 1576 г. каранаваны) каралём Рэчы Паспалітай пры ўмове, што ён ажэніцца з прынцэсай Ганнай Ягелонкай (1523—1596), дачкой караля Сігізмунда I Старога. У час свайго панавання даў многія прывілеі шляхце, якая насуперак волі магнатаў узвяла яго на каралеўскі трон. Будучы каралём Рэчы Паспалітай, далучыў да Польшчы Лівонію, імкнуўся да абсалютызму, сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Гродна. У барацьбе з магнацкай апазіцыяй абапіраўся на каталіцкую царкву і езуітаў, якім адкрываў школы сярэдняга звяна, а ў Вільні даў дазвол на заснаванне акадэміі. У 1578 г. па просьбе шляхты заснаваў у Польшчы і Вял. кн. Літоўскім шляхецкія трыбуналы, якія з'яўляліся выбарчым судом і вышэйшай апеляцыйнай інстанцыяй.

[3] Сямігродскае княства знаходзілася на тэрыторыі Трансільваніі (гістарычная тэрыторыя сучаснай Румыніі і Венгрыі). Назву атрымала ў XII ст. ад нямецкіх перасяленцаў, якія называлі яго дзяржавай Zibenbürgen, што ў перакладзе з нямецкай мовы азначае «Сямігроддзе».

[4] Смаленскае ваяводства пачынаючы з 1.VIII 1514 г. і да 1611 г., калі сам горад знаходзіўся пад уладай Расіі, было ў Рэчы Паспалітай ганаровай узнагародай, якая давала права яе намінату толькі займаць крэсла сенатара ў каралеўскай радзе, але без тых матэрыяльных пажыткаў, якімі карысталіся іншыя ваяводы са сваіх пасад. Яно служыла сродкам набілітацыі для служылых людзей, якія не вылучаліся знатнасцю свайго паходжання. Такім набілітантам і быў Кміта-Чарнабыльскі, калі атрымаў прывілей на гэта ваяводства.

[5] Папярэднікамі Кміты-Чарнабыльскага на Смаленскім ваяводстве былі Васіль Тышкевіч (1569—13.VIII 1571), Грыгорый Багдановіч Валовіч (1572—1577) і Юрый Юр'евіч Осцік (15.IV 1578—1579).

## Ліст 1

[1] Ліст друкуецца па выданню АЗР, т. III, № 120, стар. 254—255.

[2] *Даніла Андрэевіч Ногцеў* — рускі князь, апошні прадстаўнік роду Ногцевых-Суздальскіх. З 1578 па 1581 г. прымаў удзел у Лівонскай вайне. У 1584 г. цар Фёдар Іванавіч (сын Івана Грознага) накіраваў яго ў Вялікі Ноўгарад для ўмацавання горада, а ў 1587 г. прызначыў там сваім намеснікам, дзе ён і памёр у час царавання Барыса Гадунова. З якога часу Д. А. Ногцеў-Суздальскі быў прызначаны смаленскім ваяводам, высветліць не ўдалося.

[3] Маецца на ўвазе Мікалай Юр'евіч Радзівіл.

[4] У канцы тэксту ў якасці каментарыя зазначана, што спіс, па якім друкуецца тэкст, напісаны на двух лістках без скрэпы. Захоўваўся ў той час у Архіве Міністэрства замежных спраў.

## Ліст 2

[1] Тэкст Ліста друкуецца па выданню АЗР, т. III, № 122, стар. 259. У заўвагах да яго публікацыі выдаўцамі адзначана, што арыгінал Ліста знаходзіўся ў калекцыі актаў, прыдбаных у Швецыі карэспандэнтам Археаграфічнай камісіі Салаўевым. Па іх сцверджанню, Ліст напісаны на 2-х паўлістах руплівым скорапісам без надрадковых знакаў, г. зн. без скарачэнняў, а ўнізе яго той жа рукой указаны адрасат: «Вашей королевской милости, пана и господаря нашого милостивого, найнижший слуга и верный подданый Филон Семенович Кмита-Чернобыльский, воевода смоленский, староста оршанский». Надпіс, які быў на заклееным пакеце, намі зараз вынесены ў загаловак самога Ліста. У публікацыі ж тэксту Археаграфічнай камісіяй гэтаму Лісту быў нададзены іншы загаловак: «Вестовая отписка королю Стефану оршанского старосты Филона Кмиты-Чернобыльского о проезде за границу московского гонца Шишмарева на возвратном пути из Польши; о сборе руских ратных людей в разных городах; о царских послах, идущих к королю и пр.».

[2] *Януш Баляслававіч Свірскі* (?—1597) — каралеўскі маршалак пасля 1566 г.

[3] *Маршалак* (польск.) — тытул урадцікаў розных рангаў. У тагачасным Вял. кн. Літоўскім налічвалася 6 маршалкоўскіх урадаў:

а) маршалак земскі, або найвышшы (потым стаў называцца вялікім), быў першым міністрам. Пад яго ўладай знаходзіліся суд і ўся краявая адміністрацыя. Пры ўступленні земскага маршалка ў гэты ўрад, яму ўручалася спецыяльнае жазло як сімвал яго улады. У час сейма разам з маршалкам дворным ён распараджаўся адвядзеннем «паноў» і размеркаваннем кватэр для прыехаўшых на сейм. У каралеўскай радзе раздаваў галасы сенатарам і падняццем жазла патрабаваў цішыні або папярэджваў аб выступленні караля. Праз земскага маршалка кароль даваў свае абяцанні адносна ўзнагарод і падараванняў. У час бескаралеўя ад яго залежыла назначэнне з'ездаў для абрання караля;

б) маршалак дворны (потым стаў называцца надворным) з'яўляўся намеснікам маршалка земскага і па даручэнню караля часам аб'яўляў яго распараджэнні. Асноўная яго служба заключалася ва ўзначальванні каралеўскіх прыдворных ураднікаў і дваран. Будучы старшым прыдворным начальнікам, ён аб'яўляў дваранам каралеўскія распараджэнні адносна пераезду двара з аднаго месца на другое, вызначаў месцы пастояў каралеўскага двара. У яго абавязак уваходзіла збіраць падаткі з гандляроў для казны, а таксама і ў сваю карысць;

в) маршалкі дваровыя — гэта маршалкі ніжэйшага рангу, якія ўзначальвалі тую або іншую каралеўскую прыслугу.

Тры наступныя пасады маршалкаў былі ганаровымі, бо іх назвы не былі звязаны з выкананнем вялікай дзяржаўнай службы:

г) маршалак зямлі Валынскай, які з 1566 г. стаў называцца намеснікам валынскім, а пазней старастам луцкім. З далучэннем Валыні на Люблінскім сейме 1569 г. да Кароны, яго тытул для Вял. кн. Літоўскага быў страчаны.

д) маршалак Трыбунала літоўскага. Пасада гэта была выбарчай і з'явілася пасля сейма 1581 г., кандыдат на гэту пасаду абіраўся тэрмінам на 1 год. Аднак з прычыны Лівонскай вайны, а потым

смерці караля Стэфана Баторыя і абрання каралём Сігізмунда III Вазы першае пасяджэнне Трыбунала Вял. кн. Літоўскага адбылося толькі ў 1582 г.;

е) маршалкі павятовыя вялі мясцовыя суды і кіравалі шляхтай. Пасада гэта ўзнікла ў 1569 г. у сувязі з утварэннем земстваў і таксама была выбарчай.

Апрача пералічаных урадавых маршалкаў, існаваў яшчэ маршалак каралеўскага двара, ці, як яго звычайна называлі, маршалак ягамосці караля, або проста маршалак. Ён быў прыватным міністрам пануючага караля і вышэйшай асобай над усёй службай каралеўскага двара. Пасля таго як вял. кн. Аляксандр Казіміравіч увёў пасаду маршалка дворнага (1494), маршалак ягамосці караля стаў ганаровым тытулам. Ён нават быў пазбаўлены права засядаць у вялікакняжаскай радзе і ў іерархічнай лесвіцы ўрадаў займаў адну з нізкіх ступеняў перад каралеўскімі старастамі і дзяржаўцамі сталовых маёнткаў, якія належалі каралю. Колькасць гэтых маршалкаў была вялікай, але не заўсёды пастаяннай.

[4] *Грыгорый Масальскі* — суддзя каралеўскага асэсарскага суда.

[5] *Тарапец* — старажытны рускі горад, вядомы з 1074 г. У XII ст. быў ужо буйным эканамічным цэнтрам Смаленскага княства, а ў XIII ст. становіцца сталіцай самастойнага княства і неаднаразова падвяргаецца нападу з боку літоўскіх князёў.

## Ліст 3

[1] Тэкст Ліста падаецца па выданню «Archiwum domu Sapiehów», t. I (Listy z lat 1575—1606). Opracował dr. Prochaska. Lwów, 1892.

Тэкст Ліста там пададзены пад № 2 за 1580 г., але нічога не сказана аб тым, на якой мове быў напісаны яго арыгінал.

[2] *Ротмістр* — кавалерыйскі афіцэрскі чын, які адпавядаў у пяхоце капітану.

[3] *Рэестр.* — У перыяд вызваленчай барацьбы ўкраінскага народа супраць феадальнай Польшчы (XIV—XVII стст.) польскім каралеўскім урадам быў устаноўлены абмежаваны імянны спіс украінскіх казакаў, якім дазвалялася несці ваенную службу ў адпаведнасці з воляй караля. Гэты імянны спіс і называўся рэестрам, а ўнесеныя ў яго казакі — рэестравымі казакамі.

[4] Канцлерам Вял. кн. Літоўскага ў гэты час быў М. Ю. Радзівіл.

[5] *Завалач* — пад гэтай назвай гістарычныя даведнікі называюць 2 пункты: старажытны горад Ржэўскага княства і пасёлак над возерам Падса. У дадзеным выпадку размова, відаць, ідзе пра пасёлак.

[6] *Ржэў* — старажытны рускі горад на правым беразе Волгі. Упершыню ўпамінаецца пад 1216 г. як удзельны горад Смаленскай зямлі. У Лівонскую вайну падвяргаўся асадзе каралеўскіх войск Стэфана Баторыя.

[7] *Вялікія Лукі* — старажытны рускі горад на р. Ловаці. Першыя звесткі аб ім адносяцца да 1166 г. У старажытнасці ён належаў Ноўгараду. У 1478 г. цар Іван III далучыў яго да Маскоўскага княства. У 1580 г. Вялікія Лукі былі захоплены Стэфанам Баторыем і да 1582 г. знаходзіліся пад уладай Рэчы Паспалітай.

# Баркулабаўская хроніка

Ананімны тэкст гэтага выдатнага помніка беларускай сярэдневяковай пісьменнасці, які захаваўся ў адным экземпляры ў рукапісным зборніку XVII ст. былой Патрыяршай бібліятэкі і зараз знаходзіцца ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве (гл. Сінадальны фонд № 790), налічвае некалькі публікацый. Самая ранняя з іх была зроблена П. А. Кулішам у першым томе «Материалов для истории воссоединения Руси» (М., 1877), дзе яна змешчана пад назвай «Баркулабаўская хроніка» (1563—1608). Зазначым, што ў самім рукапісным арыгінале, з якога П. А. Куліш рабіў сваю публікацыю, такой агульнай назвы да ўсяго тэксту помніка няма, ёсць толькі загалоўкі да асобных унутраных частак, дзе яны разам з вялікімі літарамі выпісаны кінавар'ю.

П. А. Куліш не толькі апублікаваў тэкст помніка і даў яму свой загаловак, але і суправадзіў гэтую публікацыю ўступным артыкулам. У ім ён даў кароткае археаграфічнае апісанне патрыяршага зборніка, дзе на лл. 137—174 змяшчаецца тэкст «Баркулабаўскай хронікі», зрабіў спробу высветліць асобу аўтара запісаў і вызначыць, што з іх належыць яму і што было выкарыстана ім з іншых крыніц. Закранаючы прынцыпова важныя пытанні аўтарства і складу летапіснай хронікі, П. А. Куліш выказаў меркаванне, што ў дадзеным выпадку мы маем справу не з арыгіналам, а з яго копіяй, дапоўненай пазнейшымі мемуарамі другой асобы, відаць, пасля смерці аўтара папярэдніх запісаў. Сведчаннем таго, на яго думку, з'яўляюцца тыя пропускі ў некалькі рукапісных радкоў, што пакінуты ў тэксце помніка з разлікам на дапаўненне, якое так і засталося нязедзейсненым, а разам з гэтым і відавочная рознасць стылявога афармлення пададзенага ў тэксце інфармацыйнага матэрыялу. У якасці верагоднай кандыдатуры на аўтарства публікуемага ім тэксту хронікі П. А. Куліш выстаўляў асобу Фёдара Філіповіча, які ў 1586 г. атрымаў царкоўны прыход у в. Вендараж.

Аднак пры ўсім тым станоўчым, што было зроблена П. А. Кулішам у справе папулярызацыі тэксту «Баркулабаўскай хронікі» і ўвядзення яе ў шырокі навуковы ўжытак, трэба сказаць, што яго публікацыі бракуе дакладнасці і паўнаты зместу самога рукапісу. У прыватнасці, П. А. Куліш апусціў пачатак тэксту, дзе ідзе гутарка пра вальны сейм 1544 г. (у рукапісу ён падаецца пад 1545 г.), і запіс аб прыбыцці караля Уладзіслава IV пад Смаленск у 1633 г., якім канчаецца рукапіс, а ў сярэдзіне тэксту Універсал рокашавы ад 25 верасня 1606 г. і Асекурацыю 1606 г.

Другую, больш поўную публікацыю тэксту ажыццявіў М. В. Доўнар-Запольскі ў «Киевских университетских известиях» (№ 12, 1898), а крыху пазней (Киев, 1908) ён апублікаваў хроніку асобным выданнем, у якім пасля тэксту помніка даў палеаграфічнае апісанне зборніка і выказаў свае меркаванні адносна вывучэння гэтага помніка, які ў яго атрымаў назву «Баркулабовская летопись». У гэтым даследаванні М. В. Доўнар-Запольскі ў пытанні аб аўтарстве тэксту ідзе ўслед за П. А. Кулішам, але разам з тым робіць і шэраг сваіх назіранняў. Ён падкрэслівае мясцовы характар летапісу, звяртае ўвагу на сімпатыі аўтара да простага люду і варожасць яго да каталіцызму і уніі, на жывасць і народнасць мовы помніка, на звесткі, якія датычыліся цаны сельскагаспадарчых

прадуктаў, і некаторыя іншыя звесткі самога помніка. Але і яго публікацыя тэксту не абышлася без купюр. У ёй не знайшлося месца для копіі граматы пратасінкела Нікіфара за 1596 г., Універсала рокашавага за 1606 г. і Асекурацыі, а таксама для запісу аб прыбыцці Уладзіслава IV пад Смаленск. Затое ў якасці дадатку М. В. Доўнар-Запольскі змясціў апісанне Брэсцкага царкоўнага сабора 1590 г., пададзенага ў рукапісу на лл. 14 адв.— 16 адв., якое па сутнасці з'яўляецца арганічнай часткай публікуемага тэксту помніка, але ў рукапісу яно не знайшло адпаведнага месца. Дакладна перадаючы тэкст публікуемай крыніцы, М. В. Доўнар-Запольскі хоць і не ўсе, але вынес у асобныя радкі ўнутраныя загалоўкі самога рукапісу.

З публікацыі М. В. Доўнар-Запольскага ў 1899 г. тэкст быў перадрукаваны беларускім этнографам, археолагам і гісторыкам Е. Р. Раманавым спачатку ў «Могилевских губернских ведомостях» з указанием розначытанняў на выданню П. А. Куліша, потым у першым выпуску «Могилевской старины» (1900), а ў 1910 г. асобным выпускам з невялічкім уступным артыкулам, падрадковым каментарыем і паказчыкам імён у выданні Віленскага статыстычнага камітэта пад назваю «Варколабовская летопись» (58 старонак), потым у зборніку «Первоисточники для истории Могилевского края», вып. 1 (Одесса, 1916). Купюры тэксту, зробленыя М. В. Доўнар-Запольскім, аўтаматычна перайшлі і ў гэта выданне.

У савецкі час тэкст помніка поўнасцю не выдаваўся да 1962 г., ва ўрыўках былі змешчаны публікацыі ў зборніках «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах», т. I (Мінск, 1936), «Белоруссия в эпоху феодализма», т. I (Мінск, 1959), у «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (Мінск, 1959), у «Хрестоматії з історії Української РСР», т. I (Київ, 1959) і ў «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы», т. I (Мінск, 1961). Усе гэтыя публікацыі, як правіла, рабіліся па дарэвалюцыйных выданнях, і ў прыватнасці па выданню М. В. Доўнар-Запольскага.

У 1962 г. поўны тэкст помніка пад загалоўкам «Баркулабовская летопись» з уступным артыкулам, у якім даецца агляд гісторыі вывучэння і публікацыі гэтага унікальнага твора, апублікаваў А. Н. Мальцаў (гл. «Археографический ежегодник за 1960 г.», выданне АН СССР). Яго публікацыя характарызуецца выключнай дакладнасцю ў перадачы тэксту крыніцы. І тым не менш для шырокага кола чытачоў яна бадай-што невядома, паколькі надрукавана ў выданні, пра якое, апрача гісторыкаў, мала хто ведае. Разам з тым яго публікацыя пазбаўлена тэксталагічнага каментарыя, а без яго сам чысты тэкст, нягледзячы на адаптацыю, зробленую па агульнапрынятых правілах для сучаснай публікацыі старажытных тэкстаў, для непадрыхтаванага чытача ў многіх момантах застанецца незразумелым і малацікавым.

У самы апошні момант з'явілася яшчэ адна публікацыя, зробленая М. М. Улашчыкам у «Полном собрании русских летописей», т. 32 (М., 1975, стар. 174—192). Увогуле добрасумленна падрыхтаваная публікацыя М. М. Улашчыка не абышлася і без памылак. Так, у прыватнасці, на стар. 174 назвы вёсак Сухочы, Бутакі і Андросавічы тут выступаюць як уласныя імёны вотчычаў, што засялялі Магілёў. На стар. 177 кашталян люблінскі, пададзены ў рукапісу ў распаўсюджанай для тых часоў форме «пан любелский», высту-

пае пад прозвішчамі Любенскі і Любелскі, што не адпавядае рэчаіснасці, бо пад словам «пан» у спалучэнні з назвай месца, дзе знаходзілася кашталянія, як правіла, меўся на ўвазе тытул кашталяна. А таму замест выразаў «каштелян любелский», «каштелян троцкий», «каштелян виленский» і г. д. пісалі «пан любелский», «пан троцкий», «пан виленский», і для тагачаснага чытача было зразумела, пра каго ідзе гутарка. На стар. 185 у сказе «... и попартя прав волностей нашн наших» надрукавана «... и попарти прав». На стар. 186 у 21-м радку знізу слова «панств» у выніку няправільнага прачытання ператварылася ў «панов», і тады ў сказе атрымалася: «...под Вислицею братии нашое панов тых...», а ў 6-м радку знізу ў сказе «Деялосе ў Янове...» пасля слова «Янове» закралася непатрэбная лічба 2, якая адсутнічае ў рукапісу. На стар. 188 у 14-м радку зверху замест слова «который» трэба «которых». На стар. 190 у 6-м радку знізу няправільна паказан канец л. 170 рукапісу, бо тэкст гэтага ліста там канчаецца словамі «напереде услышыте». На стар. 192 у сказе «Король Владислав ишол под Смоленск (гл. 6-ы радок знізу) замест няправільна прачытанага года 1535 павінна быць 1633. Меншыя памылкі не зазначаем.

У прадмове да ўсяго тома «Полного собрания русских летописей» на стар. 9—12 М. М. Улашчык даў грунтоўнае апісанне ўсяго рукапісу, у якім змяшчаецца тэкст «Баркулабаўскай хронікі», і пракаменціраваў усе папярэднія выданні яе тэксту, тым самым аблегчыў нашу працу. А таму, каб не паўтарацца, мы апускаем археаграфічную даведку пра сам рукапіс, з якога робіцца наша публікацыя.

Рыхтуючы да друку сваю публікацыю «Баркулабаўскай хронікі» па фотакопіі рукапіснага экземпляра Дзяржаўнага гістарычнага музея (Сінод., № 790), мы таксама прыбеглі да адаптацыі яе тэксту, традыцыйныя для таго часу цітлы намі раскрыты, ъ у канцы слоў апушчан, даты, пададзеныя літарамі, пададзены намі арабскімі лічбамі. У адпаведнасці з сучасным алфавітам праведзена уніфікацыя графікі і не ўжываемыя зараз наступныя літары царкоўнаславянскага алфавіта: ω (амега), ѧ (юс малы), ꙗ (а ятаванае), θ (фіта), ξ (ксі), форма перадачы гука *у* праз *оу* — заменены іх эквівалентамі — адпаведна *о, я, ф, кс, у.* Рэдка сустракаемую ў тэксце літару *і* перадаем праз *и.* Захавалі толькі літару Ѣ (яць) як спецыфічны гук для тагачаснай пісьменнасці і напісанне *кг* як форму перадачы ўзрыўнога гука *г.* Разбіўка тэксту на абзацы і сказы прароблена намі. Знакі прыпынку і напісанне ўласных імён і назваў пададзены паводле правіл сучаснага правапісу. У круглых дужках зазначаюцца пагінацыя рукапісных старонак, прапушчаныя па сэнсу словы, тлумачэнні і аўтарскія скарачэнні некаторых слоў, а ў некаторых выпадках і яўныя пропускі асобных літар. Тэкст хронікі падаецца ў яе поўным варыянце, уключаючы і запіс за 1633 г., а ў дадатку і паведамленне пра Брэсцкі царкоўны сабор 1590 г., як гэта зрабіў у свой час М. В. Доўнар-Запольскі. Наша публікацыя ў адрозненне ад усіх папярэдніх публікацый тэксту «Баркулабаўскай хронікі» суправаджаецца пашыраным каментарыем і слоўнікам.

[1] *Сейм* — назва парламента ў Польшчы і Вял. кн. Літоўскім у XIV—XVII стст. *Сейм вялікі* — г. зн. агульнадзяржаўны або, як тады было прынята называць, *вальны сейм,* пра які тут вядзецца размова, адбыўся не ў 1545, а ў 1544 г.

[2] *Берасце* (зараз Брэст) — горад на рр. Зах. Буг і Мухавец. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім адносіцца да 1019 г. У сярэдзіне XIV ст. увайшоў у склад Вял. кн. Літоўскага, а з канца XVII ст. атрымаў назву Брэста-Літоўскага ў адрозненне ад Брэста-Куяўскага (у Мазовіі). У Брэсце ў свой час досыць часта праходзілі дзяржаўныя сеймы і лакальныя сеймікі беларускіх і літоўскіх феадалаў, адбываліся вайсковыя канфедэрацыі. У 1596 г. тут адбылася славутая царкоўная унія, якая дала моцны штуршок нацыянальна-вызваленчаму руху беларускага і ўкраінскага народаў.

[3] *Сігізмунд I Стары* (1.I 1467—1.IV 1548) — унук польскага караля Ягайлы, спачатку быў вялікім князем Вял. кн. Літоўскага, а з 1506 г. адначасова стаў і каралём польскім. Старым яго празвалі за тое, што яшчэ пры жыцці ён дамогся каранавання ў пераемнікі свайго 10-гадовага сына Сігізмунда II Аўгуста. У часы кіравання Сігізмунда I Старога беларуская, літоўская і ўкраінская шляхта дамагалася роўных для сябе палітычных правоў з магнатамі і дабілася ўвядзення ў дзяржаве юрыдычнага кодэкса законаў — Статута Вялікага княства Літоўскага (1529). Сігізмунд I вёў частыя войны з Рускай дзяржавай. У 1526 г. далучыў да Польшчы Мазовію, але аддаў Чэхію Габсбургам і пагадзіўся на пераўтварэнне Тэўтонскага ордэна ў залежнае ад Польшчы герцагства.

[4] *Бона Сфорца* (2.II 1494—19.XI 1557) — італьянка, з 1518 г. жонка Сігізмунда I, маці будучага караля Сігізмунда II Аўгуста. Яна іграла значную ролю ў эканамічным, палітычным і культурным жыцці дзяржавы; падала ідэю аграрнай рэформы, вядомай пад назвай «Устава на валокі», якую ажыццявіў Сігізмунд II Аўгуст у 1577 г. Памёрла на радзіме, куды выехала ў 1556 г.

[5] Размова ідзе пра дачок Сігізмунда I і Боны Сфорца Ганну (1523—1596) і Кацярыну (1526—1587). Першая з іх была жонкай Стэфана Баторыя, польскага караля з 1576 да 1586 г., другая выйшла замуж за шведскага караля Іаана III Вазу (іх сын потым стаў польскім каралём Сігізмундам III).

[6] *Альжбета* (Елізавета) — дачка аўстрыйскага імператара Фердынанда I Габсбурга. Жонкаю Сігізмунда II Аўгуста стала ў 1543 г., а праз год, паводле прыдворных чутак, была атручана сваёй свякрухай Бонай Сфорцай.

[7] *Фердынанд* I (Іспанія, 1503—1564) — родапачынальнік аўстрыйскай дынастыі Габсбургаў. З 1527 г. кароль Чэхіі і Венгрыі, а з 1558 г. стаў імператарам Свяшчэннай імперыі.

[8] *«...панов рад»* — г. зн. сенатараў, якія складалі каралеўскі савет (раду) і разам з каралём вырашалі дзяржаўныя справы.

[9] *Харугоўная шляхта* — заможная шляхта, якая несла вайсковую службу ў дзяржаве за свой кошт пад уласнымі сцягамі (харугвамі) і таму карысталася асаблівай павагай караля.

[10] *«...господарей... бесурменских»*—г. зн. уладароў нехрысціянскіх народаў і дзяржаў. Звычайна гэта асобы магаметанскага веравызнання, у прыватнасці туркі і татары.

[11] Дзень апосталаў Пятра і Паўла — рэлігійнае хрысціянскае свята, якое адзначаецца царквою 29 чэрвеня па ст. ст. (12 ліпеня па новаму).

[12] Дзень св. Міхаіла-архангела адзначаецца хрысціянскай царквою 8 (21) лістапада.

[13] *Панства Рускае* — г. зн. тэрыторыя этнаграфічна беларускіх, украінскіх і рускіх зямель Вял. кн. Літоўскага.

[14] *Панства Жэмайцкае* — г. зн. тэрыторыя гістарычнай Жмудзі (Жэмайція), якая ўключала заходнюю частку этнаграфічна літоўскага насельніцтва — жмудзінаў. Па Мельнскаму дагавору 1422 г. Жэмайція ўвайшла ў склад Вял. кн. Літоўскага пасля славутай Грунвальдскай бітвы 1410 г.

[15] У рукапісу гэта месца чытаецца так: «...его милости Жикгимонт Старый король».

[16] *Сямён (Фрыдрых) Глебавіч Пронскі* (? — 1555) — князь, які быў абвешчаны ваяводам кіеўскім у 1544 г.

[17] Кіеўскае ваяводства ўзнікла ў 1471 г. пасля смерці кн. Сямёна Алелькавіча.

[18] *Магілёў* — беларускі горад на Дняпры. Упершыню ўпамінаецца ў летапісу пад 1267 г. У XIV ст. падпаў пад уладу Вял. кн. Літоўскага. Горадам пачаў называцца толькі з 1526 г.

[19] Маецца на ўвазе Сігізмунд II Аўгуст.

[20] *Мітрапаліт* — вышэйшы духоўны саноўнік у тагачаснай праваслаўнай царкве Вял. кн. Літоўскага.

[21] *Іона IV Пратасевіч* (? — 1576) — спачатку епіскап тураўскі, а з 1568 г. мітрапаліт кіеўскі.

[22] *Уладыка* — свецкая назва епіскапа, кіраўніка пэўнай царкоўнай епархіі.

[23] *Герман Храптовіч* — епіскап полацкі да 1558 г.

[24] *Стараста* — выбарчая або прызначаная каралём асоба, якая выконвала адміністрацыйна-паліцэйскія абавязкі ў дадзенай мясцовасці.

[25] *Баркулаб Іванавіч Корсак* (? — 1576) — выхадзец з полацкага шляхецкага роду, быў жанаты на дачцы кн. Васіля Іванавіча Крошынскага Паланеі (1551 г.). У 1562 г. ездзіў з пасольскай місіяй да цара Івана Грознага. У 1564 г. стаў дзяржаўцам свіслацкім і ротмістрам караля, а 25.III 1566 г. — старастам дзісенскім.

[26] *Леткава* (потым Ледзькава) — зараз частка гарадской тэрыторыі ў Магілёве ад вул. К. Маркса да Камсамольскага сквера.

[27] *Пячэрск* — у той час населены пункт у 2-х км на паўднёвы захад ад Магілёва, зараз ускраіна горада пры выездзе на Мінск.

[28] *Вотчычы* — сяляне, якія валодалі зямлёю на правах прыватнай уласнасці.

[29–31] Звестак пра колішнія населеныя пункты Сухочы, Бутакі і Андросавічы не захавалася.

[32] *Княжычы* — старажытны населены пункт у 20 км на паўднёвы захад ад Магілёва, даўняя спадчына кн. Макавецкіх.

[33] *Галаўчын* — старажытны населены пункт у сучасным Бялыніцкім р-не на правым беразе р. Вабіч. У летапісах упершыню ўпамінаецца як горад Голотичъск, заснаваны з выпадку перамогі на гэтым месцы кн. Яраполка Ізяслававіча над полацкім кн. Усяславам Чарадзеем, аб якім апавядаецца ў «Слове аб палку Ігаравым». У даўнія часы Галаўчын з'яўляўся ўласнасцю кн. Рапалоўскіх, Галаўчынскіх, а потым Служкаў.

[34] *Дубройна* (Дубровенка) — правы прыток Дняпра ў Магілёве.

[35] *Радзівонкавічы* — устанавіць зараз месцазнаходжанне гэтага населенага пункта немагчыма.

[36] *Буйнічы* — старажытнае сяло на правым беразе Днапра каля Магілёва. У свой час славілася жаночым манастыром, заснаваным тут у канцы XVI ст. па завяшчанию кн. Багдана Саламярэцкага.

[37] *«...А которые сели на слободе, на Гривце, на берегу оного Коцоваго, коло Десятинныя (церкви)»* — вызначыць зараз гэту мясцовасць немагчыма.

[38] Высветліць кожнага з пералічаных тут князёў і паноў і час іх панавання ў Буйнічах нам не ўдалося.

[39] *Полацк* — старажытны беларускі горад на Зах. Дзвіне. Як калонія Ноўгарада вядомы па скандынаўскіх сагах. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім адносіцца да 862 г. У 980 г. тут быў ужо свой самастойны князь Рагвалод. У другой палавіне XIII ст. княства трапіла пад уладу літоўскіх князёў. У канцы XIV ст. Вітаўт ліквідаваў у Полацку княжаскі трон і ператварыў княства ў ваяводства. У час Лівонскай вайны Іван Грозны авалодаў горадам (1563) і пачаў называць сябе яшчэ і вялікім князем полацкім. 30 жніўня 1579 г. Стэфан Баторый зноў захапіў горад і ў 1580 г. заснаваў у ім езуіцкую калегію.

[40] Размова ідзе пра так званую масленіцу, якая папярэднічае сямітыднёваму вясенняму посту перад вялікаднем.

[41] Захоп Полацка Іванам Грозным адбыўся 15 лютага 1563 г.

[42] Размова ідзе пра Сігізмунда II Аўгуста.

[43] *Баркулабава* — старажытнае пасяленне. Назву атрымала ад імя дзісенскага старасты Баркулаба Корсака, які ў 1564 г. заклаў тут свой замак.

[44] *Анісіфор Пятровіч* паходзіў з шляхецкага роду з Гродзеншчыны. Каб стаць мітрапалітам, ён у 1578 г. пакінуў жонку, а потым, займаючы гэту высокую пасаду духоўніка, зноў сышоўся з ёю, за што быў празваны «Дзевачка». За паўторную жаніцьбу канстанцінопальскі патрыярх Іеремія Транас 22 студзеня 1589 г. адхіліў яго ад духоўнага сана мітрапаліта.

[45] *Варсанофій Волах* — епіскап полацкі з 1563 па 1576 г.

[46] Маецца на ўвазе кароль Сігізмунд II Аўгуст.

[47] Св. Духам у хрысціянскай царкве звычайна называецца другі дзень пяцідзесятніцы, ці інакш — троіцы.

[48] *Прастол* — столік у царкоўным алтары насупраць так званых царскіх варот. Тут слова «прастол» ужыта як тэрмін для абазначэння царквы з агульнапрынятым для парафіяльных прыхаджан яе уласным святам.

[49] *Ражство* — вялікае царкоўна-рэлігійнае свята, якое адзначаецца праваслаўнымі 25 снежня па ст. ст.

[50] У 1568 г. Іона IV Пратасевіч яшчэ не быў мітрапалітам. Мітрапалічую кафедру ў той час займаў былы віленскі скарбнік Сігізмунда II Аўгуста Стэфан Бяльткевіч (1556—1576), вядомы ў манаштве пад імем Сільвестра. Іона Пратасевіч стаў яго пераемнікам толькі ў 1576 г.

[51] *Вендараж* — вёска на р. Сенна (30 км на паўднёвы захад ад Магілёва). Цэнтр сельсавета і саўгаса.

[52] *Куты* — вёска ў Магілёўскім р-не непадалёку ад в. Вендараж.

[53] *Ловечы* — месцазнаходжанне і існаванне гэтага населенага пункта ўстанавіць не ўдалося.

[54] *Будзішча* — у XIX ст. пад такой назвай была вядома вёска ў Ігуменскім павеце. Але зараз цяжка сказаць, ці гэты населены пункт маецца на ўвазе.

[55] Вялікім постам хрысціянская царква называе 7-тыднёвы вясенні пост перад вялікаднем.

[56] *Багдан Іванавіч Саламярэцкі* (?—7.IX 1602) — князь, у пачатку 1580 г. атрымаў прывілей на «дзяржаву» Крычаўскую, быў жанаты на ўдаве Я. Чартарыйскага Еве Баркулабаўне. У чэрвені 1591 г. стаў старастам Крычаўскага і Алучыцкага (непадалёку ад Крычава) старостваў. У 1600 г. атрымаў прывілей на маёнткі, запісаныя за яго жонкай Евай: Баркулабава, Буйнічы і Шупенькі. Быў заўзятым праціўнікам Брэсцкай царкоўнай уніі. Пасля сябе пакінуў сына Багдана і чатырох дачок: Крыстына была замужам за кн. П. Жыжэмскім, старастам рэчыцкім; Рэгіна — за Ю. Мялешкам, харунжым слонімскім; Алена (? — 1640), пахаваная ў аршанскім Куцеінскім манастыры,— спачатку за К. Швыйкоўскім (? — 1619), падкаморыем віцебскім, потым за Багданам Стэткевічам, падкаморыем мсціслаўскім, і Марына, якая была замужам за Марцыянам Гурскім, харунжым віленскім.

[57] *Парафія* — царкоўны прыход, які ўключаў некалькі населеных пунктаў.

[58] Тут у запісу дапушчана памылка, бо епіскап полацкі Варсанофій Волах памёр не ў 1570, а ў 1576 г.

[59] *Епіскап Феафан* (Феафан Рпінскі) — шляхціц з Ашмянскага павета. Спачатку быў пратапопам маркаўскім, а з 1576 па 1588 г. займаў епіскапскую кафедру ў Полацку.

[60] Тут размова ідзе пра новы каляндар, уведзены рымскім папам Грыгорыем XIII (1502—1585), які спецыяльнай булою «inter grawissimus» ад 24 лютага 1582 г. паўсямесна ў каталіцкім свеце прывёў астранамічны год у адпаведнасць з царкоўным календаром. У XVIII ст. новы (грыгарыянскі) каляндар прынялі і пратэстанты. Толькі праваслаўная царква засталася глухой да гэтай рэформы, якую яна ў канцы XVI і першай палавіне XVII ст. зрабіла прадметам царкоўнай палемікі.

[61] *Войт* — лаўні начальнік у гарадах, якія карысталіся магдэбургскім правам. Ён старшынстваваў у гарадскіх судах і вызваляўся ад мабілізацыі пад харугву ў час паспалітага рушэння.

[62] *Дзісна* — зараз горад пры ўпадзенні р. Дзісны ў Зах. Дзвіну. У XV ст. Дзісна была нязначным паселішчам, прыпісаным у 1500 г. да Полацкага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. У 1563 г. Сігізмунд II Аўгуст даў Дзісне права мястэчка, а ў 1565 г. умацаваў яго. У час руска-польскай вайны за Лівонію яна была важным ваенным пастом Стэфана Баторыя. У тэксце «Баркулабаўскай хронікі» гутарка ідзе не пра заснаванне горада, а толькі пра пабудову тут Корсакам свайго ўрадавага замка.

[63] *Варонічы* — зараз цэнтр сельсавета ў Полацкім р-не на р. Ушачы. У 1563 г. упамінаюцца ў ліку полацкіх прыгарадаў, адваяваных Іванам Грозным у Вял. кн. Літоўскага. У 1579 г. Варонічы былі заняты войскам С. Баторыя, але пры заключэнні мірнага дагавору вернуты Расіі.

[64] *Лепель* — зараз горад на беразе аднайменнага возера. Пад назваю Стары Лепель як сяло ў пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1439 г. У час руска-літоўскай вайны (1563) сяло згарэла. На яго

месцы па загаду Грознага было пабудавана ваеннае ўмацаванне з моцным гарнізонам войск, якое хутка апынулася пад уладай Вял. кн. Літоўскага. У 1568 г. для абароны ад Грознага тут быў пабудаваны замак, пра які і ідзе размова.

65 *Чашнікі* — зараз раённы цэнтр у Віцебскай вобл. непадалёку ад Лепеля. У XVI ст. Чашнікі ўжо былі ўмацаваным мястэчкам. У 1563 г. непадалёку ад Чашнікаў на так званым Іванавым полі ў бітве з войскамі кн. Радзівіла пацярпеў паражэнне і загінуў у баю рускі ваявода Пётр Шуйскі.

66 Іван Грозны захапіў Полацк 15.II 1563 г. Назад Рэччу Паспалітай горад быў адваяваны толькі ў жніўні 1579 г.

67 Гэта месца «Хронікі» патрабуе выпраўлення памылкі, дапушчанай перапісчыкам тэксту з папярэдняй крыніцы. Перш за ўсё тут паміж імем Раман і прозвішчам Хадкевіч перапісчык, мабыць сам таго не заўважыўшы, прапусціў некалькі слоў, а можа і цэлы радок, у выніку чаго атрымалася блытаніна, бо ў гэты час, пра які тут ідзе размова, у тых месцах ніякага Рамана Хадкевіча не было, і наогул ці існавала пад такім імем рэальная асоба. Па-другое, суаднясенне гэтага абзаца з часам панавання Стэфана Баторыя не адпавядае сапраўднасці, бо гутарка ідзе пра значна ранейшы час, а дакладней — пра 1567 г. Іменна тады па загаду караля Сігізмунда II Аўгуста ўмацаваннем пагранічных замкаў займаліся кн. Раман Сангушка і кн. Грыгорый Аляксандравіч Хадкевіч. Першы з іх быў пераемнікам другога на пасадзе палявога гетмана літоўскага (з 1566 г.), бо Г. А. Хадкевіч атрымаў урад кашталяна трокскага, але абодва яны з'яўляліся ўдзельнікамі бітвы з войскамі Івана Грознага пад Лепелем над р. Улаю.

68 *«...месяца генвара 2, на Стретение».* — Аўтар запісаў дапускае тут памылку. Гэтае царкоўнае хрысціянскае свята мае пастаянную дату і адзначаецца ў праваслаўных 2 лютага па ст.ст.

69 *Януш Чартарыйскі* (? — 14.X 1581) — сын кн. Івана Чартарыйскага і Ганны Кузьмінічны Заслаўскай. пасол на элекцыі 1573 г., уладар Белеўскіх маёнткаў на Валыні і Карэлічаў на Навагрудчыне, зяць Баркулаба Корсака. У 1581 г. з атрадам у 50 коннікаў прымаў удзел у ваенным паходзе Стэфана Баторыя пад Пскоў, дзе пад час аблогі горада зваліўся з каня і пракалоўся на ўласнай шаблі. Пасля яго смерці Карэлічы перайшлі ў спадчыну да яго ўдавы Евы Баркулабаўны Корсак і іх дачкі Аляксандры.

70 *«...на святой недели»* — г. зн. на тыдні пасля вялікадня.

71 *Прытвор* — пярэдняя частка царквы, якая пачынаецца ад цвінтара.

72 Слова «літва» тут ужыта як зборная назва жыхароў і воінаў тэрыторыі Вял. кн. Літоўскага.

73 *Пскоў* — старажытны рускі горад. Упершыню ўпамінаецца ў летапісу пад 914 г. Часта быў месцам бітваў з немцамі і літоўцамі. У 1401 г. прызнаў уладу маскоўскага князя, але з захаваннем сваёй самастойнасці, канец якой наступіў у 1509 г. З гэтага часу ў палітычнай гісторыі Расіі Пскоў іграў ролю толькі стратэгічнага пункта ў яе барацьбе з Вял. кн. Літоўскім за Лівонію. У час Лівонскай вайны Пскоў, які абараняў ваявода І. П. Шуйскі, вытрымаў 210-дзённую асаду Стэфана Баторыя і ў 1581 г. спыніў яго трыумфальны рух на Поўнач.

[74] Аўтар запісаў памыляецца, бо Пскоў не быў заваяваны Стэфанам Баторыем, а толькі падвяргаўся яго асадзе, якая працягвалася 7 месяцаў і закончылася без ваеннага поспеху ў 1582 г.

[75] Маецца на ўвазе рускі ваявода *Васіль Сямёнавіч Абаленскі-Сярэбраны,* брат якога Пётр Абаленскі-Сярэбраны быў пакараны Іванам Грозным у 1571 г.

[76] *Копысь* — старажытны населены пункт на левым беразе Дняпра, зараз цэнтр сельсавета Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Першыя звесткі аб ім як горадзе Полацкага, а потым Смаленскага княстваў адносяцца да 1059 г. У другой палавіне XIV ст. трапіў пад уладу Вял. кн. Літоўскага. У пачатку XVI ст. належаў кн. Астрожскім, а з 1594 г. у якасці пасагу кн. Екацярыны Астрожскай Копысь дастаўся нясвіжскаму кн. Крыштофу Радзівілу Пяруну, які быў ваяводам віленскім і адначасова гетманам і канцлерам Вял. кн. Літоўскага да сваёй смерці ў 1603 г. Той пабудаваў тут умацаваны замак і кальвініскі сабор.

[77] *Радамля* — вёска непадалёку ад Чавусаў. Паводле падання, была цэнтрам племя Радзімічаў, адкуль і пайшла назва паселішча. У 20-х гадах XVI ст. Радамля стала цэнтрам сельскага староства, якое ў розныя гады займалі Юрый Зяновіч (4.XI 1529—1534), кн. Васілій Андрэевіч Палубінскі (1535—1550), яго сын Іван (1551), Міхаіл Пац (1584—1595) і інш. Колісь у Радамлі знаходзіўся каталіцкі касцёл кармелітаў Хадкевічавай фундацыі.

[78] *Мсціслаў* — старажытны беларускі горад на правым беразе р. Вяхры (правы прыток Сожа). Упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1156 г., а з 1180 г. ужо быў цэнтрам самастойнага княства кн. Мсціслава Раманавіча з роду Уладзіміра Манамаха. У 1358 г. горад трапіў пад уладу Вял. кн. Літоўскага. З 1528 г. стаў спадчынай Сігізмунда II Аўгуста і пачаў кіравацца каралеўскімі старастамі. У 1569 г. тут было ўтворана ваяводства.

[79] *Цямрук* — хтосьці з кабардзінскіх князёў, але дакладна высветліць яго асобу пры адсутнасці імя і іншых даных не ўяўляецца магчымым.

[80] *Навасёлкі* — дакладна ўстанавіць месцазнаходжанне гэтага населенага пункта немагчыма, бо пад такой назвай існуе шмат вёсак у прылягаючых да Магілёва раёнах.

[81] Пасля гэтага імя ў рукапісу маецца пропуск на адно слова.

[82] *Шупені* — зараз вёска Круглянскага р-на на поўдзень ад гарадскога пасёлка Круглае.

[83] *Задубровенне* — тэрыторыя па левы бок за р. Дубровенкай у ваколіцах Магілёва.

[84] *Язавішча* — лазовая запруда на рачным перакаце для лоўлі рыбы або спецыяльна засыпаная плаціна з пратокамі для вады.

[85] *Рослаў* — старажытны рускі горад на р. Асцёр (левы прыток Сожа). Заснаванне яго прыпісваецца Уладзіміру Манамаху. Першыя дакладныя звесткі аб горадзе пачынаюцца з 1150 г. Пад сучаснай назвай вядомы з 1408 г., калі ён апынуўся пад уладай Літвы і з'яўляўся ўдзелам кн. Свідрыгайлы. З 1493 па 1503 г. Рослаў знаходзіўся ў складзе Рускай дзяржавы, у XVI ст. з'яўляўся значным гандлёвым цэнтрам. У часы Івана Грознага горад зноў быў далучаны да Расіі.

[86] *Воласць* — старая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Беларусі і Расіі.

[87] *Князь югарскі* — г. зн. уладар паўночнай часткі Урала, заселенага угарскімі (югарскімі) плямёнамі.

[88] *«...князя... тримскаго»* — тут перапісчык, відаць, штосьці зблытаў у назве тытула Івана Грознага, бо пад такой назвай гісторыя не ведае ні адной часткі рускай зямлі. Магчыма, што няправільна было прачытана слова «пермскі».

[89] Булгарыяй у старажытнасці называлася частка Паволжа, заселеная народамі цюркскага паходжання.

[90] *Мазовія* — частка польскіх зямель, размешчаных па рр. Вісле, Буг і Нарэў, з гарадамі Варшава, Плоцк і Рава. У XIII ст. Мазовія была самастойным герцагствам. У 1526 г. польскі кароль Сігізмунд I Стары далучыў яе да Вялікай Польшчы з цэнтрам у Кракаве.

[91] Маюцца на ўвазе Карпаў і Галавін, якія ездзілі да С. Баторыя, каб прысутнічаць пры зацверджанні перамір'я, заключанага ў Маскве ў студзені 1578 г. ваяводам мінскім Мікалаем Сапегам і ваяводам мазавецкім Станіславам Крыйскім тэрмінам на тры гады. Але гэта перамір'е С. Баторый парушыў летам наступнага года.

[92] Пасламі Грознага да Баторыя былі прызначаны стольнік і князь Іван Сіцкі-Яраслаўскі і думны дваранін Раман Піваў, якіх Баторый згадзіўся чакаць не пазней 19 ліпеня. Сустрэча паслоў з Баторыем адбылася ў стане караля каля асаджаных ім Вялікіх Лук.

[93] *Грыгорый Афанасьевіч Нашчокін* — царскі дваранін, па даручэнню цара ў студзені 1580 г. быў разам з каралеўскім ганцом Лапацінскім накіраваны да С. Баторыя з наказам патрабаваць ад яго вызвалення палонных, захопленых ім у Полацку.

[94] *Фёдар Шышмароў* — асоба малавядомая, прозвішча якой у рукапісу пададзена ў зблытанай форме «Шимшаров».

[95] *Луцк* — старажытны ўкраінскі горад на Валыні, размешчаны на правым беразе р. Стыр пры ўпадзенні ў яе р. Гіжыцы. Пра ўзнікненне горада дакладных звестак не захавалася. Паводле адных крыніц, ён быў заснаваны дулебамі ў XII ст., а паводле другіх — Уладзімірам Вялікім каля 1000 г. Упершыню Луцк упамінаецца ў летапісу пад 1075 г., калі ён ужо быў умацаваным пунктам і вытрымаў паўгадавую асаду польскага караля Баляслава Храбрага. У XI ст. Луцк быў яшчэ прыгарадам Уладзіміра-Валынскага княства, а з 1150 г. ужо стаў самастойным удзелам. У 1320 г. быў захоплены войскамі літоўскага кн. Гедыміна. У 1432 г. атрымаў магдэбургскае права. К канцу XIVст. стаў адным з буйнейшых гарадоў Валыні і яе палітычным цэнтрам. У 1429 г. тут адбыўся з'езд еўрапейскіх манархаў па пытанню барацьбы супраць турак і аказання дапамогі Візантыі. Як горад, надзелены магдэбургскім правам, Луцк, безумоўна, меў і свайго старасту. Але Багдан Іванавіч Саламярэцкі ніколі на Валыні не жыў і старастам Луцка не быў. Перапісчык «Баркулабаўскай хронікі» ў дадзеным выпадку зблытаў назву Алучыцкага (ці Лучыцкага) староства, якое знаходзілася непадалёку ад Крычава і якім сапраўды кіраваў Б. Саламярэцкі, і назваў яго старастам луцкім. У далейшых запісах гэта памылка ў яго больш не паўтараецца.

[96] Піліпаўскі пост працягваецца 40 дзён — ад 14 лістапада да 25 снежня па ст.ст.

[97] *Сідарайская пушча*—лясны масіў, які размяшчаўся на поўдзень ад Магілёва ў ваколіцах в. Сідаравічы.

[98] *Сутакі* — зараз вёска Чавускага р-на па дарозе на Слаўгарад.

[99] *Махава* — зараз цэнтр сельсавета ў паўднёва-ўсходняй частцы Магілёўскага р-на.

[100] *«...у брони остроговой»* — г. зн. у браме астрожнай.

[101] У гэтым месцы аўтар запісаў дапусціў памылку, бо Іван Грозны прабіў посахам не Фёдара, а старэйшага сына Івана. Да таго ж забойства царэвіча Івана адбылося не ў 1584, а ў лістападзе 1581 г.

[102] Смерць Івана Гconverted Грознага настала 18 сакавіка 1584 г.

[103] Тут аўтар запісаў дапусціў блытаніну. Стэфан Васільевіч Гадуноў — сапраўды асоба гістарычная. Гэта баярын, які ў 1573 г. быў ваяводам фелінскім (Эстонія), у 1576 г. у званні акольнічага хадзіў разам з Іванам Грозным у Лівонію, у 1586 г. узначальваў царскае пасольства ў Рэч Паспалітую, куды быў накіраваны абараняць інтарэсы цара Фёдара Іванавіча як кандыдата на польскі каралеўскі трон. У 1592 г. удзельнічаў у паходзе ў Фінляндыю. Пры цары Барысе Гадунове быў дварэцкім, пры Самазванцу пасланы ваяводам у Сібір.

На царства ж, як вядома, быў каранаваны 1.IX 1598 г. Барыс Фёдаравіч Гадуноў (1552 — 13.IV 1605), які фактычна кіраваў дзяржавай з 1584 г. за сына Івана Грознага Фёдара, жанатага на яго сястры Ірыне Фёдараўне Гадуновай.

[104] *Стаў* — частка водаадліўнай установкі ў вадзяным млыне.

[105] Адлік дзён і тыдняў у «Баркулабаўскай хроніцы» вядзецца ад царкоўна-рэлігійнага свята вялікадня.

[106] Кашталянам люблінскім у той час быў сын ваяводы рускага Андрэй Пятровіч Фірлей. Даты яго жыцця нам устанавіць не ўдалося. Вядома толькі, што ён прытрымліваўся пратэстанцкага веравызнання і з маладых гадоў прымаў удзел у шматлікіх ваенных паходах і бітвах з рускім войскам Івана Грознага, з немцамі і інш. Пасля сябе пакінуў дзвюх дачок, адна з якіх была замужам за кн. Стэфанам Андрэевічам Збаражскім, ваяводам трокскім.

[107] *Гарбавічы* — зараз цэнтр сельсавета ў заходняй частцы Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

[108] *Хацятова* — зараз вёска Гарбавічскага сельсавета Чавускага р-на.

[109] *Следнакі* (зараз Следзюкі) — цэнтр сельсавета ў паўднёвай частцы Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.

[110] *Струпішчы* — зараз населенага пункта пад такой назвай няма.

[111] *Забалацце* — вёска непадалёку ад Чавусаў.

[112] *Батунь* — вёска непадалёку ад Магілёва.

[113] *«...а мешкал на Москве аж до семое суботы»* — г. зн. жыў у Маскве аж 7 тыдняў пасля вялікадня.

[114] Царкоўна-рэлігійнае свята ў гонар св. Юрыя мае пастаянную дату — 23 красавіка.

[115] *Фаміна нядзеля* — паводле царкоўнага календара другі тыдзень пасля вялікадня.

[116] У хроніцы паведамляецца пра смерць люблінскага і трокскага кашталянаў. Люблінскім кашталянам быў А. П. Фірлей. А вось адносна асобы кашталяна трокскага цяжка сказаць што-небудзь пэўнае. Справа ў тым, што тут, як і ў іншых месцах хронікі, паведамленне аўтара запісаў, а мабыць, іх пазнейшага перапісчыка, не адпавядае рэчаіснасці, бо кашталянам трокскім у 1586 г. быў Ян Янавіч Глябовіч, але ж ён памёр у 1590 г. Яго папярэднікам на гэтым урадзе да 15.XI 1584 г. быў Крыштоф Радзівіл па клічцы Пярун (1547 — 20.XI

1603). Значыць, і пра гэту асобу не можа ісці размова. Хутчэй за ўсё тут маецца на ўвазе смерць кн. С. А. Збаражскага (? — 1586), які даводзіўся зяцем А. П. Фірлею і з 18.III 1566 г. да канца жыцця быў ваяводам трокскім. А да гэтага часу С. А. Збаражскі спачатку (з 1551 па 1564 г.) з'яўляўся ваяводам віцебскім і тады разам з каралеўскім маршалкам Шымковічам у 1556 г. ездзіў з пасольскай місіяй у Маскву, дзе 23 сакавіка заключыў з Іванам Грозным мір на 6 гадоў, а 20.X 1564 г. атрымаў прызначэнне на Трокскую кашталянію. Яго дата смерці супадае з зазначанай датай запісу хронікі, разыходжанне тут толькі з апошняй яго пасадай, паводле якой ён ужо іменаваўся не панам трокскім, г. зн. не кашталянам трокскім, а ваяводам трокскім. У дадзеным выпадку аўтар запісаў хронікі ці пазнейшы іх перапісчык мог дапусціць памылку і па аналогіі з панам люблінскім назваць яго зяця панам трокскім.

117 *Леў Іванавіч Сапега* (1557—1633) — славуты дзяржаўны і палітычны дзеяч Вял. кн. Літоўскага. За асабістую мужнасць, праяўленую ў баях пад Тарапцом, Завалачам, Астравам і Псковам у час Лівонскай вайны (1581), атрымаў пасаду сакратара Вял. кн. Літоўскага, 2.II 1585 г. стаў падканцлерам, а з красавіка 1589 г. — канцлерам Вял. кн. Літоўскага. Як дзяржаўны дзеяч вызначыўся некалькімі працамі: уклаў тэкст Галоўнага трыбунальскага суда для Вял. кн. Літоўскага по ўзору Трыбунала, складзенага для Кароны канцлерам Янам Замойскім; упарадкаваў і надрукаваў за ўласны кошт трэцюю рэдакцыю Статута Літоўскага (1588); у 1611 г. ажыццяўляў нагляд за ўпарадкаваннем дзяржаўных актавых матэрыялаў, вядомых пад назваю Метрыкі Літоўскай. Як дальназоркі палітык быў свабодны ад рэлігійнага фанатызму і ў справах царкоўнай уніі з'яўляўся прыхільнікам найбольшай памяркоўнасці, ганьбаваў гвалтоўныя дзеянні уніяцкіх дзеячоў. У часы рускай смуты прымаў актыўны ўдзел у каралеўскай інтэрвенцыі ў Расію, быў дарадчыкам каралевіча Уладзіслава ў яго ваенным паходзе 1618 г., а калі і гэта інтэрвенцыя не прынесла плёну, Л. І. Сапега прыклаў намаганні для заключэння з Расіяй Дэўлінскага перамір'я. У час Хоцінскай бітвы з туркамі (1621) ён абараняў Вял. кн. Літоўскае ад шведаў. У 1623 г. адмовіўся ад канцлерства і атрымаў пасаду ваяводы віленскага, якую з 1625 г. сумяшчаў з абавязкамі гетмана вялікага. Памёр у Вільні. Пасля сябе пакінуў багатую эпісталярную спадчыну.

118 Размова ідзе пра *Афанасія* (свецкае імя Андрэй) *Тарлецкага*, які спачатку быў манахам, а ў 1586 г. стаў архімандрытам Ляшчынскага манастыра каля Пінска. Прызначэнне ж на архіепіскапства полацкае, віцебскае і мсціслаўскае ён атрымаў ад караля Сігізмунда III Вазы толькі 22.IX 1588 г. У гэтым сане ён і памёр паміж 1590 і 1594 гг. Такім чынам, аўтар запісаў і ў дадзеным выпадку дапускае блытаніну, называючы А. Тарлецкага ляхам, а г. зн. чалавекам каталіцкага веравызнання, і архіепіскапам полацкім, якім ён стаў пяццю гадамі пазней.

119 *Львоў* — старажытны ўкраінскі горад, заснаваны, па паданню, у 1241 г. галіцыйскім кн. Данілам Рамановічам і названы ім у гонар яго сына Льва. У 1340 г. горад быў захоплены польскім каралём Казімірам і знаходзіўся ў складзе Польскай дзяржавы да 1772 г., г. зн. да першага падзелу Рэчы Паспалітай, пасля якога апынуўся ў складзе Аўстра-Венгрыі, дзе называўся Лембергам.

120 Размова ідзе пра *брацтвы* — нацыянальна-рэлігійныя і царкоўна-палітычныя арганізацыі праваслаўнага беларускага і ўкраінскага

насельніцтва ў Рэчы Паспалітай XVI—XVIII стст. У тыя часы брацтвы побач з чыста філантрапічнымі функцыямі выконвалі ролю арганізатараў школ і кнігадруку, кантралявалі дзейнасць праваслаўнага епіскапата, змагаліся супраць каталіцкай агрэсіі і паланізацыі роднага краю. Брацтвы ўзнікалі, як правіла, пры кафедральных царквах або пры значных манастырах у сельскай мясцовасці. Першыя брацтвы на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся ў другой палавіне XVI ст. і існавалі ва ўсіх буйных гарадах і мястэчках таго часу (Мінск, Магілёў, Брэст, Віцебск, Полацк, Орша, Слуцк, Гродна, Пінск і інш.).

121 *Патрыярх* — вышэйшая духоўная асоба ў хрысціянскіх царквах праваслаўнага набажэнства.

122 *Папа* — вышэйшая духоўная асоба ў каталіцкай царкве.

123 *Сабор* — з'езд службовых або выбарных асоб для разгляду і вырашэння пытанняў арганізацыі і кіравання царквой.

124 Дзень Барыса і Глеба, уведзены ў свой час Кіеўскай мітраполіяй у гонар рускіх князёў, адзначаецца праваслаўнай царквою 2 мая. У дадзеным кантэксце аўтар запісаў зноў дапускае памылку, калі адносіць гэта царкоўнае свята праваслаўных Беларусі, Украіны і Расіі на два месяцы пазней.

125 *Мера* — сасуд для вымярэння сыпкіх рэчываў, які ўжываўся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер. Памер яе раўняўся 4 чацверыкам або 8 гарцам, а ў 1 гарац уваходзіла 3,28 л зерня.

126 *Пайчварта* — лік, які раўняецца 3,5 адзінцы.

127 Аўтар запісаў дапускае памылку, называючы патрыярха Ірамію не яго тытулам. Перш за ўсё Іерамія Транас быў канстанцінопальскім патрыярхам з 1572 г. ніколі не быў патрыярхам антыёхійскім. Патрыярхам антыёхійскім у гэты час быў Іаахім, які і сапраўды прыязджаў у Маскву ў 1586 г.

128 *«А мовил языком антиохийским»* — г. зн. размаўляў па-арабску. Антыёхія была старажытнай сталіцай Сірыйскай дзяржавы. Горад размяшчаўся на р. Аронцы і ў сярэдніх вяках быў адной з чатырох рэзідэнцый праваслаўных усяленскіх патрыярхій.

129 Аўтар запісаў зноў дапускае памылку, бо смерць караля Стэфана Баторыя настала не 4, а 12 снежня 1586 г. у Гродна.

130 Маецца на ўвазе каралевіч *Сігізмунд Ваза* (1566—1632), які быў абраны на польскі трон дзякуючы энергічнай дзейнасці каронннага канцлера Яна Замойскага. Каралём Рэчы Паспалітай Сігізмунд III Ваза быў з 19.VIII 1587 г. па 1632 г. і адначасова па праву бацькавай спадчыны — каралём шведскім з 1592 па 1604 г. Гэта быў заўзяты католік. У час яго панавання адбылася Брэсцкая царкоўная унія (1596). Сваімі жорсткімі метадамі садзейнічаў пашырэнню уніяцтва сярод беларускага і ўкраінскага народаў. Вёў частыя войны са Швецыяй за дынастычны каралеўскі трон. У час рускай смуты развязаў інтэрвенцыю ў Расію, каб дамагчыся царскага трона для свайго сына Уладзіслава, які потым стаў яго пераемнікам на каралеўскім троне Рэчы Паспалітай.

131 Пра каго канкрэтна з князёў Галаўчынскіх тут ідзе размова, сказаць цяжка. Галаўчынскія былі выхадцамі з Суздальшчыны. Ратуючыся ад тэрору Івана Грознага, некаторыя з іх перайшлі ў Вял. кн. Літоўскае і па назве свайго радавога гнязда Рапалова называлі сябе ў Рэчы Паспалітай яшчэ і князямі Рапалоўскімі, а часам пісаліся падвойным прозвішчам — Галаўчынскія-Рапалоўскія.

[132] *Пераводні* — асобы, пераселеныя ў дадзеную мясцовасць з іншых месц.

[133] *Прачыстая* — царкоўнае хрысціянскае свята, якое адзначаецца 8(21) верасня. Але тут маецца на ўвазе першая прачыстая, г. зн. успенне багародзіцы, якое адзначаецца 15(28) жніўня.

[134] Г. зн. дзесьці пасля 14(27) кастрычніка.

[135] У рукапісу напісана: до Варшава.

[136] *Фёдар Міхайлавіч Траякураў* — баярын, князь. У часы панавання цара Фёдара Іванавіча тройчы ездзіў з пасольскімі місіямі ў Рэч Паспалітую: два разы (у 1585 і 1586 гг.) для працягвання перамір'я і апошні раз (1587 г.) з місіяй супрацьдзейнічаць абранню на каралеўскі трон Сігізмунда Вазы ў карысць цара Фёдара ці ў крайнім выпадку — цэсарскага брата Максімільяна. У 1608 г. разам з князямі Іванам Катыравым і Юрыем Трубецкім удзельнічаў у загаворы на карысць Лжэдзімітрыя II. Загавор быў раскрыты, а яго ўдзельнікі арыштаваны і пасаджаны ў турму.

[137] *Васілій Якаўлевіч Шчалканаў*—думны дзяк (г. зн. пісар), даверaная асоба цара Фёдара Іванавіча, прыхільнік Барыса Гадунова ў яго барацьбе супраць Ляпуновых, Кікіных, І. Ф. Мсціслаўскага, Шуйскіх, Варатынскіх, Колычавых і Галавіных. В. Я. Шчалканаў узначальваў другі пасольскі разрад, быў удзельнікам пасольства С. В. Гадунова ў Рэч Паспалітую (1587), у Маскве ў 1597 г. вёў перагаворы з пасламі аўстрыйскага эрцгерцага Максімільяна і яго брата імператара Рудольфа II (1576—1612) аб саюзе супраць Рэчы Паспалітай і Турцыі. Пры Лжэдзімітрыі В. Я. Шчалканаў быў узведзены ў акольнічыя, а пры В. Шуйскім падвяргаўся апале.

[138] *Дружына Панцялееў Пяцелін* — думны дзяк, узначальваў чацвёрты пасольскі прыказ (так званы Казанскі дварэц), вызначаўся розумам і кемлівасцю, у 1587 г. быў удзельнікам пасольства С. В. Гадунова ў Рэч Паспалітую.

[139] *Максімільян* — брат аўстрыйскага імператара Рудольфа II Габсбурга (1576—1612). Пасля смерці С. Баторыя аўстрыйская партыя польскіх сенатараў, якую ўзначальваў Андрэй Збароўскі і папскі нунцый Ганібал дзі Капуі, у процівагу партыі Яна Замойскага вылучыла і 22 жніўня 1587 г. аб'явіла яго каралём Рэчы Паспалітай. Але быць каралём Максімільяну не прыйшлося, бо ў кровапралітнай бітве пад Бычынам (Сілезія) каронны канцлер Ян Замойскі разбіў яго наймітаў, а самога прэтэндэнта захапіў у палон і пратрымаў як вязня да 1590 г. Нават пасля гэтай няўдачы Максімільян яшчэ не губляў надзеі вярнуць сабе трон Рэчы Паспалітай, для чаго вёў перагаворы з рускім царом, імкнучыся заручыцца яго матэрыяльнай і маральнай падтрымкай.

[140] У процівагу польскім сенатарам, адны з якіх вылучалі ў каралі Максімільяна, а другія разам з Янам Замойскім — шведскага каралевіча Сігізмунда Вазу, літоўскія сенатары М. Радзівіл, Л. Сапега, Ф. Скумін, М. Гарабурда, Я. Глябовіч вылучалі ў каралі рускага цара Фёдара Іванавіча, які займаў царскі трон з 1584 па 1598 г.

[141] Маецца на ўвазе жонка С. Баторыя *Ганна Ягелонка*, якая аказала дзейсную падтрымку партыі Яна Замойскага, каб трон Рэчы Паспалітай дастаўся яе пляменніку шведскаму каралевічу Сігізмунду.

[142] Турэцкім султанам (царом) у гэты час быў *Амурат II* (1546—1599), які сеў на трон у 1571 г. і вёў досыць паспяховыя войны як у Еўропе, так і ў Афрыцы.

[143] Тут аўтар зноў дапускае памылку. Івана Грознага ўжо не было ў жывых (памёр 18.III 1584 г.), і ў дадзеным выпадку размова можа ісці толькі пра яго сына Фёдара Іванавіча.

[144] Шведскім каралём у гэты час быў муж Екацярыны Ягелонкі Іаан III Ваза (1537—1592).

[145] *Канвакацыя* — скліканне сейма ў часы бескаралеўя для вызначэння кандыдатуры наступнага караля.

[146] Высветліць ініцыялы і дзяржаўна-палітычнае становішча Кішкі не ўдалося.

[147] Узнясенне Хрыста — царкоўнае свята, якое адзначаецца на 40-ы дзень пасля вялікадня.

[148] *«...а за призволеньем белых голов»* — г. зн. па капрызу жанок.

[149] У адрозненне ад католікаў праваслаўныя Рэчы Паспалітай называлі сябе кафолікамі і тым самым імкнуліся падкрэсліць «чысціню» свайго веравызнання, якое нібыта захавалася ў тым выглядзе, у якім яго распаўсюджвалі апосталы хрысціянства.

[150] *Св. Пётр* — паводле біблейскага міфа, адзін з трох самых блізкіх да Ісуса Хрыста яго вучняў, які ў самы крытычны для свайго настаўніка момант адмовіўся ад яго, а пасля яго смерці стаў галоўным прапаведнікам хрысціянскага веравызнання ў Рыме.

[151] Маецца на ўвазе папа рымскі Клімецій VIII (1592—1605), пры жыцці якога было зроблена новае выпраўленне Бібліі, вядомай пад назвай Клемянціны.

[152] Аўтар запісаў так заблытаў імя гаспадара Валахіі, што зараз немагчыма ўстанавіць, пра каго тут вядзецца гутарка.

[153] Маецца на ўвазе *Карл IX Ваза* (1550—1611), малодшы сын Густава Вазы і Маргарыты Лейнгавуд, які пасля смерці свайго брата (караля Іаана III, бацькі польскага караля Сігізмунда III) узначальваў пратэстанцкую партыю ў Швецыі і прэтэндаваў на каралеўскую карону ў абход інтарэсаў свайго пляменніка Сігізмунда III Вазы, якому яна дасталася па праву спадчыны. Сігізмунд III быў заўзятым католікам і таму, кіруючы адначасова Рэччу Паспалітай і Швецыяй, варожа ставіўся да шведскага пратэстантызму. Спачатку Карл IX як дзяржаўны канцлер (з 2.IX 1584 г.) спрабаваў уздзейнічыць на пляменніка мірным шляхам. А калі перагаворы не далі станоўчых вынікаў, ён 25.IX 1598 г. разграміў войскі Сігізмунда і на ліпеньскім сейме 1599 г. дамогся звяржэння пляменніка з каралеўскага трона Швецыі. Але шведскім каралём Карл IX стаў толькі ў 1604 г., калі ад свайго права на трон адмовіўся ў карысць дзядзькі пляменнік Іаан (1589—1618), малодшы сын Іаана III ад пратэстанткі Гуніллы Бьелке. Тады Карл IX дабіўся ад сейма і аб'яўлення наследным прынцам свайго сына Густава-Адольфа (1594 — 6.XI 1632). Такі паварот справы не задаволіў Сігізмунда III. Пазбаўлены права на спадчынны трон Швецыі, ён імкнуўся вярнуць яго сабе сілаю зброі, у імя чаго вёў частыя дынастычныя войны спачатку з Карлам IX, а потым і з яго сынам Густавам-Адольфам, у якіх выкарыстоўваў нават і сілу запарожскіх казакаў. Аднак страчанае права яму вярнуць не ўдалося. Швецыя пры Густаве-Адольфе ўпісала не адну бліскучую старонку ў сваю гісторыю, бо гэты яе кароль быў адным з самых адукаваных еўрапейскіх манархаў таго часу. Ён свабодна валодаў нямецкай, галандскай, французскай, італьянскай, лацінскай і крыху рускай і польскай мовамі, вылучаўся ваеннымі здольнасцямі. Як палкаводзец, ён стаяў поруч з лепшымі ваеннымі свяцiламі таго часу.

154 За перыяд праўлення Сігізмунда III Вазы ў Рэчы Паспалітай адбыліся казацкія паўстанні: на чале з Крыштофам Касінскім (1591—1593), Севярынам Налівайкам (1594—1596), Жмайлам (1625) і Тарасам Трасілам (1630).

155 Імя патрыярха ў рукапісу не названа, але вядома, што размова ідзе пра паездку ў Маскву канстанцінопальскага патрыярха Іераміі Транаса, прыезд якога быў выкарыстаны рускім царом Фёдарам Іванавічам для пасвячэння мітрапаліта Іова (26.I 1589) у сан патрыярха маскоўскага. Пацвярджальная грамата Іову ад іншых усходніх патрыярхаў была прывезена ў Маскву толькі ў 1591 г.

156 У складзе світы патрыярха Іераміі былі Арсеній, архіепіскап еласонскі; Ерафей, мітрапаліт монемвазійскі; імя трэцяга архіепіскапа высветліць не ўдалося.

157 Маецца на ўвазе кіеўскі мітрапаліт Анісіфор Дзевачка, якога патрыярх на зваротнай дарозе з Масквы адхіліў ад гэтага сана і ўзвёў на мітрапалічую кафедру Міхаіла Рагозу.

158 Патрон св. Афанасія па царкоўных святцах прыпадае на 20 студзеня, а тут ён чамусьці пазначаны раней.

159 *Міхаіл Рагоза* (? — 1599) — апошні праваслаўны мітрапаліт кіеўскі перад прыняццем царкоўнай уніі 1596 г. у Брэсце. У свецкім жыцці з 1572 па 1576 г. быў пісарам пры двары кн. Багуслава Карэцкага, з 1579 г. архімандрыт мінскі, з 1586 г. па сумяшчальніцтву і архімандрыт слуцкі. У 1589 г. быў узведзены патрыярхам Іераміяй Транасам у сан мітрапаліта кіеўскага. Прымаў удзел у заснаванні царкоўнай уніі і стаў першым уніяцкім мітрапалітам Рэчы Паспалітай.

160 Асобу Багдана Біралёнка высветліць не ўдалося.

161 У гэтым запісе Ева Баркулабаўна Корсак (? — 1626), якая спачатку была замужам за кн. Янушам Чартарыйскім, а пасля яго смерці стала жонкаю кн. Багдана Саламярэцкага, відаць, па віне перапісчыка тэксту «Баркулабаўскай хронікі», атрымала іншае імя і ў далейшым ужо стала называцца Еўдакіяй.

162 *Ісакій Далмацкі* (? — 387) — ігумен Далмацкага манастыра, якога хрысціянская царква кананізавала ў святыя і для ўшанавання яго памяці адвяла тры дні: 22 сакавіка, 30 мая і 3 жніўня.

163 Асобу Грыгорыя Вілянта высветліць не ўдалося.

164 *«Он у волоки меския роздавал»* — г. зн. сваю арэнду ён падзяліў на надзелы, якія здаваў у арэнду гараджанам.

165 *Ляда* (падсечка) — участак, на якім высякаўся лес для будучай раллі.

166 *Прыстаўства* — даніна, якая бралася з мясцовага насельніцтва на ўтрыманне размешчанага ў іх населеным пункце войска.

167 Тут яўная апіска, якая вядзе да скажэння сэнсу, і таму гэта слова трэба чытаць: «заклікалі».

168 *«...абы з ними на Низ ишли»* — г. зн. каб яны ішлі разам з казакамі ў нізоўе Дняпра — у Запарожскую Сеч.

169 *Чайкі* — гэтага населенага пункта ў Магілёўскім р-не зараз не існуе.

170 *«...у волоки поволочив»* — г. зн. падзяліў зямлю на надзелы (валокі), памеры якіх у залежнасці ад якасці зямлі ваганіся ад 30 да 40 моргаў. Адзін морг раўняўся 0,712 га.

171 Памеснымі саборамі называюцца з'езды епархіяльнага духавенства пад старшынствам мітрапаліта для абмеркавання і вырашэння царкоўных спраў.

[172] Відаць, перапісчык перарабіў слова «привабили» на «прибавили».

[173] *Грыгорый Рагацінец* — адзін з уплывовых кіраўнікоў праваслаўнага Львоўскага брацтва, з 1587 г. выкладаў грэчаскую мову. У 1592 г. быў накіраваны на дапамогу віленскаму Троіцкаму брацтву, але прабыў там, відаць, нядоўга. Прымаў удзел у рабоце Брэсцкага праваслаўнага сабора 1596 г. і Варшаўскага сейма 1600 г.

[174] *Стэфан* (у манаштве Сільвестр) *Зізаній-Тустаноўскі* — беларускі пісьменнік-палеміст канца XVI ст. З 1586 г. выкладчык, а з 1592 г. рэктар Львоўскай брацкай школы. З 1593 да 1599 г. прапаведнік (казнадзей) Віленскага праваслаўнага брацтва. За публічнае выкрыццё мітрапаліта і епіскапаў, якія рыхтаваліся да аб'яднання з каталіцкай царквою, на Навагрудскім саборы ў пачатку 1596 г. быў адлучаны імі ад царквы і аб'яўлены ерэтыкам, а ў 1599 г. па іх хадайніцтву Сігізмунд III Ваза сваім каралеўскім універсалам абвясціў яго дзяржаўным злачынцам.

[175] Рымлянамі праваслаўныя Рэчы Паспалітай тады называлі католікаў.

[176] *Ратуша* (ад ням. rathaus) — орган гарадскога самакіравання; назва будынка, дзе размяшчалася гарадское самакіраванне.

[177] *«... до архиепископов»* — г. зн. да Гедыёна Балабана, Кірылы Тарлецкага, Дзіянісія Збіруйскага і Лявонція Пялчыцкага. Пра іх гл. ніжэй.

[178] Брэсцкі царкоўны сабор 1590 г. быў склікаиы ў чэрвені месяцы і пачаў сваю работу не 29, а 24 чэрвеня, што па царкоўных святцах сапраўды адпавядае дню нараджэння Іаана Прадцечы, папярэдніка Ісуса Хрыста. Гэты сабор быў прысвечаны разгляду справы львоўскага епіскапа Гедыёна Балабана, якая заключалася ў яго варожых дзеяннях, накіраваных супраць Львоўскага брацтва. Сваёй мэтай сабор ставіў «ряд и справы духовные в стародавный добрый порядок привести, о справах церковных обмышляти, о школах, о науках, о шпиталях и о инших добрых справах». На саборы было вырашана зрабіць Брэст пастаянным месцам царкоўных сабораў, якія павінны тут збірацца кожны год 24 чэрвеня, і яўка на іх аб'яўлялася строга абавязковай для ўсіх епіскапаў. Для тых, хто будзе ад гэтага ўхіляцца, прадугледжвалася грашовае пакаранне і нават пазбаўленне духоўнага сану. Аднак з усяго праваслаўнага епіскапата на гэтым саборы прысутнічаў толькі адзін мітрапаліт М. Рагоза. Іншыя ж епіскапы, спасылаючыся на тое, што сабор, скліканы ў адсутнасць караля (а ён тады знаходзіўся ў Швецыі), не будзе мець юрыдычнай сілы, бо ў адсутнасць манарха ўсякія з'езды ў Рэчы Паспалітай строга забараняліся, аб'явілі гэтаму сабору байкот. Сам жа Гедыён Балабан тым часам сумесна з Кірылам Тарлецкім, Дзіянісіем Збіруйскім і Міхайлам Капысценскім правёў канспіратыўную нараду ў Сокалі па пытанню ўзгаднення ўмоў для ажыццяўлення царкоўнай уніі з каталіцкім касцёлам. Аўтар запісаў не выказаў свайго стаўлення да сабора 1590 г. Ён толькі зазначае, што такі сабор меў месца ў Брэсце, і абмежаваўся гэтым паведамленнем.

[179] Фёдару Філіповічу, відаць, належыць частка запісаў «Баркулабаўскай хронікі», і ў прыватнасці апісанне Брэсцкага сабора 1590 г. У рукапісу пасля імя Фёдара Філіповіча зроблен пропуск на 3 радкі тэксту.

[180] Пералічваючы ў каралеўскім універсале імёны епіскапаў, якія схіляліся да царкоўнай уніі, аўтар прамінуў назваць імя архіепіскапа

пінскага і зусім недарэчна назваў Іпація Пацея, які ні ў 1591, ні нават у 1592 г. епіскапам яшчэ не быў, а значыць, ніякага дачынення да дэкларацыі 4-х епіскапаў не меў.

Дэкларацыя 4-х, на якую кароль даў свой адказ, была складзена ў г. Бэлзе па ініцыятыве епіскапа львоўскага Г. Балабана і апрача яго самаго была падпісана яшчэ епіскапам луцкім К. Тарлецкім, епіскапам холмскім і бэлзскім Дзіянісіем Збіруйскім і епіскапам пінскім Лявонціем Пялчыцкім. Незадаволеныя дзейнасцю брацтваў і напалоханыя крутымі мерамі самаўладнага канстанцінопальскага патрыярха Іераміі Транаса, гэтыя епіскапы з'ехаліся ў пачатку 1590 г. у Бэлзе і ў канспіратыўным парадку вырашылі выказаць каралю сваю згоду на аб'яднанне з каталіцкай царквой. Па ініцыятыве Г. Балабана яны выпрацавалі і падпісалі тэкст сваёй дэкларацыі, якую трымалі ў глыбокай тайне ад мітрапаліта М. Рагозы і іншых праваслаўных епіскапаў. І толькі пазней да гэтай чацвёркі далучыліся спачатку епіскап перамышльскі Міхаіл Капысценскі і епіскап уладзімірска-брэсцкі Іпацій Пацей, а потым у 1595 г. не без шантажу фальшывай граматай патрыярха далучылі і самаго мітрапаліта кіеўскага Міхаіла Рагозу. Кароль адобрыў уніяцкі план рэнегатаў і накіраваў К. Тарлецкага з І. Пацеем у Рым да папы Клімента VIII для канчатковага ўзгаднення ўмоў аб'яднання праваслаўнай царквы з каталіцкай. Як толькі закулісныя манеўры епіскапаў перасталі быць тайнай і стала вядома мэта паездкі К. Тарлецкага і І. Пацея ў Рым, Г. Балабан, а ўслед за ім і М. Капысценскі адступілі ад сваіх ранейшых намераў і публічна адмежаваліся ад былых аднадумцаў. У час работы Брэсцкага сабора 1596 г. яны прымалі актыўны ўдзел на баку яго праваслаўнай часткі, якую ўзначальвалі пратасінкел канстанцінопальскай патрыярхіі Нікіфар і екзарх патрыярха александрыйскага Кірыл Лукарыс.

181 *Іпацій* (свецкае імя Адам Львовіч) *Пацей* (1541—1613) — царкоўна-палітычны дзеяч і уніяцкі пісьменнік-палеміст, быў высокаадукаваным, але хісткім у веравызнанні чалавекам. У юнацтве ён з праваслаўнага стаў кальвіністам і пэўны час служыў сакратаром у караля Сігізмунда II Аўгуста. Потым парваў з кальвінізмам і зноў стаў праваслаўным. З 1580 па 1589 г. займаў выбарную пасаду брэсцкага земскага суддзі, а ў 1589 г. атрымаў ад караля Сігізмунда III Вазы годнасць кашталяна брэсцкага і такім чынам стаў сенатарам. Пасля смерці жонкі пастрыгся ў манастыр і ў хуткім часе ўзначаліў самую багатую тады ўладзімірска-брэсцкую епіскапскую кафедру. Будучы ўжо епіскапам, схіліўся да прыхільнікаў царкоўнай уніі і стаў не толькі яе творцам, але і духоўным кіраўніком. Пасля смерці М. Рагозы да 1613 г. быў уніяцкім мітрапалітам.

182 Маецца на ўвазе *Кірыл Сямёнавіч Тарлецкі* (? — 1607) — адзін з галоўных арганізатараў царкоўнай уніі 1596 г., які спачатку быў епіскапам тураўскім і пінскім (з 1572 г.), а потым (з 1585 г.) стаў епіскапам астрожскім і луцкім. У 1588 г. канстанцінопальскі патрыярх Іерамія Транас зрабіў яго сваім екзархам у Рэчы Паспалітай. Будучы епіскапам, паводзіў сябе падобна свецкім феадалам: разбойнічаў, бэсціўся, п'янстваваў, рабіў наезды на каго хацеў і здзекаваўся са сваіх ахвяр. У маральных адносінах ён быў досыць брыдкім чалавекам, на сумленні якога ляжала не адно гвалтаванне і не адно забойства ні ў чым не вінаватых людзей.

183 Маецца на ўвазе *Гедыён* (свецкае імя Грыгорый Маркавіч) *Балабан* (1530 — 10.II 1607) — епіскап львоўскі з 1576 г., спрытны і

хітры інтрыган, які закуліснымі махінацыямі і ўласным прыкладам падштурхнуў праваслаўных епіскапаў на царкоўную унію. Незадаволены ўмяшаннем львоўскіх братчыкаў у яго царкоўна-рэлігійныя справы, Г. Балабан у 1589 г. уступіў у тайныя перагаворы з мясцовым каталіцкім архіепіскапам адносна магчымага аб'яднання праваслаўнай царквы з каталіцкай пад вярхоўнай эгідай папы рымскага. Сваю двурушніцкую ролю іграў амаль што да самага Брэсцкага сабора 1596 г., кіруючыся пры гэтым эгаістычнымі мэтамі і карыслівым разлікам. І толькі няўмольны страх за сваё цёплае месца стрымаў яго ад канчатковай здрады ў 1596 г. і прымусіў біць адбой.

184 Маецца на ўвазе *Дзіянісій Збіруйскі* — епіскап холмскі і бэлзскі, бліжэйшы паплечнік Г. Балабана па ідэі царкоўнай уніі з каталіцкай царквой.

185 *«...хотячи под зверхность и благословенство»* — г. зн. жадаючы мець над сабою вярхоўную ўладу і блаславенне.

186 *«..видячи предсявзяте их потребно до речей збавенных»* — г. зн. бачачы іх захад, неабходны для спраў дабратворных.

187 Тэкст каралеўскага універсала, пададзены ў «Баркулабаўскай хроніцы» са скажэннямі асобных месц, з'яўляўся адказам Сігізмунда III Вазы на дасланую яму ў 1591 г. дэкларацыю 4-х праваслаўных епіскапаў адносна царкоўнай уніі і ўмоў яе ажыццяўлення.

188 *Прэсвітэр* — поп, свяшчэннік.

189 *«...и всему епископству церкви восточные римския варуем»* — трэба чытаць: «...і ўсім епіскапам царквы ўсходняй рэлігіі забяспечваем».

190 *«...сами з себе из яснейшими потомствы нашими кролевства Полского»* — трэба чытаць: «...сами за себе и за наяснейшие потомки наши, их милостей кролей полских».

191 *«...подати и листу привиля»* — трэба чытаць: «...по даню того листу привилея».

192 *«...на них винайдованя»* — трэба чытаць: «...на них вынайдованы».

193 *«...для всих причин каковых духовенствов владычеств»* — трэба чытаць «...для всих таковых причин, тых достоенств, владычеств».

194 *«...з данины продков их и от нас»* — трэба чытаць: «...з данины продков наших и от нас».

195 *«И еще на тое им каждому...»* — трэба чытаць: «Подаючы еще над то (г. зн. звыш таго. — *А.К.*) им и каждому».

196 *Лявонцій Пяльчыцкі* (? — 20.IX 1595) — пераемнік К. Тарлецкага на турава-пінскай епіскапскай кафедры з 1585 г., паплечнік Г. Балабана і К. Тарлецкага па падрыхтоўцы царкоўнай уніі, да абвяшчэння якой сам не дажыў крыху больш года. Яго пераемнікам на гэтай кафедры стаў былы кобрынскі архімандрыт Іона Гогаль, які далучыўся да царкоўнай уніі на Брэсцкім саборы 1596 г.

197 *Гермаген* (свецкае імя Грыгорый Загароўскі) — епіскап полацкі. У 1591 г., калі Г. Балабан, К. Тарлецкі, Л. Пяльчыцкі і Д. Збіруйскі складалі ў Бэлзе сваю дэкларацыю каралю Сігізмунду III Вазе, ён быў яшчэ толькі пратанатарыем (г. зн. старшым справаводам) кіеўскай мітраполіі. Відаць, з назначэннем у 1592 г. на Полацкую епіскапскую кафедру Нафанаіла Сяліцкага, які супраціўляўся царкоўнай уніі, Грыгорый Загароўскі з прычыны хваробы Нафанаіла быў прызначан каад'юнктарам Полацкай епархіі. Як бы там ні было, але ўжо ў сакавіку 1592 г. Грыгорый (Гермаген) прымаў удзел у закулісных

здзелках адносна царкоўнай уніі, а ў маі 1595 г. ужо меў каралеўскую намінацыю на полацкую епіскапію.

[198] *Сінод* — дарадчы орган пры патрыярху ў праваслаўнай царкве; у пратэстанцкіх царквах — гэта сход (з'езд) духоўных і свецкіх асоб для вырашэння царкоўных спраў.

[199] Дата сінода памылковая, бо тут размова ідзе пра Брэсцкі (праваслаўны) сінод 1596 г., які пачаў работу 6 кастрычніка ў дзень св. Фамы і выказаў свае адносіны да царкоўнай уніі. Дата месяца тут пададзена паводле грыгарыянскага календара з улікам разбежкі, якая ў XVI ст. складала 10 дзён, але гэта карэктыва не агаворана аўтарам зробленага запісу.

[200] *Гаспода* — часовая кватэра, заезны двор.

[201] Маецца на ўвазе валынскі магнат *Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі* (1528—1608), якому належалі шмат гарадоў і тысячы вёсак на Украіне і ў Беларусі. Ён з'яўляўся галоўнай апорай праваслаўных у іх барацьбе супраць царкоўнай уніі. Для падтрымкі праваслаўя кн. Астрожскі заснаваў адну з першых украінскіх школ у г. Астрозе і дзве друкарні. У астрожскай друкарні за яго кошт Іванам Фёдаравым была надрукавана (1580—1581) поўная славянская Біблія генадзіеўскага зводу, прывезеная з Масквы М. Гарабурдам. Пры друкарні існаваў прыдворны навуковы гурток, у якім працавалі выдатныя дзеячы таго часу. Другую друкарню князь заснаваў пры Дзерманскім манастыры. Сам К. К. Астрожскі вёў ажыўленую перапіску з кн. Андрэем Курбскім, Іпаціем Пацеем і львоўскім праваслаўным брацтвам, апякаў бацьку і сына (Герасіма і Мялеція) Сматрыцкіх, Васіля Суражскага, Хрыстафора Філалета і некаторых іншых.

[202] *Райскі* — вядома толькі, што ён прытрымліваўся пратэстанцкага веравызнання. У яго вялізным цагляным будынку (камяніцы) адбываліся зборы пратэстантаў.

[203] Маецца на ўвазе М. Рагоза.

[204] Размова ідзе пра шляхецкае кола. Справа ў тым, што на Брэсцкі (праваслаўны) сабор 1596 г., апрача духавенства, прыехала многа ўкраінскай і беларускай шляхты. А князі Астрожскія (Канстанцін і яго сын Аляксандр) насуперак папярэджанню караля ад 14 чэрвеня 1596 г. прывялі ў Брэст яшчэ і значную частку войска, неабходнага для абароны канстанцінопальскага пратасінкела Нікіфара і іншых грэчаскіх прадстаўнікоў, якіх польскія ўлады маглі арыштаваць на падставе распараджэння караля, бо ім «як турэцкім шпіёнам» быў забаронены ўезд у Рэч Паспалітую. Шляхецкае кола актыўнай ролі ў царкоўна-кананічных справах не іграла і служыла толькі ваеннай сілай, на якую ў выпадку неабходнасці магло абаперціся кола духоўнае.

Духоўнае ж кола працавала па ўзору грэчаскіх сінодаў. Яно мела двух сваіх кіраўнікоў: Нестара, пратапопа заблудаўскага, які ажыццяўляў кіраўніцтва вядзеннем пасяджэнняў, і Ігнація, прапаведніка астрожскага, які старшынстваваў над саборнымі натарыямі (справаводамі). Духоўнае кола з прычыны таго, што яго не дапускалі да саборнай царквы св. Міколы, вымушана было праводзіць свае пасяджэнні не ў царкве, а ў прыватным доме Райскага і наладжваць сувязі з уніятамі только шляхам пасылкі да іх сваіх пасольскіх дэлегацый.

[205] Саборнаю царквою ў Брэсце лічылася царква св. Міколы. У ёй засядала уніяцкая частка Брэсцкага сінода. Свае пасяджэнні яна

пачала ў дзень св. Міхаіла (8 кастрычніка) і на другі дзень вуснамі Гермагена, архіепіскапа полацкага, публічна абвясціла аб прыняцці царкоўнай уніі з рымскай царквою.

206 *Нікіфар* — прадстаўнік канстанцінопальскага патрыярха на Брэсцкім царкоўным саборы. Вучыўся ў Падуанскім універсітэце. Дзякуючы высокай адукацыі і вялікаму ўплыву на султанскі двор Амурата II (1576—1612) заняў важную пасаду ў кіраўніцтве царкоўнымі справамі пры двары патрыярха з тытулам пратасінкела. У 1592 г. сінод усходніх патрыярхаў прызнаў яго годным патрыяршай кампетэнцыі і даў яму права засядаць нароўні з патрыярхамі. Як патрыяршы намеснік быў накіраваны ў Малдавію, адкуль кн. Астрожскі запрасіў Нікіфара прыехаць на Брэсцкі сінод. Але па дарозе з Малдавіі на Валынь пратасінкел быў арыштаваны каронным канцлерам Янам Замойскім як «шпіён на карысць Турцыі». Нікіфару ўдалося ўцячы з-пад арышту і разам з кн. Астрожскім прыняць удзел у рабоце праваслаўнай часткі Брэсцкага сінода 1596 г. У Брэсце прадстаўнікі каралеўскага ўрада зноў арыштавалі Нікіфара і пасадзілі яго ў Марыенбурскі замак, дзе ён у хуткім часе памёр.

207 *Гаўрыіл* — архіепіскап охрыдскі, які па прыездзе ў Рэч Паспалітую сам прысвоіў сабе тытул патрыярха канстанцінопальскага і займаўся гандлярскімі справамі, якія былі не да твару яму як духоўнай асобе высокага сану.

208 Маецца на ўвазе *Бернард Мацяёўскі* (1548—1608) — выхаванец вядомага каталіцкага пісьменніка-палеміста Бенедыкта Гербеста (1531—1584). Пасля замежнага падарожжа Б. Мацяёўскі пэўны час быў каронным харунжым. За ваенныя подзвігі атрымаў ад караля Баляслаўскае староства. У 1582 г. адмовіўся ад свецкага жыцця і ўсю сваю маёмасць аддаў езуітам, а сам накіраваўся ў Рым. Там паступіў у іх ордэн і прайшоў адпаведную падрыхтоўку. Пасля вяртання з падарожжа ў хуткім часе стаў біскупам луцкім, потым кракаўскім, гнезненскім. Як біскуп гнезненскі Б. Мацяёўскі быў узведзены ў духоўны сан кардынала і, такім чынам, стаў прымасам Рэчы Паспалітай. У 1603 г. ён выдаў у Кракаве на лацінскай мове «Індэкс забароненых кніг», у дадатку да якога змясціў рэестр аўтараў і кніг, апублікаваных ў Рэчы Паспалітай.

209 Маецца на ўвазе *Мікалай Крыштоф Радзівіл,* празваны Сіроткай (1549—1616),— князь на Алыцы і Нясвіжы, сын маршалка і канцлера Вял. кн. Літоўскага Мікалая Радзівіла Чорнага. Сваю дзейнасць пачаў з ваеннай службы. Потым з 20.VI 1569 г. быў каралеўскім надворным маршалкам, з 25.X 1579 г.— маршалкам земскім, з 1.VI 1586 г. — кашталянам трокскім, з 10.VIII 1590 г. — ваяводам трокскім і нарэшце ваяводам віленскім з 26.III 1604 г. Як заўзяты католік падтрымліваў караля Сігізмунда III Вазу ў справах царкоўнай уніі. У 1606 г. падаўляў шляхецкі рокаш, узняты М. Зэбжыдоўскім і Я. Радзівілам. Умацаваў Нясвіж, пабудаваў у ім фарны касцёл для езуітаў, закладваў манастыры і будаваў дарогі. Пасля Лівонскай вайны ажыццявіў падарожжа ў Палесціну і Егіпет (1582—1584) і зрабіў апісанне «святых месцаў», якое яшчэ пры яго жыцці было перакладзена і выдадзена спачатку на лацінскай, а потым на нямецкай мовах. З часу арганізацыі Віленскай акадэміі (1579) з'яўляўся яе мецэнатам і апекуном бедных студэнтаў. У час работы Брэсцкага сінода 1596 г. па просьбе караля сачыў за грамадскім парадкам.

[210] Канцлерам у гэты час быў Леў Сапега.

[211] Пасаду падскарбія Вял. кн. Літоўскага тады займаў *Дзімітрый Іосіфавіч Халецкі* (? — 1598), каралеўскі дваранін, які 4.IV 1590 г. змяніў Фёдара Скуміна на ўрадзе падскарбія земскага. Будучы разам з тым і старастам брэсцкім, Халецкі забараніў сваім падначаленым прымаць у мясцовыя гарадскія актавыя кнігі пратэст праваслаўных супраць дзеянняў Брэсцкага (уніяцкага) сінода.

[212] Маршалкам духоўнага кола быў абраны заблудаўскі пратапоп Нестар.

[213] Маецца на ўвазе меншы сын К. К. Астрожскага кн. *Аляксандр Астрожскі* (? — 12.XII 1603), прызначаны 6.V 1593 г. ваяводам валынскім.

[214] Маюцца на ўвазе Леў Сапега і Дзімітрый Халецкі.

[215] Высветліць персанальна пасłоў ад шляхты і гараджан не ўдалося, а што датычыцца паслоў ад духавенства, дык імі былі Нікіфар, архімандрыт кіеўскі; Генадзій, архімандрыт дзерманскі; Ігнацій, прымікіры (г. зн. старшыня.— *А. К.*) і Дзям'ян, свяшчэннікі астрожскія; Іван, пратапоп шчырэцкі; Андрэй, прэсвітэр львоўскі, а ў якасці сакратара Грыгорый Загароўскі, які потым пад імем Гермагена стаў полацкім уніяцкім епіскапам.

[216] *Якуб Прэтфіч* (? — 1613) — кашталян камянецкі з 1593 да 1607 г., потым ваявода падольскі. Праславіўся ў рыцарскіх справах.

[217] Размова ідзе пра кн. *Яна Шуйскага* (? — 3.II 1610) — унука Івана Дзімітрыевіча Шуйскага, які ў 1534 г. уцёк з Масквы ў Вял. кн. Літоўскае і асеў там на пастаяннае месцажыхарства. Ян Шуйскі ў 1589—1590 гг. быў рэвізорам Брэсцкага староства, у 1592 г. ужо не толькі рэвізорам, але і намеснікам брэсцкага старасты, а 15.VI 1596 г., пасля смерці Мікалая Паца, атрымаў каралеўскі прывілей на пасаду падкаморыя брэсцкага, якую займаў да канца жыцця. Пасля сябе пакінуў 6 сыноў і адну дачку. Яго пераемнікам на пасадзе падкаморыя стаў Лукаш Капец.

[218] *Інстыгатар* — ураднік, у абавязак якога ўваходзіла быць абвінаваўцам у тых справах, якія не падлягалі акрэсленаму ў судзе праву і цягнулі за сабой злачынства. Апрача абвінаваўчых функцый, інстыгатару належала ўносіць скаргі аб здрадзе краю і дзяржаве, аб абразе каралеўскага трона, сачыць за дзейнасцю падскарбія, стараст і наогул усіх шляхецкіх саноўнікаў, клапаціцца пра інтарэсы караля, дзяржавы і ўсяго шляхецкага стана. Інстыгатарам Вял. кн. Літоўскага з 1586 г. быў Ян Камянецкі.

[219] *Дзям'ян Гулевіч* — валынскі дэпутат, які ў час работы Брэсцкага праваслаўнага сінода ўзначальваў шляхецкае кола. І хоць ён прытрымліваўся праваслаўнага веравызнання, уніяцкі лагер не пераставаў яго абвінавачваць у схільнасці да пратэстантызму, паколькі ў шляхецкім коле, якое ён узначальваў, на гэтым сінодзе знаходзіліся і прадстаўнікі пратэстанцкага (кальвінісцкага) веравызнання, якія блакіраваліся з праваслаўнымі супраць каталіцкага дыктату ў справах веры.

[220] Новахрышчэнцамі называліся прадстаўнікі пратэстанцкай плыні, вядомай пад назваю анабаптызму. Прыхільнікаў гэтай секты празвалі новахрышчэнцамі за тое, што яны незалежна ад хрышчэння ў дзіцячым узросце паўтаралі працэс хрышчэння пры дасягненні сталага ўзросту.

Евангелікамі ж называліся пратэстанты лютаранска-кальвінісцкага толку.

221 Ніякага падканцлера на Брэсцкім царкоўным сінодзе не было, бо размова ідзе пра М. К. Радзівіла, Л. І. Сапегу і Д. І. Халецкага. Апошні з іх з'яўляўся падскарбіем земскім, а таму замест слова «падканцлерий» трэба чытаць «подскарбий».

222 Фраза памылковая, трэба чытаць: «...и ишли они у покой до княжати».

223 У рукапісу апіска: «зъехалсе».

224 Тут аўтар запісаў кажа пра сябе. Крыху ніжэй ён вуснамі Халецкага называе сябе прадстаўніком пана ваяводы смаленскага. Ваяводам смаленскім у 1596 г. быў прызначаны кальвініст *Ян Абрамовіч* (? — 19.IV 1602), былы ваявода мінскі (з 22.VI 1593 г.). Як кальвініст, Ян Абрамовіч горача абараняў сваё веравызнанне, сябраваў са славутым кальвінісцкім дзеячом Андрэем Валанам, трымаў на свой кошт некалькі соцень стыпендыятаў і выступаў у саюзе з праваслаўнымі супраць каталіцкай рэакцыі. Але хто быў яго ўпаўнаважаным прадстаўніком на Брэсцкім (праваслаўным) сінодзе 1596 г., за адсутнасцю даных вызначыць цяжка.

225 *Валынь* — тэрыторыя ўкраінскіх зямель, якая атрымала назву ад зараз не існуючага г. Валынь. Яна ахоплівала ўсё сучаснае ўкраінскае Палессе і займала тэрыторыю цяперашніх Валынскай, Ровенскай, частку Цярнопальскай, Хмяльніцкай, значную частку Жытомірскай абласцей Украіны і значную частку беларускага Палесся ў Брэсцкай вобл.

226 *Падолія* — вялізная тэрыторыя ўкраінскіх зямель па рр. Днестр і Паўднёвы Буг, якую грэчаскія гісторыкі называлі Вялікай Скіфіяй. Яна займала тэрыторыю сучасных Цярнопальскай, Хмяльніцкай і значную частку Вінніцкай абласцей.

227 *Падгор'е* — паўднёва-заходняя частка Галіцыі на правым беразе Віслы, якая прылягае да Карпацкіх гор.

228 Тут маецца на ўвазе так званая Чырвоная Русь, тэрыторыя былога Рускага ваяводства, якое займала тэрыторыю Усходняй Галіцыі і складалася з 6 паветаў: Галіцкага, Перамышльскага (Пшэмысльскага), Саноцкага, Жыдачоўскага, Хелмскага і Бэлзскага; апошні павет уключаў частку сучасных Валынскай і Львоўскай абласцей.

229 *Літва* — тут назва Вял. кн. Літоўскага, у складзе якога пасля Люблінскай уніі 1569 г. апрача ўласна літоўскай тэрыторыі знаходзіліся беларускія і частка сучасных рускіх зямель.

230 *Перамышль* (Пшемысль) — старажытны польскі горад на правым беразе р. Сан. Упершыню ўпамінаецца ў 908 г. З канца XI ст. стаў цэнтрам удзельнага рускага княства Расціславічаў, якія перанеслі потым цэнтр княства ў г. Галіч. З XIV ст. Перамышль уваходзіў у склад Рускага ваяводства.

231 *Пінск* — старажытны беларускі горад пры зліцці рр. Струмень і Піны (левы прыток Прыпяці). Першыя пісьмовыя звесткі аб ім адносяцца да 1097 г., калі ён належаў вялікаму кіеўскаму кн. Святаполку і ўваходзіў у склад Турава-Пінскага княства. Пасля 1240 г. стаў цэнтрам самастойнага ўдзельнага княства і адыгрываў значную ролю ў справах галіцкіх. Гедымін далучыў Пінск да Літвы і перадаў яго ва ўладанне свайму сыну Нарымунту. З 1471 да 1519 г. Пінск быў уладаннем нашчадкаў кіеўскага кн. Сямёна Алелькавіча, пасля стаў маёмасцю караля Сігізмунда I Старога, які падараваў яго сваёй жонцы Боне Сфорцы. З 1569 г. Пінск стаў цэнтрам павета.

232 Маецца на ўвазе Якуб Прэтфіч.

233 Маецца на ўвазе кн. А. К. Астрожскі.

234 Паводле пратакольнай справаздачы, вядомай пад назвай «Ектэзіс» (1597), пасламі праваслаўнага духавенства да мітрапаліта і епіскапаў на другі дзень работы Брэсцкага праваслаўнага сінода 1596 г. выступалі пінскі архімандрыт Елісей, дубенскі архімандрыт Васіль, супрасльскі архімандрыт Іларыён, камянецкі пратапоп Кляменцій, яраслаўскі пратапоп Іван і львоўскі прэсвітэр Андрэй Вазнясенскі, які да таго ж выконваў яшчэ і абавязкі натарыуса (г. зн. пісара-пратакаліста). У склад трэцяга пасольства да уніятаў уваходзілі кіеўскі архімандрыт Нікіфар, дзерманскі архімандрыт Генадзій, перасопніцкі архімандрыт Семіон і чатыры пратапопы — Герасім Сокальскі, Андрэй Канстанцінаўскі, Канстанцін Дубенскі і Клім Камянецкі, а ў якасці пісара-пратакаліста — Грыгорый з першага пасольства.

235 *Лаўрэнцій Дравінскі* — валынскі падчашы, з пачатку XVII ст. адзін з заўзятых абаронцаў украінскай народнасці і праваслаўнага веравызнання ў Рэчы Паспалітай, неаднаразовы сеймавы дэпутат ад луцкай шляхты. На сеймах доўгі час выяваў супраць уніі, не шкадаваў грошай на цэрквы і для стаўрапігіяльнага Луцкага брацтва. Як пісьменнік-палеміст набыў шырокую вядомасць сваёй «Прамовай» на Варшаўскім вальным сейме 1620 г. у абарону праваслаўя.

236 Асобу пісара высветліць не ўдалося.

237 Маецца на ўвазе патрыяршы екзарх Нікіфар (аб ім гл. № 206).

238 *«Пан маршалок теж наш усказал до канцлера, иж есте, панове литва, стратили — тым преводим не мало панства до Полски»* — тут Дзям'ян Гулевіч робіць намёк Льву Сапегу на выніку Люблінскага сейма 1569 г., у час якога польскія дэпутаты ў саюзе з каралём Сігізмундам II Аўгустам, для таго каб прымусіць прадстаўнікоў Вял. кн. Літоўскага на дзяржаўную унію, аднялі ад княства і паставілі пад сваю юрысдыкцыю Падляшша (Падлессе), Валынь і Кіеўшчыну.

239 Маецца на ўвазе Белгарад-Дняпроўскі.

240 Маецца на ўвазе Стэфан Зізаній, з якога Брэсцкі (праваслаўны) сінод зняў анафему, накладзеную на яго мітрапалітам Міхаілам Рагозаю на Навагрудскім саборы 1596 г., які папярэднічаў царкоўнай уніі.

241 *Вываланцы* — людзі, адлучаныя ад царквы.

242 *Азар Пратасы* — свецкае імя патрыяршага екзарха Нікіфара.

243 *«...первоседалник по патриарсе»* — г. зн. першая асоба ў патрыяршай акрузе пасля патрыярха, першы намеснік патрыярха.

244 У лік чатырох усяленскіх праваслаўных патрыярхаў тады ўваходзілі патрыярхі Канстанцінопаля, Александрыі, Антыёхіі і Ерусаліма. Паўнамоцнай асобай ад іх імя на Брэсцкім памесным саборы 1596 г. па справах праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай і выступаў пратасінкел Нікіфар.

245 Гэтым выразам аўтар запісаў падкрэслівае, што такое прадстаўнічае пасольства да мітрапаліта і яго паплечнікаў ад праваслаўнай часткі Брэсцкага сабора мела заданне заявіць прыхільнікам царкоўнай уніі рашучы пратэст, засведчаны высокім для ўсёй праваслаўнай царквы аўтарытэтам паўнамоцных асоб канстанцінопальскага і александрыйскага патрыярхаў.

[246] Генераламі тады называлі старшых над пасланнікамі для выканання таго або іншага ўрадавага, а ў дадзеным выпадку грамадскага даручэння.

[247] Гайдукамі ў Рэчы Паспалітай называлі наёмных салдат венгерскай пяхоты.

[248] Маюцца на ўвазе мітрапаліт М. Рагоза і епіскапы-уніяты І. Пацей, К. Тарлецкі, Д. Збіруйскі і Іона Гогаль.

[249] Маецца на ўвазе *Ян Дзімітрый Салікоўскі* (1539—1603) —польскі дзяржаўны і царкоўны дзеяч, дыпламат, які ажыццявіў 24 пасольскія місіі, пісьменнік-лацініст, з шматлікіх твораў якога асабліва вылучаюцца «Каментарыі», дзе пададзен дзённік падзей з 1572 да 1590 г. Пасля службы пры дварах тагачасных вяльмож Якуба Уханскага, Валянціна Дэмбінскага, Яна Хадкевіча, Я. Д. Салікоўскі быў каралеўскім сакратаром у Сігізмунда ІІ Аўгуста і Стэфана Баторыя. Апошні падараваў яму спачатку Вахаўскае, потым Сецяхоўскае абацтвы, а ў 1583 г. архіепіскапскую кафедру ў Львове.

[250] Маецца на ўвазе Бернард Мацяёўскі.

[251] *Пётр Скарга* (1536 — 27.IX 1612) — царкоўна-рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, тэолаг і публіцыст, пачынальнік польскай аратарскай прозы. Адукацыю атрымаў у Кракаве, Вене і Рыме. У 1568 г. стаў езуітам. З 1573 г. упарты барацьбіт супраць Рэфармацыі ў Беларусі і Літве. З 1579 да 1584 г. быў рэктарам Віленскай акадэміі, а з 1584 г. — Кракаўскай; ініцыятар і прапагандыст Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г., аўтар рада рэлігійна-палітычных твораў. Будучы прыхільнікам неабмежаванай манархіі, ганьбаваў шляхту за злоўжыванне саслоўнымі прывілеямі, патрабаваў падпарадкавання свецкай улады царкоўнай, а караля — папе рымскаму.

[252] *Алтар* — частка царкоўнага храма за іканастасам, дзе знаходзіцца прастол.

[253] *«Певне не тот, што мел у голову заходити»* — метафарычны выраз, які азначае, што гэты чалавек не вар'ят.

[254] *Чарнаўчыцы* — вёска на адлегласці каля 17 км на поўнач ад Брэста. Спачатку былі спадчынай князёў Іллінічаў, а потым Радзівілаў, адзін з якіх (Мікалай Радзівіл Сіротка) пабудаваў тут у 1585 г. касцёл і замак Туру, разбураны ў 1761 г.

[255] У рукапісу напісана: «Тулевіча».

[256] Асобу Еламалінскага нам высветліць не ўдалося.

[257] Маецца на ўвазе *Марцін Бранеўскі* (? — 1624) — царкоўна-рэлігійны і грамадска-палітычны дзеяч канца XVI — першай чвэрці XVII ст., удзельнік сеймавай барацьбы 1597 г., які выступаў у абарону рэлігійнай талерантнасці. Яму прыпісваецца аўтарства славутага палемічнага твора «Апокрысіс», выдадзенага ў 1597 і 1599 гг. пад псеўданімам Хрыстафор Філалет.

[258] Тут у рукапісу пакінута месца на 5 радкоў тэксту на л. 151 адв. і на столькі ж радкоў на л. 152.

[259] Тут, відаць, размова ідзе пра паўстанне казакаў пад кіраўніцтвам Крыштофа Касінскага.

[260] *Чарнігаў* — старажытны ўкраінскі горад на правым беразе Дзясны (левы прыток Дняпра), вядомы ўжо з X ст. Яго росквіт прыпадае на XI ст. У XIV ст. Чарнігаў трапіў пад уладу Вял. кн. Літоўскага, а ў XV ст. — Маскоўскага княства. З 1619 да 1648 г. знаходзіўся пад уладай Рэчы Паспалітай.

261 *Гомель*—старажытны беларускі горад на правым беразе р. Сож (левы прыток Дняпра). Летапіснае ўпамінанне аб ім (як Гомею, Гомію, Гоміну, Гомі, Гомлі) адносіцца да 1142 г. У XV ст. Гомель ужо цэнтр аднаго з буйнейшых па тых часах староства Вял. кн. Літоўскага, якое даравалася каралём у якасці ўзнагароды тагачасным вяльможам.

262 *Любеч* — мястэчка непадалёку ад Чарнігава. У старажытныя часы быў горадам, які да заваявання яго кн. Алегам (882) плаціў дань хазарам. Квітнеючы да XII ст., Любеч пасля нашэсця татара-манголаў запусцеў і на працягу некалькіх стагоддзяў яго назва ў пісьмовых крыніцах нават і не ўпаміналася. У часы Рэчы Паспалітай стаў цэнтрам староства, якое тады разам з беларускім мястэчкам Лоевам належала Кіеўскаму ваяводству.

263 *Белая Цэркаў* — старажытны ўкраінскі горад на р. Росі (правы прыток Дняпра). Мяркуюць, што ён узнік на месцы г. Юр'ева, заснаванага яшчэ Яраславам Мудрым. Першыя пісьмовыя звесткі пра яго адносяцца да 1155 г. У часы татара-мангольскага нашэсця быў разбураны. Пасля аднаўлення ў XVI ст. стаў цэнтрам староства, і яго жыхары карысталіся гарадскімі правамі. З 1584 г. Белая Цэркаў належала кн. Астрожскаму.

264 *Пераяслаў* (зараз Пераяслаў-Хмяльніцкі) — старажытны горад на рр. Альце і Трубеж непадалёку ад Кіева, заснаваны ў 993 г. кн. Уладзімірам з выпадку атрыманай тут перамогі над печанегамі. Пасля Яраслава Мудрага (1054) быў стольным горадам удзельнага княства, галоўная частка якога была далучана Гедымінам да Літвы ў 1320 г., а ў 1386 г. перайшла пад уладу Польшчы.

265 *Стрэшын* — старажытны гарадскі пасёлак на правым беразе Дняпра непадалёку ад Жлобіна. У летапісах упамінаецца ўжо ў часы ўдзельных міжусобіц. Да сярэдзіны XII ст. належаў Полацкаму княству, а пасля Чарнігаўскаму. Да 1399 г. Стрэшын знаходзіўся ў ліку гарадоў Кіеўскага ўдзела, а потым быў прыпісаны да ўладанняў віленскага каноніка. Як пагранічны з Рускай дзяржавай горад, Стрэшын у XVI—XVIII стст. часта быў арэнаю ваенных дзеянняў.

266 *Рэчыца* — старажытны беларускі горад на правым беразе Дняпра. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім адносіцца да 1214 г. З XIV ст. у складзе Вял. кн. Літоўскага. У другой палавіне XVI ст. каралеўская эканомія, якая ў 1589 г. стала староствам.

267 *Рагачоў* — старажытны беларускі горад на правым беразе Дняпра пры ўпадзенні ў яго Друці. У канцы XIII ст. увайшоў у склад Вял. кн. Літоўскага. Да XVI ст. належаў пінскім князям, а ў 1509 г. па духоўнаму завяшчанню апошніх іх нашчадкаў перайшоў у каралеўскае ўладанне Сігізмунда I Старога і яго сына Сігізмунда Аўгуста. Як пагранічны з Расіяй горад, Рагачоў неаднойчы з'яўляўся арэнай ваенных дзеянняў у XVI і XVII стст. У канцы XVI ст. у яго ваколіцах дзейнічалі казацка-сялянскія атрады Налівайкі і Дубіны.

268 *Крычаў* — горад на правым беразе р. Сож (левы прыток Дняпра) непадалёку ад Магілёва. Першае пісьмовае ўпамінанне аб ім адносіцца да 1150 г., калі ён належаў Смаленскаму княству. У XV ст. ужо знаходзіўся пад уладай Вял. кн. Літоўскага. У Рэчы Паспалітай крычаўскі замак быў месцам зняволення палітычных вязняў і бунтуючай шляхты.

269 *«...у в одного мужа северскаго»* — г. зн. у аднаго чалавека з ноўгарад-северскай мясцовасці (Чарнігаўшчына).

270 Тут дапушчаны 2 памылкі: 1) у падачы прозвішча пераемніка Феафана на Полацкай епіскапії аўтар запісаў, ці, дакладней, перапісчык, замест Нафанаіла Сяліцкага называе Нафанаіла Тарлецкага. Былы каралеўскі ротмістр Нафанаіл Сяліцкі быў епіскапам полацкім з 1592 г. да верасня 1595 г.; 2) ініцыятарам карыстання ў Полацкай епіскапіі новым календаром Нафанаіл Сяліцкі быць не мог таму, што ўвядзенне новага календара пачалося за 9 год да яго епіскапства.

271 З гэтай рэплікі перапісчыка хронікі вынікае, што к яго часу імя заканадаўца каляндарнай рэформы ўжо было забыта.

272 *Майсей* — імя біблейскага прарока, якому царква прыпісвае мноства цудаў і аўтарства першых 5 кніжак Бібліі, а іменна: «Быцця», «Зыходу», «Лявіта», «Лікаў» і «Другазаконня».

273 *Ісус Хрыстос* — міфічная асоба, узведзеная царквою ў ранг 2-й гіпастасіі «святыя троіцы» — бога-сына, з імем якога ў хрысціянскіх царквах звязан рад рэлігійных свят.

274 З гэтага сказа вынікае, што аўтару запісаў хронікі нібыта з прычыны вялікай канспірацыі было невядома, каму належала ініцыятыва ўвядзення новага календара і чым яна была выклікана. Не разумеючы сутнасці каляндарнай рэформы, ён не прымае яе і ўсё, што выходзіла за рамкі яго прывычных уяўленняў, імкнецца паказаць як «кару бога» за адхіленне ад яго волі.

275 Г. зн. у першай палавіне кастрычніка.

276 Размова ідзе пра закладку фарнага (г. зн. прыходскага) касцёла, будаўніцтва якога было завершана ў 1614 г. Касцёл да нашага часу не захаваўся.

277 Размова ідзе пра царкву, якая ўжо была пабудавана на Ільінскай гары ў Магілёве.

278 *Замёт* — глухая сцяна з бярвенняў каля якога-небудзь будынка.

279 Відаць, маецца на ўвазе полацкі епіскап Афанасій Тарлецкі.

280 Асобу Астравінскага высветліць не ўдалося.

281 *Паланея Васільеўна Крошынская* (? — 17.XII 1594) — княжна, у 1551 г. стала жонкаю Баркулаба Корсака, старасты дзісенскага. Ёй належалі Асташына і Кроштаў у Навагрудскім ваяводстве, якія яна адпісала сваёй дачцы Еве Баркулабаўне. У 1579 г. прадала свой дом у Магілёве. У 1582 г. судзілася за Баркулабава і Сідаравічы, а з кашталянам люблінскім А. П. Фірлеем за Пашкавічы.

282 *«И похована того ж року месяца мая в неделю середопостную»* — г. зн. і пахавана ў тым жа годзе ў маі месяцы ў сярэдзіне пятроўскага посту.

283 *Крылас* (правільна — клірас) — г. зн. тое месца ў царкве, дзе размяшчаецца хор у час багаслужэння (ёсць левы і правы клірас).

284 У дадзеным выпадку размова можа ісці толькі пра смерць полацкага епіскапа Нафанаіла Сяліцкага, імя і прозвішча якога аўтар запісаў блытае (гл. № 270). Пад святам, пасля якога настала смерць гэтага епіскапа, маецца на ўвазе ражство Ісуса Хрыста.

285 Зблытаўшы імёны і прозвішчы епіскапаў, аўтар запісаў прыпісвае Афанасію Тарлецкаму польскае паходжанне і карыстанне новым календаром, хоць той быў праваслаўным і варожа ставіўся да каляндарнай рэформы папы рымскага.

286 *Севярын Налівайка* (? — 11.IV 1597) — вядомы кіраўнік казацка-сялянскага паўстання на Украіне і ў Беларусі ў 1594—1596 гг., сын гусяцінскага мешчаніна. Пэўны час служыў у войску валынскага ваяводы кн. К. К. Астрожскага, прымаў удзел у ваенных паходах у Малдавію супраць татара-турэцкіх агрэсараў. З войскам К. К. Аст-

рожскага падаўляў паўстанне Крыштофа Касінскага. Пасля малдаўскага паходу, помсцячы багатаму ўладальніку Гусяціна, Гумінца, Няфёдаўкі, Дземаноўкі і іншых маёнткаў Марціну Каліноўскаму за забойства свайго бацькі, падняў паўстанне. У маі 1596 г. асаджаныя каралеўскім войскам пад Лубнамі казакі ў разліку на амністыю для сябе выдалі Налівайку гетману кароннага войска Станіславу Жулкеўскаму. Пасля жорсткіх катаванняў яго 11.IV 1597 г. чвартавалі ў Варшаве.

[287] *Крыштоф Радзівіл* (1547 — 20.XI 1603) — сын віленскага ваяводы, канцлера і гетмана Мікалая Радзівіла Рыжага, за свой ваенны талент празваны Перуном. Службовую кар'еру пачаў у 1566 г. з пасады крайчага, потым быў падчашым (1569—1576), гетманам дворным (1572), гетманам польным (1578—1589), падканцлерам (1579—1584) і адначасова (з 10.X 1579) кашталянам трокскім, а з 18.IV 1589 г. стаў гетманам вялікім. Як гетман польны ўдзельнічаў ва ўсіх ваенных паходах. Будучы кальвіністам, у саюзе з кн. К. К. Астрожскім выступаў супраць Брэсцкай царкоўнай уніі.

[288] Асобу Мікалая Буйвіда высветліць не ўдалося.

[289] *Грыгорый Уніхоўскі* (у рукапісу Анюхоўскі) — шляхціц Навагрудскага ваяводства, з 1589 г. быў зборшчыкам падаткаў у сваім ваяводстве. Яго радавым маёнткам з'яўлялася Уніхова (зараз вёска Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.) на паўднёвым захадзе ад Карэліч. Пасяленне гэта вядома яшчэ з часоў каранацыі Сігізмунда Кейстутавіча, да 1568 г. было ўласнасцю багатага рода Іллінічаў, ад якіх потым перайшло да Цімафея Крышлоўскага, а ад яго ў канцы XVI ст. да Уніхоўскіх.

[290] *Быхаў* — горад на правым беразе Дняпра, цэнтр р-на ў Магілёўскай вобл. Пад назваю Стары Быхаў вядомы з XIV ст. У другой палавіне XVI ст. належаў магнацкаму роду Хадкевічаў, якія пазней пабудавалі тут адну з мацнейшых крэпасцей Беларусі на граніцы з Рускай дзяржавай.

[291] *Навагрудак* — старажытны беларускі горад, вядомы з часоў Яраслава Мудрага, зараз цэнтр р-на Гродзенскай вобл. Першае летапіснае ўпамінанне аб Навагрудку датуецца 1252 г., калі тут ужо была рэзідэнцыя вял. кн. літоўскага Міндоўга. Пасля 1394 г. адзін з цэнтраў велікакняжаскага дамена, з 1415 г. рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта Вял. кн. Літоўскага, з 1[illegible] г. цэнтр ваяводства. З 1581 да 1775 г. быў месцам збораў Трыбунала, які склікаўся тут праз кожныя 2 гады. За гісторыю свайго існавання неаднаразова падвяргаўся нападам і разбурэнню.

[292] *Лубны* — украінскае старажытнае пасяленне на правым беразе Сулы, вядомае з XII ст. Потым звесткі аб ім знікаюць да канца XVI ст., калі кн. Вішнявецкі пабудаваў тут горад, якім ён валодаў да 1648 г.

[293] *Сула* — левы прыток Дняпра.

[294] *Пратапопініч* — сын пратапопа.

[295] Маюцца на ўвазе Кірыла Тарлецкі, Іпацій Пацей і Германен (Грыгорый Загароўскі).

[296] Відаць перапісчыкам хронікі тут прапушчаны словы «до унии».

[297] Асобу патрыярха Гаўрыіла высветліць не ўдалося.

[298] *«...в пяток великий»* — г. зн. у пятніцу перад вялікаднем.

[299] *«...по святе велебном»* — г. зн. пасля вялікадня.

[300] Пасля гэтага сказа ў рукапісу пакінуты пропуск на два з палавінаю радкі тэксту.

[301] *Пратасінкел* — самая блізкая і давераная асоба патрыярха.
[302] *Ерэй* — назва прэсвітэра. Літаральна — свяшчэннік (поп).
[303] *Дыякан* — ніжэйшая ступень свяшчэнніка, памочнік папа (ксяндза).
[304] *Епархія* — царкоўна-адміністрацыйная адзінка (акруга), якой кіруе архіерэй, г. зн. епіскап.
[305] *Радыён* — мінскі пратапоп, якога екзарх і пратасінкел канстанцінопальскага патрыярха Нікіфар (Азар Пратасый) на Брэсцкім (праваслаўным) сінодзе надзяліў правамі епіскапа.
[306] *Пратапоп* — давераная асоба архіерэя (епіскапа), старшы са свяшчэннікаў (папоў) пэўнай царкоўнай акругі.
[307] Звестак пра мітрапаліта сербскага, які быў удзельнікам Брэсцкага (праваслаўнага) сінода, знайсці не ўдалося.
[308] Маецца на ўвазе *Міхаіл Капысценскі*, які, будучы жанатым чалавекам, апынуўся на епіскапскай кафедры супраць волі патрыярха. Няўпэўнена адчуваючы сябе ў епіскапскім сане, ён гатовы быў перабегчы ў лагер уніятаў.
[309] *Нікіфар Тур* — архімандрыт Кіева-Пячэрскага манастыра з 1588 да 1617 г., стаў ім, яшчэ не будучы манахам. Як блізкі да Гедыёна Балабана чалавек, ён, па сведчанню дасланага каралю акта Львоўскага сінода, яшчэ ў сакавіку 1595 г. гатовы быў разам са сваім аднадумцам перайсці ў лагер уніятаў, але ў рашучы момант на Брэсцкім сінодзе 1596 г. адмовіўся ад такога намеру.
[310] *Кіева-Пячэрскі манастыр* — самы багаты манастыр ва ўсёй Кіеўскай мітраполіі. Узнік у сярэдзіне XI ст. у часы княжання Ізяслава, які падараваў пустэльнікам Пячэрскую гару для пабудовы там манастыра. У першай палавіне XII ст. гэты нагорны манастыр атрымаў ступень лаўры. У XVI ст. кароль Сігізмунд II Аўгуст прызнаў яе старажытныя правы. У пачатку XVII ст. у лаўры ўжо існавалі друкарня і школа іканапісцаў.
[311] *Лаўрэнцій Зізаній-Тустаноўскі* (? — 1634) — брат Стэфана Зізанія, беларускі педагог, царкоўны дзеяч, перакладчык. Працаваў выкладчыкам брацкіх школ у Львове, Вільні, дамашнім настаўнікам у Б. Саламярэцкага, у кн. Аляксандра Астрожскага і ў кн. Яна Карэцкага да 1618 г. У 1619 г. пераехаў у Кіева-Пячэрскую лаўру, адкуль у 1626 г. ездзіў у Маскву, куды вазіў свой «Катэхізіс», напісаны па заказу мітрапаліта Філарэта Раманава. Але там яго «Катэхізіс» быў абвешчаны ерэтычным. Пяру Л. Зізанія належыць буквар «Наука ку читаню и розуменю писма словенскаго» (Вільня, 1596) і «Грамматика словенска» (Вільня, 1596), да якой у якасці дадатку быў складзены яшчэ і слоўнік («Лексіс»). Яго слоўнік пазней паслужыў асновай для «Лексиса» Памвы Бярынды.
[312] Тут перапісчык «Баркулабаўскай хронікі» памыляецца, бо, як сведчыць ранейшы запіс (гл. № 162) у самім тэксце хронікі, нарадзіўся Багдан Багданавіч Саламярэцкі 30.V 1589 г. Дзяржаўных пасад ён ніякіх не займаў, відаць, з прычыны псіхічнай хваробы, на якую захварэў у 1618 г., і да ачуняння ў 1626 г. сам знаходзіўся пад апекаю маці і швагроў. Па праву спадчыны з 1626 г. валодаў матчынымі маёнткамі: Сёмкавым Гарадком, Саламярэччам, якое потым перайшло да сястры Алены Стэткевіч-Саламярэцкай, і Баркулабавам. У апошнім заснаваў манастыр, да якога адпісаў сёлы Касцянку, Воранаўку і Стайкі. Памёр каля 1630 г.
[313] *Кір* — тытул вышэйшых праваслаўных духоўных саноўнікаў (патрыярхаў).

[314] *Рафаіл* — патрыярх канстанцінопальскі да 1608 г.

[315] *Панкова* (Паньков) і *Навасёлкі* — населеныя пункты непадалёку ад Бялыніч.

[316] *Дашкаўка* — невялічкая рэчка ў Магілёўскім р-не, правы прыток Дняпра.

[317] *Багданава, або Багданава Слабада* — населены пункт, які пазней быў перайменаваны ў Дашкаўку. Знаходзіцца ў паўднёвай частцы сучаснага Магілёўскага р-на непадалёку ад Быхава. У XVIII ст. Дашкаўка была ўжо мястэчкам.

[318] Пасля гэтага слова ў рукапісу пропуск на 4—5 літар.

[319] *Харунжы* — афіцыйны саноўнік Рэчы Паспалітай, у абавязак якога ўваходзіла быць сцяганосцам пэўнай тэрытарыяльнай адзінкі (земства) або дзяржаўнага войска («харунжы вялікі»).

[320] *Пётр Жыжэмскі* (? — 1618) — князь, старэйшы сын старасты рэчыцкага кн. Яраша Жыжэмскага і кн. Багданы Друцкай-Горскай, старастам стаў пасля смерці бацькі (7.II 1589). У 1598 г. прымаў удзел у віленскім з'ездзе праціўнікаў уніі. У 1609 г. быў соймавым камісарам па размежаванню Рэчыцкага павета з Аршанскім. Пасля сябе пакінуў трох сыноў — Крыштофа, Адама і Яна.

[321] *«...по святом Крещении»* — г. зн. пасля царкоўна-рэлігійнага свята вадахрэста, а дакладней — пасля 6(19) студзеня. У каталіцкай царкве вадахрэст называецца святам трох крулеў.

[322] *Талер* — нямецкая сярэбраная манета. Да грашовай рэформы 1907 г. вартасцю ў 3 маркі. У Рэчы Паспалітай адзін талер у 1576 г. адпавядаў 33 польскім грошам.

[323] *Капа* — старая ўсходнеславянская лічба, роўная 6 дзесяткам.

[324] *Зямяне* — дробнапамесная шляхта ў Рэчы Паспалітай.

[325] У рукапісу ў гэтым слове зроблена памылка: «прещена».

[326] Святой нядзеляй на царкоўных праваслаўных святцах лічыцца першы тыдзень пасля вясенняга свята вялікадня.

[327] *«...месяца апреля у понеделок, на святага Мартина, папы римъского»* — тут аўтар запісаў дапусціў блытаніцу, бо, паводле каталіцкіх святцаў, дзень св. Марціна адзначаецца не ў красавіку, а 11 лістапада.

[328] *Максім Герасімавіч Сматрыцкі* (1572—1630) — беларуска-ўкраінскі царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік-палеміст, аўтар славянскай граматыкі (1618), якую М. В. Ламаносаў назваў «вратами своей учености». Яму належыць рад цікавых палемічных твораў, напісаных у абарону праваслаўя супраць царкоўнай уніі 1596 г. У 1617 г. пастрыгся ў манахі пад імем Мялеція і ў хуткім часе стаў архіепіскапам полацкім (1620). Пазней здрадзіў праваслаўным і стаў уніятам.

[329] *Рокаш* — бунт, мяцеж, узброеная апазіцыя супраць палітыкі, праводзімай каралём і сенатам.

[330] *Падляшша* — так у Рэчы Паспалітай калісь называлася заходняя частка тэрыторыі Вял. кн. Літоўскага, якая прылягала да карэнных зямель Малой Польшчы і пасля Люблінскай уніі 1569 г. перайшла пад непасрэдную ўладу Кароннай Польшчы.

[331] У рукапісу «отрымали».

[332] *Вісліца* — старажытны польскі горад, вядомы з 1128 г. як цэнтр кашталяніі. З даўніх часоў была месцам вечавога з'езда жыхароў Малой Польшчы. У верасні 1587 г. тут адбылася ваенная бойка Яна Замойскага з прыхільнікамі кандыдатуры Максімільяна на польскі

каралеўскі трон на чале з кн. Збароўскім, а ў 1606 г. тут меў месца рокаш, які ўзначалілі Мікалай Зэбжыдоўскі і Януш Радзівіл.

333 *Мазуры* — жыхары Мазовіі, пагранічнай тэрыторыі з Падляшшам.

334 *«...тылко некгативе там зноша»* — г. зн. толькі адмоўна адбіваюцца.

335 *Сандамір* — старажытны польскі горад на р. Вісле, які пасля Кракава лічыўся самым прыгожым горадам. У 1139 г. быў сталіцай удзельнага княства. У 1570 г. тут адбыўся сабор польскіх пратэстантаў.

336 У рукапісу апіска: «апостеретас».

337 *«...а на кгарлах своих»* — г. зн. у сваім безвыходным становішчы, рызыкуючы жыццём.

338 *Канфедэрацыя* — свабодная часовая ваенна-палітычная апазіцыя шляхты да палітыкі караля.

339 *Мікалай Зэбжыдоўскі* (1553—1620) — сын Фларыяна, гетмана надворнага і кашталяна люблінскага. Сваяк Яна Замойскага, прымаў удзел у войнах Стэфана Баторыя супраць Івана Грознага і за ваенныя заслугі атрымаў ад караля староства Кракаўскае (1585). У саюзе з канцлерам Янам Замойскім выступаў супраць партыі кн. Збароўскіх, перашкодзіў ім узвесці на каралеўства аўстрыйскага герцага Максімільяна. За гэту паслугу Сігізмунд III Ваза падараваў яму спачатку гетманства дворнае і ваяводства люблінскае, а ў 1596 г. маршалкоўства вялікае кароннае, якое ён пакінуў у 1601 г., калі стаў ваяводам кракаўскім. Пасля смерці Яна Замойскага, жадаючы быць прадаўжальнікам яго шляхецкай палітыкі і важаком шляхты, у 1606 г. разам з Янушам Радзівілам падняў узброенае паўстанне, якое пацярпела паражэнне ад каралеўскага войска, што прымусіла яго адысці ад палітычнай дзейнасці.

340 *Ян Швыйкоўскі* — сын Леанарда Швыйкоўскага, падчашага галіцкага.

341—343 Звестак пра пералічаных асоб сабраць не ўдалося.

344 *Пётр Стаброўскі* — стараста трыдзенскі. Як сеймавы пасол у 1590 г. быў прызначаны інспектарам каралеўскіх маёнткаў. У час інфляндскай кампаніі пад Кокенгаузам меў чын палкоўніка, а 15.III 1600 г. атрымаў тытул кашталяна пернаўскага (Інфляндыя).

345 Асобу Станморскага высветліць не ўдалося.

346 *Іван Сулігастоўскі* — у 1613 г. упамінаецца яшчэ як сеймавы пасол.

347 *Станіслаў Стадніцкі* (1551—1610) — стараста зыгвульскі. Праславіўся ваеннай доблесцю і адвагай у часы Сігізмунда II Аўгуста і Стэфана Баторыя, а яшчэ больш — у час 20-гадовай вайны са сваім суседам Лукашом Апалінскім, старастам ляжайскім. У бойцы пад Тарноўцам у 1610 г. непадалёку ад г. Ляжайска Станіслаў Стадніцкі, празваны ў народзе «д'яблам ланцуцкім», быў забіты наймітамі кн. Ганны Астрожскай і Лукаша Апалінскага.

348 *Януш Радзівіл* (1579 — 3.XII 1620) — сын Крыштофа Радзівіла Перуна, падчашы Вял. кн. Літоўскага з 1599 г., кашталян віленскі з 1619 г. Як кальвініст не карыстаўся ласкаю караля Сігізмунда III Вазы. Абдзелены дзяржаўнай уладай і не маючы з гэтай прычыны папулярнасці сярод шляхты, ён разам з Зэбжыдоўскім узначаліў шляхецкі рокаш 1606 г. У бітве пад Гузавам пацярпеў паражэнне і вымушаны быў ратавацца ўцёкамі, пасля прасіў прабачэння ў караля, да якога і ў далейшым захаваў непрыязнасць. Усё сваё жыццё

прысвяціў абароне кальвінізму. Пазней у грамадскіх справах не прымаў ніякага ўдзелу.

[349] *Ян Шчэсны Гербурт з Тулычына* (? — 1616) — сын саноцкага кашталяна. Быў блізкім да Яна Замойскага чалавекам, але ў час бескаралеўя, пасля смерці Баторыя, узначаліў тых, хто хацеў бачыць на каралеўскім троне Рэчы Паспалітай сваяка Стэфана Баторыя Габрыеля. У 1607 г. прымаў актыўны ўдзел у рокашы Зэбжыдоўскага, абвінавачваў караля ў імкненні да абсалютнай улады і ў раздачы ўрадаў толькі сваім любімчыкам. Захоплены пад Краснаставам у палон быў асуджаны на смерць, якую потым замянілі зняволеннем. Пасля вызвалення з турмы ў 1609 г. пасяліўся ў Дамбрамілі, дзе заняўся літаратурнай і выдавецкай дзейнасцю. Пісаў па-ўкраінску, выдаў «Рочнікі» Станіслава Ажэхоўскага, «Жыццё Кміты», 6 кніг Длугаша і меў намер апублікаваць «Хроніку» Гала. Але за абразу каралеўскага трона Сігізмунда III Ваза ў 1615 г. забараніў яму займацца выдавецкай справай і ўзбудзіў судовую справу, ажыццяўленню якой пашкодзіла смерць Гербурта ў 1616 г. Прытрымліваючыся праваслаўнага веравызнання, Гербурт быў праціўнікам царкоўнай уніі і пераканаў перамышльскага епіскапа М. Капысценскага адмежавацца ад уніятаў.

[350–352] Звестак пра пералічаных асоб сабраць не ўдалося.

[353] *Іеранім Прылецкі* — брат кракаўскага стольніка Марціна Прылецкага.

[354–357] Звестак пра пералічаных асоб сабраць не ўдалося.

[358] *Біржы* (зараз Біржай) — пасяленне на паўночным беразе воз. Шырвена, вядомае з XV ст. У пачатку XVI ст. стала ўладаннем Радзівілаў і да 1804 г. з'яўлялася іх літоўскай рэзідэнцыяй. Тут звычайна жылі вялікія гетманы Вял. кн. Літоўскага. У 1556 г. Біржы былі цэнтрам кальвінізму ў Літве і з'яўляліся важным ваенна-стратэгічным пунктам абароны ад шведаў.

[359] *Дубнікі* (зараз Дубянгай) — літоўскае мястэчка непадалёку ад Вільнюса. Як маёнтак і цэнтр павета вядомы з XV ст. З XVI ст. сталі ўладаннем Радзівілаў, у XIX ст. перайшлі да Тышкевічаў.

[360] *Падчашы* — каралеўскі саноўнік, які ў час цырыманіяльных урачыстасцей наліваў каралю ў чашу напітак пасля таго, як паспрабаваў яго сам. На іерархічнай лесвіцы ўраднікаў каралеўскага двара стаяў у першым радзе перад падкаморыем.

[361] Маецца на ўвазе Сігізмунд III Ваза.

[362] *«...яко до упокойных рад»* — г. зн. да мірных парад.

[363] *Янава* — надзвычай распаўсюджаная назва населеных пунктаў Польшчы, а таму цяжка сказаць, пра які з іх тут ідзе размова.

[364] *Ядловец* — польская вёска непадалёку ад павятовага г. Велюня.

[365] Тут размова ідзе пра малдаўскі паход кароннага гетмана Яна Замойскага ў кастрычніку 1600 г., але аўтар запісаў ці іх пазнейшы перапісчык пераблытаў імя гаспадара Малдавіі. Ім тады быў не Іерамія Магіла, які названы ў прыведзеным запісу, а Міхаіл Храбры (1558—1601), які ў 1600 г. без крыві захапіў Малдавію. Праводзячы цэнтралізатарскую палітыку, ён у барацьбе супраць Турцыі абапіраўся на падтрымку Расіі. Аднак яго вялізная прыгонніцкая дзяржава аказалася нетрывалай. Натуральна, што да дзейнасці Міхаіла Храбрага варожа ставілася Рэч Паспалітая, якая была зацікаўлена мець у Малдавіі свайго спадручнага стаўленіка, а Іерамія Магіла якраз і быў такім чалавекам. А таму, каб вярнуць яму страчаны

трон, Ян Замойскі прадпрыняў свой другі малдаўскі паход (першы паход адбыўся ў 1595 г., у выніку якога на трон быў пасаджан Ірамія Магіла). Вось чаму ў запісу «Баркулабаўскай хронікі» імя Магілы трэба разглядаць як памылку, дапушчаную аўтарам запісу або па прычыне няўважлівага прачытання арыгінала, або з-за няведання самой палітычнай сутнасці гэтага паходу, у выніку якога Ян Замойскі 19.X 1600 г. перамог гаспадара Міхаіла Храбрага пад Таргавестам і вярнуў трон вернаму Польшчы баярыну Іераміі Магіле.

[366] Слова пададзена няправільна, трэба чытаць «мунтянский». Азначэнне ваяводы паходзіць ад румынскай назвы ўсходняй часткі Валахіі — Мунтэніі. («Мунтэ» ў перакладзе з румынскай мовы значыць «гара»). Хто быў у той час ваяводам мунцянскім, высветліць не ўдалося.

[367] *Мігаль* — так аўтар запісаў называе Міхаіла Храбрага.

[368] *Лежа* — месца для размяшчэння войска на працяглы час.

[369] *Самуіл Кошка* — гетман запарожскіх казакаў да 1601 г.

[370] *«...у Баркулабове на пристанство аж уждали»* — трэба чытаць: «...у Баркулабове на приставство гроши брали».

[371] Відаць, маецца на ўвазе ўраднік суседняй з Магілёвам на тых часах вёскі Пячэрск.

[372] *Трыбухі* — зараз гэтага сяла не існуе.

[373] Цяжка сказаць, пра які манастыр тут ідзе гутарка: ці пра Кіева-Пячэрскі, ці пра манастыр Пячэрска каля Магілёва.

[374] *Благавешчанне* — царкоўна-хрысціянскае свята з пастаяннай датай — 25 сакавіка.

[375] *Ян Варшаўскі* — асоба невядомая і, трэба думаць, тут названа памылкова, бо ў склад пасольства Рэчы Паспалітай у Маскву ў 1600 г. уваходзілі літоўскі канцлер Леў Сапега, кашталян варшаўскі Станіслаў Варшыцкі і пісар Вял. кн. Літоўскага Ілья Пелгрымоўскі. Відаць, Станіслаў Варшыцкі пад пяром аўтара запісаў і ператварыўся ў Яна Варшаўскага. Мэтай гэтага пасольства было віншаванне Барыса Гадунова з прычыны абрання яго на царскі трон і заключэнне вечнага міру з Расіяй. Вынікам перагавораў з'явілася заключэнне 20-гадовага перамір'я, якое было парушана польскім каралём у часы рускай смуты.

[376] У дадзеным выпадку аўтар блытае імя Барыса Гадунова, называючы яго Васілём.

[377] *Смаргонь* — беларускі горад Гродзенскай вобл. У XVI ст. тут існавала папяровая мануфактура. У XVII ст. Смаргонь была мястэчкам, якое належала Радзівілам і славілася сваёй школай дрэсіроўкі мядзведзяў, якіх прадавалі нават за мяжу.

[378] Аўтар гэтага запісу зларадніцае з прычыны самагубства полацкага уніяцкага епіскапа Гермагена, які пасля 1596 г. здрадзіў праваслаўю, і разглядае яго смерць як пакаранне за здраду.

[379] Ведучы размову пра дынастычную вайну Сігізмунда III Вазы са сваім дзядзькам Карлам IX, аўтар запісаў скажае назву Інфлянды, якая пад яго пяром ператварылася ў Віфлянты, і разам з тым памылкова называе Карла IX каралём шведскім, бо каралём ён стаў значнай пазней.

[380] *«Того ж року запорозкие козаки у Швецыи были»* — размова ў дадзеным выпадку ідзе не пра саму Швецыю, а пра падуладную ёй у тыя часы тэрыторыю Прыбалтыкі.

381 *Віцебск* — старажытны беларускі горад на р. Зах. Дзвіне, які атрымаў сваю назву ад р. Віцьбы, на беразе якой ён, паводле легенды, быў заснаваны ў 974 г. Першае летапіснае ўпамінанне аб ім як уладанні полацкага кн. Брачыслава Ізяславіча адносіцца да 1021 г. У пачатку XII ст. стаў цэнтрам удзельнага княства і з'яўляўся важным гандлёвым цэнтрам на шляху «з варагаў у грэкі». Пасля смерці кн. Яраслава Васільевіча як пасажнае вена за дачку Марыю, выдадзеную замуж за літоўскага кн. Альгерда (1318), Віцебскае княства ў 1320 г. было далучана да Вял. кн. Літоўскага, у складзе якога яно карысталася пэўнай самастойнасцю.

382 Звестак пра асобу канстанцінопальскага патрыярха Рафаіла адшукаць не ўдалося.

383 *Гедыён* (свецкае імя Мікалай Брольніцкі) — спачатку быў ігуменам Лаўрышаўскага манастыра пад Навагрудкам, потым, з 1601 да 1618 г., уніяцкім архіепіскапам полацкім, уладыкам віцебскім і мсціслаўскім.

384 Аўтар запісаў супярэчыць самому сабе, бо ў запісу за 1594 г. ён ужо называў Цімафея Аляксеевіча свяшчэннікам Юр'еўскай царквы г. Магілёва. У такім выпадку тэрмін яго іерэйства трэба вызначаць не 4, а 7 гадамі.

385 *Былевічы* — пад гэтай назвай зараз існуе два населеныя пункты (Бялевічы Малыя і Бялевічы Вялікія) непадалёку ад Магілёва. Пра які з іх тут ідзе размова, сказаць цяжка.

386 *Хадуцічы* — вёска непадалёку ад Баркулабава.

387 *Ліпаўка* — вёска непадалёку ад Баркулабава.

388 *Панковічы* — зараз пад такой назвай населенага пункта не існуе.

389 *Навасёлкі* — вёска непадалёку ад Магілёва.

390 *Трызніна Слабада* — зараз пад гэтай назвай населенага пункта не існуе. Раней слабодамі называліся новазаселеныя пункты. І як толькі канчаўся тэрмін іх льготнага пасялення, яны набывалі іншую назву. Якую назву потым набыла Трызніна Слабада, сказаць цяжка.

391 *Лежнева* — зараз Лежнеўка, вёска ў Магілёўскім р-не.

392 Царкоўна-рэлігійнае свята, якое адзначаецца 29 жніўня.

393 *Сімяон Столпнік* (356—459) — антыёхійскі аскет, якога хрысціянская царква кананізавала ў святыя і ўшаноўвае яго памяць 1 верасня.

394 *«...перад Покровом за 2 недели»* — г. зн. у канцы верасня, а дакладней — 29 або 30 верасня.

395 *«Воздвижение честнаго креста»* — царкоўна-рэлігійнае свята, якое адзначаецца 14(27) верасня.

396 Гетманам Вял. кн. Літоўскага ў гэты час быў *Ян Кароль Хадкевіч* (1560—1621), выхаванец Віленскай езуіцкай акадэміі. Вылучаўся красамоўствам і выдатным веданнем моў, гісторыі і геаметрыі. Аб'ехаў усю Еўропу, шукаючы прыгод на вайне ў Германіі, Італіі, Францыі, Іспаніі і Нідэрландах. У 1594—1596 гг. падаўляў казацка-сялянскае паўстанне Севярына Налівайкі, 27.V 1596 г. стаў падчашым літоўскім пасля Крыштофа Дарагастайскага, а 19.VII 1599 — старастам жмудскім пасля Станіслава Радзівіла. У 1600 г. прымаў удзел у другім малдаўскім паходзе Яна Замойскага і ў тым жа годзе быў прызначаны гетманам польным, старастам велонскім і любашанскім. У 1603 г. стаў адміністратарам Інфляндыі. У 1604 г. атрымаў дзве бліскучыя перамогі над шведамі пад Белым Каменем у Ліфляндыі, а ў 1605 г. пад Кірхгольмам над пераўзыходзячым па колькасці

шведскім войскам. Гэта перамога прынесла Хадкевічу ў 1605 г. пасаду гетмана вялікага. У 1606 г. выступіў на баку караля супраць рокашу, паднятага М. Зэбжыдоўскім і Я. Радзівілам. Прымаў удзел у інтэрвенцыі караля ў Расію, дзе ў 1612 г. пацярпеў паражэнне ад апалчэння, якое ўзначальвалі К. Мінін і Д. Пажарскі. У 1616 г. пасля смерці Радзівіла Сіроткі заняў яго пасаду ваяводы віленскага. У 1617—1618 гг. камандаваў войскам у паходзе каралевіча Уладзіслава на Маскву. У апошнія месяцы жыцця кіраваў польскай арміяй у баях з туркамі пад Хоцінам (1621 г.), дзе і памёр. Апякаў езуітаў і не раз узрушваў Вял. кн. Літоўскае спрэчкамі з магнацкім родам Радзівілаў.

397 *«И так шкоду содомию чинили»* — вобразны выраз страшэннай шкоды, якую аўтар запісаў параўноўвае са шкодай біблейскага г. Садома, зруйнаванага быццам бы самім богам за свае «страшэнныя грахі» мужаложства.

398 *«А так лежал тот снег 2 недели аж до Дмитровы суботы»* — г. зн., што снег ляжаў аж да 26 кастрычніка па ст. ст. (6 лістапада па н. ст.). У дадзеным выпадку аўтарам запісаў вядзецца размова пра царкоўна-рэлігійнае свята ў гонар Дзімітрыя Салунскага — воіна і кіраўніка Салуні, замучанага ў часы рымскага імператара Дыялектыяна, калі было ганенне на хрысціян (IV ст.). У старажытнай Русі дзень св. Дзімітрыя Салунскага адносіўся да ліку вялікіх свят, і царкоўную службу ў гэты дзень праводзіў сам патрыярх. На іконах Дзімітрыя Салунскага малявалі ў адпаведнасці з яго становішчам (воіна і кіраўніка) у ваенным адзенні з кап'ём і мечам. Вялікія князі Русі імем гэтага святога называлі сваіх першых сыноў.

399 *«...то предсе нивошто»* — г. зн. дык нічога сабе.

400 *Прапойск* (з 1945 г. Слаўгарад) — старажытны беларускі горад на правым беразе р. Сож. Упершыню ў летапісу ўпамінаецца пад 986 г. З XIV ст. Прапойск знаходзіўся ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У 1511 г. ужо лічыўся каралеўскай воласцю, прыпісанай да Мсціслаўскага ваяводства, і кіраваўся старастамі. З 1518 г. гэтым цэнтрам староства кіравалі: Чартарыйскія, Вішнявецкія, Зяновічы, Солтаны, Служкі, Красінскія, Заранкі, Незабітоўскія, Сапегі, Храптовічы, Масальскія, Берастоўскія і інш.

401 *Любашаны* — паводле скарбавых спіскаў за 1565 г. знаходзіліся ў ліку каралеўскіх сталовых маёнткаў, былі мястэчкам Аршанскага павета і з'яўляліся цэнтрам староства.

402 *Лоеў* — старажытны ўмацаваны пункт пры зліцці Сожа з Дняпром, вядомы ўжо з XV ст. Зараз гарадскі пасёлак, цэнтр р-на Гомельскай вобл.

403 *Друцк* — старажытны горад Полацкай зямлі, цэнтр Друцкага княства, быў нявольнічым рынкам Беларусі, як Кафа (Феадосія) у Крыму. Першыя звесткі пра Друцк сустракаюцца ў «Павучанні Уладзіміра Манамаха» (1078). Крыху пазней (1092) упамінаецца ў сувязі з моравай язвай, якая адсюль дакацілася да Полацка. У сярэдзіне XIII ст. Друцкае княства трапіла пад уладу Вял. кн. Літоўскага, але яшчэ доўгі час захоўвала ў ім асобае становішча. Мясцовыя князі кіравалі ў Друцку да 1508 г. З пачатку XVI ст. Друцк паступова губляе палітычнае значэнне і неаднаразова спустошаны ў выніку літоўска-рускіх і руска-літоўскіх ваенных дзеянняў (1506, 1514, 1524, 1535) пераходзіць у разрад нязначных і бедных мястэчак, а пазней і зусім знікае як геаграфічны пункт. Зараз паблізу ад яго

гарадзішча на левым беразе р. Druці непадалёку ад г. Талачына знаходзіцца аднайменная вёска.

404 *Дуброўна* — зараз горад, цэнтр р-на Віцебскай вобл. Аб Дубровенскіх князях летапіс упамінае ўжо з 1148 г. З першай палавіны XVI ст. Дуброўна вядома як велікакняжаскае ўладанне Вял. кн. Літоўскага. 13.VIII 1514 г. Дуброўна на кароткі тэрмін трапіла пад уладу княства Маскоўскага. Як пагранічнае мястэчка часта падвяргалася ваенным нападам. З сярэдзіны XVI ст. належала магнатам Глябовічам, а пазней перайшло да Сапегаў і Любамірскіх.

405 *Круглае* — мястэчка на р. Друці на паўднёвы захад ад Магілёва, зараз цэнтр сельсавета ў Бялыніцкім р-не Магілёўскай вобл.

406 *Бобр* — мястэчка на правым беразе аднайменнай ракі ў Крупскім р-не Мінскай вобл. У XVIII ст. з'яўлялася прыватнай уласнасцю Агінскіх.

407 *Страсная нядзеля* — апошні тыдзень велікоднага посту ў хрысціян.

408 Маецца на ўвазе вялікдзень.

409 Канстанцінопальскім патрыярхам у гэты час быў Рафаіл. У сваім запісу аўтар дапусціў памылку пад уплывам вышэйназванага ім імя епіскапа полацкага Гедыёна.

410 Гэта царкоўна-хрысціянскае свята адзначаецца 8(21) верасня.

411 *Іван Васільевіч Саламярэцкі* (? — 1578) — князь, зяць маршалка гаспадарскага Паўла Іванавіча Сапегі, які 21.X 1541 г. стаў дзяржаўцам аінскім. У 1544 г. адкупіў у Яна Ракуця частку зямлі ў р-не Сёмкава Гарадка (на поўнач ад Мінска) і заснаваў тут свой радавы замак. У 1551 г., пасля смерці першай жонкі Багданы, ажаніўся на кн. Ганне Іванаўне Глябовіч, дачцы ваяводы віленскага і канцлера Вял. кн. Літоўскага. У 1554 г. стаў дзяржаўцам глускім і дубошынскім. Апошнюю «дзяржаву» (г. зн. пэўнае зямельнае ўладанне каралеўскіх зямель) ён у хуткім часе замяніў на Быхаўскую, якую ў 1556 г. кароль Сігізмунд II Аўгуст у яго забраў і аддаў на вечнае карыстанне Хадкевічу. І. В. Саламярэцкі, будучы ўладаром Саламярэчча, Сёмкава Гарадка, Гаголіцы, Асташына і Плешчаніц, у першай палавіне 1558 г. стаў старастам мсціслаўскім і радомскім, а 16.III 1566 г. — першым кашталянам толькі што ўтворанай Мсціслаўскай кашталяніі. На гэтым каралеўскім урадзе ён і памёр — ці ў канцы 1577 г., ці ў пачатку 1578 г. Ад першага шлюбу дзяцей не меў, ад другога пакінуў сына Багдана і дзвюх дачок — Варвару, якая спачатку была жонкай трокскага кашталяна Канстанціна Юр'евіча Хадкевіча, а пасля яго смерці з 1572 г. — жонкаю полацкага ваяводы Станіслава Давойны (? — 1573), і Марыну, якая была замужам за літоўскім лоўчым Янушам Нарушэвічам (1589—1613).

412 *Саламярэчча* — калісь было маёнткам на поўнач ад Мінска ў р-не Сёмкава Гарадка на цяпер не існуючым прытоку р. Вячы — Саламярэч.

413 *Высоцк* (зараз Высокае) — вёска ў Антонаўскім сельсавеце Чавускага р-на Магілёўскай вобл.

414 *Іван Куцковіч* — гетман запарожскіх казакаў з 1601 да 1603 г., пераемнік на гэтай пасадзе Самуіла Кошкі.

415 *Чачэрск* — старажытнае гандлёвае мястэчка пры зліцці рр. Сож і Чачэры. Зараз горад, цэнтр р-на Гомельскай вобл. Упершыню ўпамінаецца ў летапісу пад 1157 г. З XV ст. Чачэрск у складзе Вял. кн. Літоўскага. Як пагранічны з Рускай дзяржавай пункт часта з'яўляў-

ся прадметам ваенных спрэчак і пераходзіў з рук у рукі. У сярэдзіне XVI ст. быў цэнтрам сельскага староства.

416 Размова ідзе пра размяшчэнне войска, якое ўдзельнічала ў другім малдаўскім паходзе Яна Замойскага.

417 *Фаміна нядзеля* — па царкоўнаму календару другі тыдзень пасля вялікадня.

418 *Вялікая субота* — па царкоўнаму календару пярэдадзень вялікадня.

419 Дакладную дату гэтай пятніцы вызначыць цяжка, не ведаючы, калі ў тым годзе быў вялікдзень, а адлік дзён тут вядзецца ад яго. 68-й дзень ад вялікадня прыпадае прыкладна на другую палавіну чэрвеня.

420 Па святцах праваслаўнай царквы дзень св. Юрыя як значнае рэлігійнае свята адзначаецца двойчы, вясною 23 красавіка па ст. ст. (5 мая па н. ст.) і восенню 26 лістапада. Апошняя дата была ўведзена кн. Яраславам Мудрым у 1036 г. у гонар атрыманай ім перамогі над печанегамі. Дні рэлігійных свят св. Юрыя ў праваслаўных хрысціян звязваюцца з пачаткам і канцом земляробчага календара, а сама асоба «святога» лічылася апекуном жывёлагадоўлі і земляробчых работ. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе вясенняя дата — 23 красавіка.

421 *Радашковічы* — мястэчка непадалёку ад Мінска, вядомае па пісьмовых крыніцах з 1447 г. З даўніх часоў належала да каралеўскіх сталовых маёнткаў. У 1576 г. стала цэнтрам сельскага староства.

422 *Васіль святы* — Васіль Вялікі (329—378) — кесарыйскі епіскап з 370 г., прадстаўнік познегрэчаскай царкоўнай літаратуры, які вёў упартую барацьбу супраць арыян у абарону праваслаўя. Яго пяру належыць 49 духоўных бясед, 5 кніг пра вучэнне аб святой Троіцы, 2 кнігі пра хрышчэнне, 7 аскетычных трактатаў, статут для манахаў, кніга аб св. духу, некалькі пропаведзей і 366 лістоў да розных асоб. Хрысціянская царква для ўшанавання яго памяці адвяла два дні — 1 і 30 студзеня.

423 *«Вода вешняя стояла по святом Петре тыждень»* — г. зн. што паводкавая вада стаяла аж да 6(19) ліпеня.

424 Царкоўна-рэлігійнае свята, якое адзначаецца хрысціянамі 2 жніўня па н. ст.

425 *Леднікі* — мясцовая дыялектная назва падбярозавікаў, якая і зараз бытуе ў народных гаворках Лепельскага р-на Віцебскай вобл. і ў Барысаўскім р-не Мінскай вобл.

426 *«А рыб вялых мало было для великих поводков»* — г. зн. «А рыбы вяленай мала было з-за вялікіх павадкаў».

427 *Лахва* — правы прыток Дняпра, які бярэ свой пачатак у Шклоўскім р-не.

428 *«...у краю Низовом»* — г. зн. на поўдні Беларусі. У дадзеным выпадку размова ідзе пра беларускае Палессе.

429 Размова ідзе пра двор кн. Адама Вішнявецкага, які жыў у Брагіне і даводзіўся шваграм гетману Яну Каралю Хадкевічу. Князь вылучаўся прыхільнасцю да праваслаўнага веравызнання. Іменна ў яго доме ўпершыню аб'явіў сябе рускім царэвічам былы манах Чудава манастыра Юрый (у манашыстве Грыгорый) Атрэп'еў.

430 *«...якийсь Дмитр Иванович царевич».* — Першы самазванец выдаваў сябе за Дзімітрыя, апошняга сына Івана Грознага ад пятай вянчанай жонкі Марыі Фёдараўны Нагой, які трагічна загінуў у

маленстве ў г. Угліччы, куды быў адпраўлены разам з маці і дзядзькамі (Міхаілам, Грыгорыем і Андрэем Нагімі) у той час, калі на царскім троне сядзеў трэці сын Грознага Фёдар Іванавіч.

431 *Старадуб* — старажытны горад на р. Бабінцы, зараз цэнтр р-на Бранскай вобл. Першыя летапісныя звесткі аб ім адносяцца да 1025 г. У X—XI стст. быў важным апорным пунктам у міжусобных войнах князёў і месцам збору іх дружын, адкуль яны ішлі да Смаленска, Чарнігава і Кіева. З гэтай прычыны горад часта падвяргаўся нападам і разбурэнню. Як абаронны пункт ад знешняй небяспекі быў адноўлены ў XIV ст., калі ён быў у складзе Вял. кн. Літоўскага, пад уладаю якога знаходзіўся да 1500 г. У 1616 г. горадам авалодалі палякі, і па Дэўлінскаму дагавору 1618 г. Рэч Паспалітая пакінула яго за сабой. З гэтага часу Старадуб быў яе пагранічнай крэпасцю.

432 *«...которого еще малого якобы мел Годун стратити».*— Выдаючы сябе за царэвіча Дзімітрыя, авантурыст пусціў чутку, што Барыс Гадуноў, каб расчысціць сабе шлях да царскай кароны, арганізаваў загавор супраць малалетняга царэвіча, але верныя людзі Нагіх выратавалі ад немінучай смерці законнага наследніка трона, падмяніўшы яго іншым хлопчыкам. Гэта версія адыграла сваю ролю на карысць самазванца ў яго дамаганнях царскага трона.

433 *«...а Годуна с царства своего московского согнал».*— У дадзеным выпадку аўтар запісаў дапускае памылку, бо Барыс Гадуноў раптоўна памёр уласнай смерцю 13 красавіка 1605 г., а самазванец урачыста ўвайшоў у Маскву 20 чэрвеня. Расправу ж над жонкай Гадунова царыцай Марыяй Рыгораўнай і сынам Фёдарам, якому пасля смерці Барыса Гадунова прысягнулі жыхары Масквы, учынілі князі В. І. Галіцын і Масальскі з Міх. Малчанавым, непасрэдным забойцам Фёдара Барысавіча яшчэ да прыходу ў Маскву самазванца.

434 Каранацыя Лжэдзімітрыя І на царскі трон адбылася ў пачатку жніўня 1605 г.

435 Спецыяльнымі пасламі Лжэдзімітрыя І ў Рэч Паспалітую з місіяй угаварыць караля Сігізмунда III Вазу на вайну з туркамі і выпрасіць у яго згоду на ад'езд Марыны Мнішак у Маскву ў якасці нявесты цара былі акольнічы Афанасій Уласьеў і Ян Бучынскі, асабісты сакратар Лжэдзімітрыя. 10.XI 1605 г у Кракаве кардынал Мацяёўскі ў прысутнасці самаго караля з вялікай пышнасцю здзейсніў абрад заручын Марыны, на якіх асобу жаніха будучай рускай царыцы прадстаўляў Афанасій Уласьеў. Адчуваючы сябе няёмка ў гэтай нязвычнай для яго ролі, ён у час абраду заручын досыць часта трапляў у камічныя сітуацыі.

436 Ваяводам сандамірскім у той час быў *Юрый Мікалаевіч Мнішак* (? — 1613), сын багемскага графа, які па прыездзе ў Польшчу (1535) займаў пасаду вялікага падкаморыя кароннага. Юрый Мнішак любіў жыць раскошна, а таму пастаянна меў патрэбу ў грашах. Прага да іх зблізіла яго з каралём Сігізмундам II Аўгустам, для якога ён выконваў ролю зводні і нават выкраў з манастыра бернардзінак Варвару Радзівіл. А калі кароль памёр, ён так абакраў нябожчыка, што таго не было ў што і апрануць. У час панавання Баторыя Юрый Мнішак ужо стаў старастам саноцкім і кашталянам радомскім. Сігізмунд III Ваза падараваў яму Сандамірскае ваяводства і некалькі даходных староstваў, дзякуючы чаму Мнішак стаў адным з найбагацейшых польскіх паноў. Разлічваючы на яшчэ

большае багацце, ён даў згоду на шлюб дачкі Марыны з самазванцам, які паабяцаў падараваць нявесце ў спадчыну Ноўгарад і Пскоў, а цесцю Северскія землі на Чарнігаўшчыне. Такое выгаднае абяцанне і прывяло Юрыя Мнішака ў маі 1606 г. разам з дачкою ў Маскву, дзе яму ў хуткім часе прыйшлося пераэжыць смерць каранаванага зяця, пабыць вязнем цара Васіля Шуйскага, трапіць у палон да Лжэдзімітрыя II і стаць яго цесцем. І толькі пасля ўсяго гэтага, не дачакаўшыся пажаданага падарунка, у 1608 г. ён пакінуў Расію і ў хуткім часе памёр ужо на радзіме.

437 Вянчанне Лжэдзімітрыя I з Марынай Мнішак і каранацыя яе па старому рускаму звычаю адбыліся ў пятніцу 8 мая 1606 г., на 6-ы дзень пасля прыезду ў Маскву.

438 Загавор супраць самазванца, які ўзначаліў В. І. Шуйскі разам з В. І. Галіцыным і І. С. Куракіным, быў ажыццёўлены ў ноч з 16 на 17 мая 1606 г.

439 Па сведчанню гісторыка С. М. Салаўёва, самазванец загінуў ад рукі баярскага сына Грыгорыя Балуева. Потым, знявечаны, а таму і адзеты ў маску, труп Лжэдзімітрыя I разам з трупам яго цела-ахоўніка баярына Пятра Фёдаравіча Басманава арганізатары мяцяжу паклалі на Краснай плошчы для агляду, каб пераканаць народ, што цар забіты. Праз тры дні труп Лжэдзімітрыя спачатку пахавалі дзесьці за Серпухоўскімі варотамі, а пазней выкапалі і спалілі. Попел жа, перамешаны з порахам, заклалі ў гармату і стрэлілі ў той бок, адкуль самазванец прыйшоў у Маскву.

440 *«...а другие поведали,— жив утек».*— Такую пагалоску пусціў баярын Міхайла Малчанаў, які пасля забойства сына Барыса Гадунова Фёдара ўцёк у Рэч Паспалітую і там аб'явіў сябе царом Дзімітрыем. Паколькі гэта версія была на карысць праціўнікам цара В. І. Шуйскага, яны прыклалі ўсе намаганні для яе распаўсюджання. А пуціўльскі ваявода Г. П. Шахоўскі ў сваіх лістах да «выратаванага Дзімітрыя» ў Сандамір пісаў, каб Дзімітрый неадкладна ехаў да яго за ваеннай дапамогай. Аднак прадбачлівы авантурыст Малчанаў не адважыўся выканаць сваю версію, хоць многія і паверылі яго паведамленню. Выканаўцам ролі «выратаванага цара Дзімітрыя» пазней стаў іншы авантурыст, які ў маі 1607 г. з'явіўся пад Старадубам і паклаў пачатак шырокай інтэрвенцыі Рэчы Паспалітай у Расію. Пазней народ празваў яго «Тушынскім злодзеем». Асоба гэтага самазванца ў гістарычнай навуцы яшчэ не высветлена. Паводле адной з версій, якая тады шырока была распаўсюджана ў Польшчы, з'яўленне яго на палітычнай арэне было справаю рук самага блізкага да Лжэдзімітрыя I паляка М. Мехавіцкага. Будучы ў курсе ўсіх спраў і сакрэтнай перапіскі першага самазванца, М. Мехавіцкі падабраў падобнага на Лжэдзімітрыя масквіціна і выдаў яго за выратаванага цара Дзімітрыя. Ад імя свайго стаўленіка ён пачаў весці перапіску з усімі панамі Рэчы Паспалітай, якія былі ў свой час звязаны з першым самазванцам, чым і забяспечыў поспех «Тушынскаму злодзею». Паны паверылі ў тое, што цар не загінуў і пачалі сцякацца з войскам на дапамогу яму, а Ян Сапега нават пастараўся даставіць у яго тушынскі лагер і Марыну Мнішак, якая была адпушчана В. Шуйскім на радзіму пасля таго, як ён стаў рускім царом. Лжэдзімітрый II за такую паслугу аддзякаваў М. Мехавіцкаму прызначэннем яго сваім галоўнакамандуючым. Але з прыходам у лагер «Тушынскага злодзея» кн. Ружынскага кар'ера

М. Мехавіцкага пайшла на спад, а ў хуткім часе быў знішчаны і сам Мехавіцкі.

[441] *«...вера ляховитинская»* — г. зн. вера польская, а дакладней. каталіцкая.

[442] *Васіль Іванавіч Шуйскі* (1540 — 20.II 1610) — князь, які быў рускім царом з 19.V 1606 да 19.VII 1610 г. Узведзены на царскі трон нязначнай кучкай сваіх прыхільнікаў у абыход Земскага сабора, ён не карыстаўся ўсеагульным прызнаннем і сваім прыходам да ўлады толькі ўзмацніў пасеяную ім смуту. Царскі трон аказаўся яму не па плячу. Ідэйны разброд у асяроддзі пануючай вярхушкі і няздольнасць В. І. Шуйскага стрымаць інтэрвенцыю Рэчы Паспалітай, узначаленую самім каралём Сігізмундам III, абумовілі звяржэнне яго з царскага трона і пастрыжэнне ў манахі. А калі маскоўскае баярства прысягнула польскаму гетману Станіславу Жулкеўскаму на вернасць каралевічу Уладзіславу, яно выдала каралю В. І. Шуйскага разам з яго братамі Іванам і Дзімітрыем, і той вывез іх у якасці ваеннапалонных у Польшчу. Там звергнуты цар і памёр.

[443] Аўтар запісаў тут дапускае памылку, бо каралеўскім паслом у Маскву быў не Ян, а яго сын, веліжскі стараста Аляксандр Корвін-Гансеўскі (? — 1651). Ён разам з Мікалаем Алясніцкім прыехаў у Маскву ў жніўні 1605 г. з мэтай віншаваць Лжэдзімітрыя з уступленнем на царскі трон і весці з ім перагаворы аб заключэнні саюза супраць крымскіх татар і Швецыі, аб далучэнні да Рэчы Паспалітай Северскіх зямель і патрабаваць свабоднага гандлю для польскіх купцоў у Маскоўскай дзяржаве. Знаходзячыся ў Маскве, ён у якасці ганаровага госця прысутнічаў на вяселлі самазванца з Марынай Мнішак. Пасля мяцяжу, узнятага В. І. Шуйскім, пэўны час быў інтэрніраваным. І толькі летам 1607 г., калі пад сценамі Масквы ўжо аб'явіўся Лжэдзімітрый II, ён быў адпушчаны на радзіму.

[444] *Пакрыўніца* — вёска Енджэеўскага павета Келецкага ваяводства ў ПНР.

[445] Канстытуцыяй у тагачаснай Рэчы Паспалітай называлася прынятая на вальным сейме тая або іншая заканадаўчая пастанова.

[446] *Капшчызна* — падатак, які існаваў у Вял. кн. Літоўскім з XV да XVIII ст. і збіраўся за гатаванне піва, мёду і гандаль гарэлкаю.

[447] *Аляксандр Іосіф Лісоўскі* (? — 1616) — беларускі шляхціц, вядомы рабаўнік. У час рокашу Зэбжыдоўскага выступаў са сваёй лёгкай кавалерыяй супраць караля, за што быў асуджаны на выгнанне. З паяўленнем на ваенна-палітычнай арэне Лжэдзімітрыя II рынуўся ў Расію з надзеяй на багатую і лёгкую здабычу, рабаваў Каломну, асаджаў разам з Янам Сапегам Троіцкі манастыр, доўгі час спусташаў розныя рускія землі. Пасля гібелі гэтага самазванца перайшоў на службу ў каралеўскае войска, вызначыўся пад Смаленскам, але з прычыны недысцыплінаванасці меў канфлікты з самім гетманам Я. К. Хадкевічам. Загінуў пад Старадубам.

[448] Тут, відаць, прапушчана слова «палка́» ці «староства».

[449] У рукапісу пададзена памылковая дата — 1617.

[450] *Папова Гара* — зараз Чырвоная Гара, раённы цэнтр у Бранскай вобл.

[451] Тут маецца на ўвазе Лжэдзімітрый II.

[452] *Дзімітрый Нагі* (1581—1591) — апошні сын Івана Грознага ад яго жонкі Марыі Нагой.

[453] Імя шклоўскага свяшчэнніка ў рукапісу не названа і пропуска ў радку няма.

[454] *Праскура* (ад грэч. *прасфора*) — белая круглая булачка з густога цеста, якая выкарыстоўваецца духавенствам для прычасця прыхаджан.

[455] У рукапісу памылка. Трэба чытаць: «... на село Онисковичи и Сидоровичи». Абедзве вёскі знаходзяцца ў Магілёўскім р-не.

[456] Відаць, маецца на ўвазе *Мікалай Багуслаў Зяновіч*, які быў старастам чачэрскім, прапойскім і мінскім, а з 1618 г. — кашталянам полацкім. Цяжка паранены ў бітве пад Хоцінам памёр у верасні 1621 г.

[457] Слова «Масква» ў дадзеным выпадку выступае як назва Рускай дзяржавы і народа, а не як назва горада.

[458] У рукапісу замест «сей» напісана «сел».

[459] У гэтым сказе аўтар запісаў штосьці прапусціў, і таму сказ згубіў свой сэнс.

[460] Аўтар запісаў пераблытаў імя цара Шуйскага і назваў яго Андрэем. Пад такім імем у часы панавання Фёдара Іванавіча выступаў князь, якога Барыс Гадуноў абвінаваціў у здрадзе і саслаў спачатку ў с. Васкрасенскае, а потым у Каргапаль, дзе яго і задушылі.

[461] Тут аўтар запісаў памыляецца, бо растрыгаю Грышкам Атрэп'евым, былым манахам Чудава манастыра, называлі не гэтага самазванца, а першага, які быў маскоўскім царом.

[462] Звестак пра Нядведка адшукаць не ўдалося.

[463] Удзельнікамі інтэрвенцыі былі тры Руцкія: Крыштоф, Табіяш і Павел. Каго з іх мае на ўвазе аўтар запісаў, сказаць цяжка.

[464] Размова ідзе пра каралеўскага ротмістра Марка Велямоўскага.

[465] Маецца на ўвазе ўсвяцкі староста *Ян Пётр Сапега*, які спачатку быў паплечнікам Лжэдзімітрыя II, потым сам марыў заняць царскі трон, а калі з гэтага нічога не атрымалася, перайшоў на бок каралеўскага войска. Памёр пад Масквою 15.VII 1611 г. Яго ваенны паход апісаны ў дзённіку пад паэтычнай назваю «Дзеі Марса крывавага».

[466] Невядома, пра якога канкрэтна з трох князёў Вішнявецкіх тут ідзе размова — Адама, Міхаіла ці Канстанціна. Апошні з іх па жонцы даводзіўся шваграм Лжэдзімітрыю I.

[467] *Ян Раман Ружынскі* (1575—1610) — князь, апошні нашчадак Нарымунта (сына Гедыміна), які 6 мая 1607 г., будучы ротмістрам кварцянага войска, прымаў удзел у бітве з ракашанамі пад Гузавам (зараз яно знаходзіцца ў Радомскім павеце Келецкага ваяводства ПНР), потым камандаваў усім шляхецкім войскам, якое было на службе ў «Тушынскага злодзея». Незадоўга да сваёй смерці ў Расіі (памёр 3.IV 1610 г.) ён прымаў удзел у пасольстве польскай шляхты з лагера самазванца да Сігізмунда III Вазы, калі той стаяў пад сценамі Смаленска, па справе эвентуальнага, г. зн. магчымага, набору войска на каралеўскую службу.

[468] Невядома, пра якога Стадніцкага — Адама ці Станіслава — аўтар запісаў вядзе размову.

[469] Сказ у рукапісу абарваны, і ў тэксце зроблен пропуск на 9 радкоў.

[470] *Кір Неафат* — асоба невядомая.

[471] Тут канчаецца тэкст запісаў «Баркулабаўскай хронікі». Пасля прабелу ў 5 радкоў у рукапісу пазней зроблена прыпіска, але і

яна абрываецца незакончаным сказам пра ваенны паход караля Уладзіслава IV пад Смаленск у 1633 г.

[472] *Уладзіслаў IV Ваза* (1595—1648) — старэйшы сын караля Сігізмунда III і Ганны Аўстрыйскай. У 1610 г. дзякуючы энергічнай дзейнасці кароннага гетмана Станіслава Жулкеўскага быў аб'яўлены рускім царом, аднак яго каранацыя не адбылася па віне самога караля, які марудзіў з адпраўкаю сына ў Маскву, спадзеючыся на тое, што замест сына зойме царскі трон сам. Гэтыя разлікі караля сталі прычынаю таго, што Жулкеўскі склаў з сябе паўнамоцтвы галоўнакамандуючага, пакінуў Расію і адмовіўся ад далейшай дзейнасці на карысць Сігізмунда III, а ў рэшце рэшт яны прывялі і да правалу поспехаў каралеўскай інтэрвенцыі. У 1612 г. інтэрвенты былі выгнаны з Масквы, а праз год на царскі трон быў абраны Міхаіл Фёдаравіч Раманаў. Тады ў 1617 г. каралевіч Уладзіслаў зрабіў сам спробу заняць царскі трон з дапамогаю войска, але і яго паход у Расію закончыўся ў 1618 г. няўдачай. У 1621 г. ён прымаў актыўны ўдзел у Хоцінскай бітве. Пасля смерці ў 1632 г. бацькі стаў каралём Рэчы Паспалітай. Будучы талерантным у рэлігійных адносінах, ён пры каранацыі прызнаў адноўленую у 1620 г. кіеўскую праваслаўную мітраполію і імкнуўся прымірыць спачатку праваслаўных з уніятамі, а потым, у 1637 г., пратэстантаў з каталікамі. У 1633 г. непасрэдна сам рушыўся з войскам пад Смаленск на выручку асаджанага там А. Гансеўскага. Вынікам гэтага паходу быў Паляноўскі мірны дагавор з Расіяй, паводле якога да Рэчы Паспалітай адышлі Смаленск, Чарнігаў і частка Северскіх зямель.

[473] *Міхаіл Барысавіч Шэін* (? — 1634) — рускі ваявода. Пры Барысе Гадунове меў званне чашніка, пры Васіле Шуйскім стаў баярынам. У 1609—1611 гг., будучы ваяводам смаленскім, на працягу 20 месяцаў абараняў асаджаны каралём Сігізмундам III Вазай горад. І толькі пасля таго, як інтэрвенты разрушылі сцены крэпасці, вымушаны быў здаць горад кн. Патоцкаму. Разам з маскоўскім мітрапалітам Філарэтам Раманавым і кн. Галіцыным правёў 9 год у Варшаве ў якасці ваеннапалоннага. Калі вярнуўся з палону, цар Міхаіл Раманаў прызначыў яго галоўным ваяводам і ў 1632 г. накіраваў з войскам пад Смаленск, каб адваяваць горад у Рэчы Паспалітай. 10 месяцаў М. Б. Шэін трымаў у асадзе Смаленск, і калі Корвін-Гансеўскі быў ужо гатовы здаць горад, пад яго сценамі нечакана з'явіўся з войскам сам кароль Уладзіслаў IV Ваза, які нанёс сакрушальны ўдар войску рускага ваяводы і прымусіў апошняга капітуляваць. За капітуляцыю і здачу каралю 123 гармат М. Б. Шэін быў абвінавачаны царскім судом у здрадзе радзіме і пакараны смерцю.

[474] *Сажань* — старая руская мера даўжыні, якая раўнялася 2,134 м.

[475] Гэтым незакончаным сказам абрываюцца запісы «Баркулабаўскай хронікі».

## Дадатак

[1] Старонкі 14 адв. — 16 адв. рукапісу змяшчаюць досыць непісьменнае апісанне Брэсцкага царкоўнага сабора 1590 г. і з'яўляюцца неад'емнай часткаю «Баркулабаўскай хронікі».

[2] Гэта царкоўна-рэлігійнае свята св. Іаана ў народзе называюць днём Івана Купалы і адзначаюць 24 чэрвеня па ст. ст.

[3] *Нітрапаліт* — скажоная назва мітрапаліта. Мітрапалітам у той час быў Міхаіл Рагоза.

[4] *Архімандрыт* — настаяцель вялікага манастыра, вышэйшы духоўны сан у манахаў.

[5] Трэба чытаць «монастыря».

[6] Супрасльскі манастыр быў пабудаваны ў 1498 г. кн. Аляксандрам Хадкевічам ля вытокаў р. Супраслі на Беласточчыне непадалёку ад яго замка. У 1500 г. манахі перанеслі яго кіламетраў на 30 ніжэй па рацэ.

[7] *Ісайя Вялікая Барада* — асоба невядомая.

[8] *Быцень* — зараз мястэчка на р. Шчары ў Івацэвіцкім р-не Брэсцкай вобл., якое ў XVI ст. належала роду Трызнаў.

[9] Пра каго канкрэтна з Трызнаў тут ідзе размова, сказаць цяжка.

[10] *Ігумен* — настаяцель мужчынскага манастыра, які па свайму духоўнаму сану стаяў ніжэй архімандрыта.

[11–12] Дадатковых звестак пра ігумена Паісія і дыякана Ігнація знайсці не ўдалося.

[13] *Архідыякан* — першынствуючы дыякан.

[14] *Каліст* — асоба невядомая.

[15] *Лаўрышаўскі манастыр* — адзін са старэйшых беларускіх манастыроў непадалёку ад Навагрудка.

[16–17] Дадатковых звестак пра гродзенскага архімандрыта Асафа і пратапопа Нестара знайсці не ўдалося.

[18] *Гродна* — старажытны беларускі горад на р. Нёман, вядомы па летапісу з 1128 г. З першай палавіны XIII ст. у складзе Вял. кн. Літоўскага. Неаднаразова разбураўся нямецкімі рыцарамі. У часы княжання Вітаўта горад дзякуючы свайму гандлёваму і палітычнаму значэнню стаў другой сталіцай Вял. кн. Літоўскага. З 1579 да 1586 г. тут знаходзілася рэзідэнцыя караля Стэфана Баторыя. З 1591 г. у горадзе існавалі брацкая школа і друкарня. У XVI—XVII стст. Гродна было буйным цэнтрам рамесніцкай вытворчасці.

[19] Маецца на ўвазе Кірыла Тарлецкі.

[20] У гэтым слове ў рукапісу апіска: «подж».

[21] *Валяр'ян Палісвет* — асоба невядомая.

[22] *Багадзельня* — прытулак для ўбогіх і адзінокіх старых людзей пры прыходской царкве.

[23] Царскімі варотамі ў царквах называецца арка іканастаса, праз якую адкрываецца ўваход у алтар — галоўную частку царквы.

[24] *Аналой* — чатырохвугольны столік з пакатым верхам, прызначаны для набажэнскіх кніг, іконы і іншых царкоўных прыналежнасцей. Вакол гэтага століка адбываецца вянчанне.

[25] *Амвон* — узвышанае месца перад царскімі варотамі ў царкве, з якога свяшчэннік чытае прыхаджанам евангелле і пропаведзі.

[26] *«...от арцыбискупа Станислава з Незна».* — Трэба чытаць: «...от арцыбискупа Станислава з Гнезна». Прозвішча яго Карнкоўскі.

*Станіслаў Карнкоўскі* (10.V 1520—3.VI 1603) — 52-і архіепіскап гнезненскі, вядомы дзеяч польскага грамадства другой палавіны XVI ст. Ён прымаў актыўны ўдзел у тагачасным грамадскім, палітычным і царкоўным жыцці. У час першага бескаралеўя, пасля смерці Сігізмунда II Аўгуста, быў галоўным дзеячом каталіцкай партыі Рэчы Паспалітай, абараняў прэрагатывы прымаса і садзейнічаў абранню на каралеўскі трон Генрыха Валуа. У часы другога беска-

ралеўя быў прыхільнікам партыі Яна Замойскага і 1 мая 1576 г. каранаваў Стэфана Баторыя. Пасля смерці прымаса Якуба Уханскага заняў яго месца архіепіскапа гнезненскага і сам стаў прымасам (1579). У трэцяе бескаралеўе дапамагаў Яну Замойскаму абраць каралём Сігізмунда III Вазу, да якога потым ахаладзеў, у выніку чаго на інквізіцыйным сейме 1592 г. выступаў за абмежаванне ўлады караля.

27 *Мухавец* — правы прыток Заходняга Буга.

28 Гэтым сказам аўтар запісаў выказвае смутак з прычыны таго, што рашэнне Брэсцкага сабора, праведзенага ў адсутнасць караля, паводле ліста прымаса Станіслава Карнкоўскага, не магло мець юрыдычнай сілы. Кароль жа ў гэты час знаходзіўся ў Швецыі па сваіх дынастычных справах.

# СЛОЎНІК МАЛАЗРАЗУМЕЛЫХ СЛОЎ

*Абовем* — бо, таму што
*Ад абсалютум доминум* — усявышняму гаспадару (г. зн. богу); абсалютнаму гаспадару (г. зн. манарху)
*Ажебы* — каб; няхай, хай
*Аз* — асабовы займ. 1-й асобы адз. л.
*Азали* — няўжо, хіба
*Активовати* — унесці дакумент у гарадскую актавую кнігу
*Амин* — сапраўды, правільна
*Аспектатива* — гарантаваная вакансія для яшчэ будучага прэтэндэнта
*Ассекурация* — вольнасць; засцярога
*Ачкольвек* — хоць і; нягледзячы на тое, што

*Бавитися* — гуляць, затрымацца
*Бакаляр* — бакалаўр, дамашні настаўнік
*Бардзей* — больш
*Бардзо, барзо* — вельмі, надта, дужа
*Бачне* — уважліва, пільна
*Бачность* — увага, пільнасць
*Бегунки* — панос
*Борзе, борзо* — хутка
*Брань* — бітва, бой, вайна
*Броити* — сваволіць, бясчынстваваць
*Бронити* — абараняць, адстаіваць к.-н. або ш.-н.
*Бронный* — узброены
*Бронь* — зброя, войска
*Бурда* — скандал, дэбош, сумятня

*Важити* — узважваць, абдумваць
*Валечный* — храбры, мужны, доблесны
*Варовати* — аберагаць, сцерагчы, каравуліць; умацоўваць (горад, пазіцыі і г. д.); абумоўліваць
*Варунек* — умова
*Варь* — гарачая вадкая страва з гароднiны
*Вборзе* — у хуткім часе
*Ве* — дзеясл. ад *ведеть*
*Ведеть* — ведаць, знаць
*Ведле* — поруч, побач, каля; адпаведна, згодна, паводле
*Везати* — далучаць да веравызнання
*Вейзрети* — узглянуць, паглядзець, унікнуць
*Веле* — многа; многія
*Велебный* — прападобны
*Велегласно* — голасна, гучна
*Велекроть* — шмат разоў, неаднаразова
*Вельможность* — знатнасць (паходжання); у спалуч. з займ.— светласць, мосць
*Вельце* — 1. вельмі, дужа, надта; крайне; 2. многа; многія
*Вем* — ведаю, знаю
*Веспол* — сумесна, разам
*Вжды* — усё ж, хоць бы
*Взъехане* — наезд
*Вид* — твар
*Вилия* — пярэдадне свята
*Владность* — улада
*Влока* — валока; зямельны надзел каля 16,8 га
*Власть* — буйное памесце, уладанне
*Вниве́ч* — у пыл, у нішто, датла
*Вобец* — разам, сумесна; наогул
*Водлуг* — адпаведна, згодна, паводле
*Военник* — воін

*Волощане* — жыхары дадзенай воласці
*Вонтпене* — сумненне
*Вонтпить* — сумнявацца
*Восполек, -ок* — разам, сумесна
*Вотовати* — галасаваць, падаваць голас; ад лац. *вотум* — даваць абяцанне
*Врыхле* — у хуткім часе
*Всказати* — паказать, растлумачыць
*Всказанне* — паказанне, тлумачэнне, указанне
*Встрот* — агіда, брыдота
*Вцале* — зусім, цалкам
*Вчесный* — ранні
*Вшакже* — аднак, але
*Вшелякий* — любы, усякі, магчымы; разнастайны, усялякі
*Вшистке* — усе, усё
*Выбранец* — рэкрут; абраннік
*Выволане* — выклік; адлучэнне, праклён
*Выволанец* — адлучаны ад царквы
*Выгладити* — браць голадам, браць зморам
*Выдерти* — вырываць, выдзіраць; вымучыць
*Выеждый* — пасыльны, спецыяльны ганец з урадавым даручэннем
*Выняти* — узяць, захапіць
*Выпис* — выпіска, копія
*Выплендровати* — выпусташыць, спустошыць, зруйнаваць
*Вырок* — прысуд, пастанова
*Выросток* — падростак, падлетак, юнак
*Вязенне* — зняволенне, палон

*Гадати* — гаварыць, талкаваць
*Гаковница* — ручная пішчаль
*Гнюс* — агіда
*Го* — скароч. форма займ. *ён* у род. скл.
*Горелку курити* — гнаць гарэлку
*Горло* — гартань, шыя
*Горло тратити* — гінуць, губляць жыццё
*Горловане* — смяротная небяспека
*Гурма* — гурт, натоўп

*Двакроть* — два разы, двойчы
*Дворный* — ветлівы, пачцівы, свецкі
*Дедич* — спадчыннік
*Де, дей* — скароч. форма ад *дескать* — маўляў, нібы
*Дело* — гармата, пушка
*Диррректум респонсум* — прамым адказам
*Дисейший* — цяперашні, сучасны, сённяшні
*Длужей* — даўжэй
*Долегливость* — немач, слабасць; хвароба
*Долеглость* — боль, пакута, турбота, клопат, непакой
*Домовство* — гаспадарка, сялянскі двор; дамачадцы
*Донеле* — пакуль, часова

*Еспектатива* — гл. аспектатива
*Ефентия респонсум* — дзеянне адказам

*Жаден* — ніводзін, ніякі
*Же* — што
*Жебы* — каб, толькі б
*Жебысте* — каб вы
*Жехмы* — што мы
*Живот* — жыццё; *по животе* — пасля смерці; *до живота* — да смерці
*Жолнер* — салдат-наймit
*Жродло* — крыніца

*Забегати* — паддобрывацца, падлізвацца, дабівацца ад к.-н. ч.-н.
*Забурене* — абурэнне растройства, парушэнне
*Завадити* — закрануць, зачапіць, перашкодзіць
*Заварте* — вывад, заключэнне
*Завартися* — замкнуцца, зачыніцца
*Заводзене* — плач, лямант, галашэнне
*Заводзень* — падман, ілжывасць
*Заводный* — ненадзейны, хісткі, падманлівы, ілюзорны
*Загамовати* — затрымаць, затармазіць, замарудзіць, прыпыніць
*Заказати* — забараніць, загадаць
*Залецати* — рэкамендаваць, раіць, прадпісаць
*Залога* — гарнізон
*Замешане, -ие* — збянтэжанасць, разгубленасць, мітусня

*Замешкати* — затрымаць, замарудзіць; пасяліцца
*Занехане* — спыненне ч.-н., адмова ад ч.-н.
*Запором* — раптоўна, дружна
*Заразом* — разам з тым, адначасова
*Зарубити замок* — заснаваць замак
*Зарутити* — закінуць (дакор), абвінаваціць к.-н. у ч.-н.
*Застава* — заклад
*Зась* — злучн. ж(жа), а
*Зацность* — сумленнасаць, высакароднасць, прыстойнасць
*Зацный* — сумленны, шляхетны, добры, слаўны
*Зашитый* — закрыты
*Збавенный* — дабратворны, жыватворны, добры
*Збродня* — злачынства, ліхадзейства
*Зверхность* — вярхоўная ўлада, вярхоўнае кіраўніцтва
*Звлаща* — асабліва, галоўным чынам
*Звлока* — затрымка, прамаруджванне, адклад, марнаванне
*Звлочити час* — адцягнуць час, зацягнуць час, пачакаць
*Звроцене* — вяртанне
*Згола* — зусім
*Звязок* — саюз; сувязь
*Здане*—думка, погляд, меркаванне
*Здостарчити* — прадставіць, даць магчымасць
*Здрой* — крыніца
*Зекгар* — гадзіннік
*Зелживость* — абразлівасць, зняважліваасць
*Зешлый* — мінулы, які быў
*Зиме* — зімою, узімку
*Зимно* — холад, сцюжа
*Зле* — кепска, дрэнна, нядобра
*Злецити* — даручыць
*Зможи* — з, сярод, паміж
*Змордованый* — замучаны, знясілены
*Знакомитый* — славуты, выдатны
*Зоставити* — пакінуць
*Зупелный* — поўны, абсалютны, увесь

*Иж* — што; бо, так як, таму што
*Ижбы* — штоб, каб
*Измышленый* — выдуманы, ілжывы
*Индей* — у іншым месцы, дзе-небудзь
*Ино* — толькі
*Истрава* — патрава (для жывёлы), ежа

*Каманица* — цагляны дом
*Кандоре* — ясна, проста
*Канон* — пярэдадне
*Карта* — паперка
*Кгды* — калі, у той час як
*Кглейт* — ахоўная грамата, від пашпарта, пропуск
*Кголк* — шум
*Килька* — некалькі
*Кламство* — хлусня, брахня, мана, няпраўда
*Княжа* — князь
*Кольвек* — колісь
*Колькакроть* — некалькі разоў, колькі разоў
*Кольканадцать* — больш 10-ці
*Кольколесят* — некалькі дзесяткаў
*Конатус* — спроба, імкненне, намаганне, задума
*Конклюзия* — заключэнне, вывад
*Конфермованый* —зацверджаны
*Кролевая* — жонка караля
*Ксенженцый* — княжаскі
*Кукобити* — саліць (?)
*Куповати* — купляць, прыкупляць

*Лавица* — лаўка (у сенаце або ў гарадскім упраўленні), урадавае месца
*Лацно* — лёгка, без цяжкасцей
*Леда каковый* — абы які
*Лекце* — лёгка, лёгкадумна
*Лекцеважити* — пагарджаць к.-н. або ш.-н., ігнараваць, манкіраваць
*Леч* — але, аднак
*Лотр* — нягоднік, падлюка, прахвост, мярзотнік, вылюдак; разбойнік
*Луп* — ваенная здабыча, трафей
*Лупежство* — рабунак, разбой, грабеж

*Маестат* — трон; манарх, вялікасць (тытул)
*Маетность* — багацце, маёмасць
*Малженство* — шлюб; муж і жонка
*Малжонек* — муж

*Малжонка* — жонка
*Мам* — маю
*Мамран* — пергаментная грамата
*Ме* — скароч. форма асабовага займ. *я* ў він. скл.
*Мед сытити* — рабіць з мёду хмяльное пітво
*Меженский* — галодны
*Межи* — між, паміж, сярод
*Менитися* — іменавацца, называць сябе
*Мерный* — сярэдні, пасрэдны, звычайны
*Меский* — гарадскі
*Место* — горад
*Мешкане* — жыццё, месцажыхарства, кватэра, жыллё
*Мешканец* — жыхар
*Мешкати* — жыць, пражываць, знаходзіцца, прабываць
*Мещанин* — гаражанін
*Ми* — скароч. форма займ. *я* ў дав. скл.
*Мней* — менш
*Мнемати* — лічыць, меркаваць, думаць, уяўляць
*Мних* — манах
*Мовене* — размова, гаворка, гутарка
*Можнасць* — магчымасць; багацце
*Можный* — магутны, уплывовы; багаты
*Мордерство* — забойства, разбой
*Мордовати* — тузаць, забіваць, катаваць, мучыць
*Мость* — скароч. форма ад *милость*
*Мотлох* — натоўп, зброд
*Мус* — неабходнасць, патрэба, прыняволенне
*Мша* — царкоўная служба ў каталікаў

*Назбыт* — занадта, дужа, залішне, вельмі
*Назвиско* — назва, прозвішча
*Найдлужей* — найдаўжэй
*Наймней* — найменш, менш за ўсё, самае малае; прынамсі
*Найопатрнейшый* — надзвычай прадбачлівы або празарлівы
*Намова* — угавор, умова, папярэдняе дамаўленне
*Намовити* — падгаварыць, перакanаць
*Напротивку* — насустрач
*Нарадити* — параіць, даць параду
*Натирати* — атакаваць, наступаць, напіраць
*Натронтити* — навесці на думку, падказаць, наштурхнуць
Небытность — адсутнасць
*Не вем* — не ведаю
*Незамерный* — наўмысны, незадуманы
*Незапомнене* — памяць, незабыванне
*Немаетный* — небагаты, немаёмны
*Нендза* — нястача, убоства, крайняя беднасць
*Неомешканый* — неадкладны, тэрміновы
*Неомыльный* — непагрэшны, беспамылковы
*Непоеднокроть* — неаднаразова
*Непреспечность* — небяспека
*Неслава* — ганьба
*Неснаска* — разлад, сварка
*Неулитованый* — бязлітасны, жорсткі
*Неуставичность* — няўстойлівасць, зменлівасць
*Нецнотливый* — гнусны, подлы, нізкі, бясчэсны
*Нецо* — некалькі, крыху, трохі
*Нешпорная година* — вячэрня, вячэрняя служба, час вячэрняй імшы
*Нижли* — чым, ніж, як, за
*Ним* — перш чым, раней чым
*Ниц* — нічога, зусім, нікольki
*Новотный* — новы
*Ноембрий* — лістапад
*Нужа* — патрэба, нястача, беднасць

*Обваровати* — умацаваць; гарантаваць, забяспечыць
*Обелживость* — абразлівасць, зняважлівасць
*Обетница* — абяцанне
*Обецне* — зараз, у сучасны момант
*Обецность* — прысутнасць, наяўнасць
*Обланок* — зубчатая сцяна, умацаванне
*Обмова* — нагавор, напрасліна, паклёп
*Обфите* — багата, шчодра

*Обыватель* — грамадзянін, землеўладальнік
*Ова, ово* — вось; тое
*Овде* — там, у іншым месцы
*Овшем* — вядома, зразумела
*Овый* — той
*Одлеглейший* — самы далёкі
*Ознаймене* — аб'ява, заява, паведамленне
*Окрутне* — жорстка, люта, бесчалавечна
*Окультате реймен* — тайная (скрытая) каманда, кіраўніцтва
*Омешкать* — прапусціць час, празяваць зручны момант
*Оный* — той, тая, тое
*Опатрене, -ие* — дагляд, прыгляд; перавязка, клопат
*Опатренней* — асцярожней, прадбачлівей, разважлівей
*Опатрывати* — прыводзіць у парадак, забяспечваць
*Оповедити* — расказаць, паведаміць
*Опустити* — пакінуць, забыць, прапусціць
*Орация* — прамова
*Осадити слободы* — заснаваць новыя пасяленні
*Освецати* — высвятляць, асвятляць
*Освядчыти* — заявіць, аб'явіць
*Осесть* — абаснавацца, пасяліцца на новым месцы
*Оскаржене* — абвінавачанне
*Отвороны лист* — адкрытка
*Отгамовати* — утаймаваць, супакоіць
*Оттамтоль* — з тых месц
*Ото* — вось
*Оточити* — акружыць, аблажыць, абступіць
*Отуха* — бадзёрасць, надзея, спадзяванне
*Очевисте* — відавочна, яўна

*Паки* — яшчэ, зноў
*Панна* — незамужняя дзяўчына, паненка
*Панство* — 1. дзяржава, царства; 2. муж і жонка
*Патрити* — глядзець, сачыць, унікаць
*Пенежный* — грашовы, багаты на грошы
*Пенёндзы* — грошы
*Пены* — суцягі, склокі, звадкі, сваркі
*Переказа* — паведамленне, чутка, пераказ
*Переметчик* — перабежчык, здраднік
*Переставитися* — памерці, сканаць, развітацца з жыццём
*Пересторога* — перасцярога, папярэджанне
*Пиенкный* — прыгожы, цудоўны
*Плендровати* — грабіць, рабаваць
*Побожность* — набажнасць
*Поброити* — насваволіць, напракудзіць
*Поважене* — павага, пашана
*Поведати* — сказаць, паведаміць
*Поветре* — пошасць, эпідэмія
*Повроз* — (тоўстая) вяроўка
*Поготову* — асабліва, найбольш; быць у гатоўнасці
*Погреб тела* — пахаванне нябожчыка
*Подеймовати (подоймовати)* — узнімаць
*Пожегнатися* — развітацца
*Пожитек, -ок,* — карысць, выгада
*Пожитечне* — карысна
*Позов* — выклік, павестка ў суд, іск да к.-н.
*Поклекнути* — стаць на калені
*Покой* — мір
*Полместа* — палавіна горада
*Полупити* — абдзерці, аблупіць, парабаваць, абрабаваць, нарабаваць, абабраць
*Поминки* — даніна татарам, каб яны захавалі мір
*Помордовати* — перабіць, забіць, замучыць, замарыць
*Поневаж* — таму што, так як, бо
*Понеже* — бо, таму што, паколькі
*Поплюгавити* — зняславіць, зганьбіць
*Порозумене* — згода, дагавор, дамоўленасць
*Посвар* — сварка, разлад, нелад
*Посилок* — ежа, падмацаванне
*Посилковый* — дапаможны
*Посполите* — звычайна
*Посполитый* — звычайны, просты
*Постыдатися* — пасароміцца
*Потарчка* — сутычка

*Потомный час* — будучы час
*Потужный* — магутны, моцны
*Похвалка* — пагроза
*Почестки* — частаванне
*Почет, почот, почт* — атрад, світа, картэж
*Почтивость* — дабрадушнасць, дабрата, сардэчнасць
*Праве* — амаль, траха, ледзь
*Предсе* — хоць, хаця, усё ж, аднак
*Предсевзятье* — намер, пачын
*Презрене* — боская апека
*Прекладати* — пераконваць, угаварваць
*Преложити* — перанесці, пераменіць
*Преложоный* — вышэйшы, вышэйстаячы; начальнік; кіраўнік (духоўнай паствы)
*Преможене* — магчымасць, дастатак
*Преповедане* — прадказанне, прароцтва
*Препомнене* — напамінанне, успамін
*Прерыпендия* — перахоп; апярэджанне, пазбаўленне
*Преспечна* — бяспечна
*Преткий* — прыткі, хуткі, шпаркі
*Прето* — таму, пагэтаму
*Привиль* — прывілейная грамата
*Привротити* — аднавіць, вярнуць
*Привротитися* — апрытомнець, апамятавацца
*Пригана* — вымова, ганьбаванне
*Призвоитый* — прыстойны
*Призволене* — дазвол
*Примовити* — дакараць, рабіць закід, упікаць
*Примире* — перамір'е
*Припадек* — здарэнне, прыгода
*Припатритися* — прыглядзіцца, разглядзець
*Притомный* — пры памяці, цвярозы, халаднакроўны
*Причинене* — садзейнічанне
*Пришлый* — будучы
*Прожне* — дарэмна, марна
*Про патрия* — аб радзіме
*Про реи публице боно* — аб дабрабыце дзяржавы (рэспублікі)
*Просто* — прама
*Прото* — гл. *прето*
*Прудко* — хутка
*Публице* — адкрыта, публічна
*Пулгак* — від караткаствольнай стрэльбы
*Пяток* — пятніца

*Рада* — парада; сенат, гарадская ўправа
*Радити* — раіць, даваць параду, рэкамендаваць
*Радный* — член магістрата, саветнік, сенатар
*Рачей* — хутчэй; лепей; бадай
*Рачити* — рабіць ласку, мець ласку, зычыць, жадаць, хацець
*Релия* — рэлігія, веравызнанне
*Репетовати* — паўтараць
*Респонс* — адказ
*Ретельно* — добрасумленна, чэсна, шчыра, сапраўдна
*Реч* — рэч, прадмет, справа
*Рихло, рыхло* — хутка, шпарка
*Розказане* — загад, распараджэнне
*Розмаите* — па-рознаму, усякае
*Розмаитый* — розны, разнастайны
*Розшарпати* — разарваць, пашматаць
*Рок* — год, тэрмін
*Ролья* — ралля, зямля

*Сведом быти рачиш* — маеш ласку быць дасведчаным
*Селище* — сяліба, сядзіба
*Септеврий* — верасень
*Сесь* — гэты
*Сила* — мноства, шмат
*Сиречь* — або, інакш кажучы
*Скутечне* — эфектыўна, дзейсна
*Скуток* — вынік, вывад
*Словне* — вусна, на словах
*Совите* — шчодра, багата
*Спижа* — прадукты харчавання; бронза
*Спижарня* — кладоўка
*Спижовати* — забяспечваць харчаваннем
*Сполный* — агульны, сумесны, супольны
*Стан* — становішча
*Стан малженский* — жыццё ў шлюбе, шлюб
*Статечне* — паважна, стала, сур'ёзна
*Столец* — трон, сталіца
*Страпити* — засмуціць, замаркоціць; устурбаваць

*Стяти* — адсеч галаву
*Суспиция* — падазрэнне
*Сходка* — збор; сустрэча, спатканне

*Табор* — абоз; табар
*Талия* — такі, такая, такое
*Тамтой* — той
*Тармена* — копія
*Тераз* — зараз, цяпер, у дадзены момант
*Терминация* — выпіска (?)
*Тижба* — натоўп
*Трафити* — сустрэць к.-н. ці ш.-н., трапіць
*Тушити* — спадзявацца, чакаць

*Убогий* — бедны, няшчасны, жабрак
*Угляды* — ?
*Угорский* — венгерскі
*Укра́ина* — аколіца, ускраіна дзяржавы, пагранічча
*Улитовати* — злітавацца, змілавацца, пашкадаваць
*Умыкати* — уцякаць ад к.-н. ці ч.-н., пазбягаць, ухіляцца
*Умыслне* — знарок, наўмысна
*Упадлость* — банкруцтва, неплацежаздольнасць
*Упатрити час* — выбраць, падабраць час; дачакацца
*Упокой* — мір
*Упокойная рада* — мірная парада
*Упреймый* — ветлівы, далікатны
*Упродце* — раней
*Ураза* — крыўда; траўма
*Уругане* — здзек, кпіны
*Уряд* — установа, ведамства; пасада, пост, служба
*Усеймовати* — вырашыць на сейме
*Уставичне* — пастаянна, увесь час
*Устеклый* — шалёны
*Устификоване* — устанаўленне ісціны
*Учтивость* — чэснасць, добрасумленнасць, прыстойнасць
*Ушаток* — цэбар

*Фебра* — ліхаманка, гарачка
*Фортель* — хітрыкі, махлярства
*Фортунне* — шчасліва
*Фрасунок* — смутак, клопат, жаль, гора
*Фримарек* — менавы гандаль, абмен

*Хлопя* — падростак, юнаша
*Хуть* — ахвота, жаданне, намер; *с хутью* — з гарачым жаданнем

*Чтити* — паважаць, шанаваць, пакланяцца

*Шарпати* — рваць, шматаць
*Шата* — адзенне, убранне
*Шафар* — эканом
*Шафунок* — марнатраўства, трата
*Шацовати* — ацэньваць, ацэньваць
*Швырень* — застаўка ў вадзяным млыне
*Шкапа* — кляча
*Шкарадный* — агідны, брыдкі, пачварны
*Шмер* — шум, шоргат
*Шпетный* — гадкі, брыдкі, агідны
*Шпиталь* — багадзельня, шпіталь
*Штокольвек* — што-небудзь, крыху

*Щодробливость* — шчодрасць

*Юж* — ужо
*Юкгум сернитатис про патрия* — цяжар клопату аб радзіме
*Ютро* — рана, заўтра

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁН*



* Каралі, цары, вялікія князі, іх жонкі і асобы духоўнага сану даюцца ў паказальніку па імёнах, іншыя асобы — па прозвішчах.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## ЗМЕСТ

**Помнікі** старажытнай беларускай пісьменнасці.
П55 Рэд. Ю. С. Пшыркоў. Мн., «Навука і тэхніка», 1975.

248 с. (АН БССР. Ін-т літаратуры імя Янкі Купалы). У перапл.

**У кнізе змешчаны лісты вядомага ваеннага і палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага Ф. С. Кміты-Чарнабыльскага і тэкст мясцовай хронікі сяла Баркалабава (Магілёўская вобл.). Гэтыя творы даюць яркае ўяўленне аб жыцці, побыце і палітычнай барацьбе ў Беларусі XVI—пачатку XVII ст. Тэксты шырока каменціруюцца.—Бібліягр. у падрадк. заўвагах.**

8С(Бел)

П $\frac{70303—099}{М316—75}$ 64—75

На белорусском языке

**ПАМЯТНИКИ ДРЕВНЕЙ БЕЛОРУССКОЙ ПИСЬМЕННОСТИ**

Издательство «Наука и техника»
Минск, Ленинский проспект, 68

Рэдактар Л. А. Шрубок
Вокладка А. А. Сіваконя
Мастацкі рэдактар Л. І. Усачоў
Тэхнічны рэдактар І. П. Ціханава
Карэктар А. В. Гарачун

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. АТ 11216. Здадзена ў набор 13.VI-75 г. Падпісана да друку 18.IX-75 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Друк. арк. 7,75. Ум. друк. арк. 13,02. Уч.-выд. арк. 14,9. Выд. зак. 108. Друк. зак. 1217. Тыраж 3000 экз. Цана 1 руб. 14 кап.

Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта СМ БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.